27 лістапада 2015 | № 45 (462)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Дзень у ваенным музеі стар. 6

5 МАЯ ПРАЦА МНЕ ПАДАБАЕЦЦА

Арцём размеркаваўся ў Дзяржаўны інстытут метралогіі, а пасля застаўся там працаваць. Яго гісторыя — прыклад таго, як маладога спецыяліста можа задавальняць абсалютна ўсё



29 ГУЛЬНЯ ЭРДАГАНА. ПОГЛЯД ТУРЭЦКАГА АПАЗІЦЫЯНЕРА

Пра рэакцыю турэцкага грамадства на канфлікт Расіі і Турцыі распавядае Булен Муфтуагу, прадстаўнік апазіцыйнай Народнай дэмакратычнай партыі Турцыі (HDP)

9–24 Літаратурная Беларусь

30 З ГІСТОРЫІ АДНОЙ ВАНДРОЎКІ ПА ГАРАДАХ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Падчас знаходжання ў Навагрудку адным з першых месцаў, куды адправіўся Ігнацій Масціцкі, была будаўнічая пляцоўка беларускай школы

# Што было б, калі…

**Рэферэндум 1996 года прадвызначыў тую рэчаіснасць, у якой мы жывём зараз.**



Сяргей ПУЛЬША

Рэферэндум 1996-га года, 19-ю гадавіну якога мы адзначылі на тыдні, у пэўных колах даўно атрымаў назву «мяккага дзяржаўнага перавароту». З гэтага моманту ніводныя выбары і іншыя галасаванні ў Беларусі не прызнаваліся міжнароднай супольнасцю як справядлівыя і дэмакратычныя.

Ад рэферэндуму 1996-га растуць усе элегантныя перамогі дзейнага кіраўніка дзяржавы. Бо менавіта тады гвалтоўна і незаконна змяніўшы на пасадзе кіраўніка ЦВК Віктара Ганчара на Лідзію Ярмошыну (дагэтуль памятаю разгублены твар тагачаснага кіраўніка Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага, калі «спартовыя хлопчыкі ў цывільным» не пускалі яго ў памяшканне ЦВК), Аляксандр Лукашэнка па сваіх пытаннях атрымаў 80% падтрымкі.

Парушэнні, якія былі выяўленыя ў ходзе рэферэндуму–1996, зараз называюць «асаблівасцю беларускай выбарчай мадэлі». Бо з імі праходзяць кожныя выбары ў РБ.

Нагадаем асноўныя з іх. Напрыклад, камісіі па рэферэндуму павінны былі стварацца Саветамі дэпутатаў не пазней чым за месяц да рэферэндуму. У рэальнасці яны былі створаны за 5–7 дзён да рэферэндуму органамі выканаўчай улады. Зараз выканаўчая ўлада фармуе і выбарчыя камісіі.

Выбаршчыкі заклікаліся (а ў шмат якіх выпадках прымушаліся) прагаласаваць датэрмінова. Выключэнне для адзінак было зроблена правілам для ўсіх: у многіх населеных пунктах датэрмінова прагаласавала 30 і больш працэнтаў выбаршчыкаў, што Віктар Ганчар пракаментаваў проста як здзек са здаровага сэнсу. Датэрміновае галасаванне доўжылася два тыдні, яно пачалося 9 лістапада.

Бюлетэні для галасавання друкаваліся Упраўленнем справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Яны былі дастаўлены на выбарчыя ўчасткі абыходзячы Цэнтрвыбаркам і абласныя камісіі па рэферэндумах. Улік колькасці бюлетэняў нікім не ажыццяўляўся.

На думку міжнародных назіральнікаў ад Еўрапейскага інстытута па СМІ, практычна ўвесь эфірны час, прысвечаны рэферэндуму (90%), быў на карысць кіраўніка дзяржавы.

У дзень рэферэндуму чыніліся перашкоды назіральнікам, прадстаўнікам палітычных партый і грамадскіх арганізацый пры ажыццяўленні кантролю за ходам галасавання; іх не дапускалі на ўчасткі, адмаўлялі ў атрыманні інфармацыі. Выбаршчыкі дапускаліся да галасавання без дакументаў, якія сведчаць асобу; меліся пашкоджанні пломбаў на скрынях для галасавання; выяўлены факты падробкі подпісаў выбаршчыкаў.

Падаецца, што ўсе гэтыя парушэнні можна прышпільваць да любых выбараў у Беларусі. А вызначаная гэтая сістэма менавіта рэферэндумам–1996.

Палата прадстаўнікоў, створаная ў выніку рэферэндуму, не была прызнаная за легітымны парламент, і краіна пазбавілася статуса «спецыяльна запрошанай» у Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Гэта можна назваць першай санкцыяй у дачыненні да беларускай улады. Потым гэтых санкцыяў будзе болей.

Між іншым, і «Плошча» таксама была ў 1996 годзе. Грамадзяне ўдзень і ўначы стаялі пад будынкам Вярхоўнага Савета, дэманструючы яму падтрымку. І тады ж прайшоў першы Усебеларускі народны сход: 19 лістапада 1996 года. Потым ён стаў традыцыйным перад прэзідэнцкімі выбарамі, традыцыя скончылася толькі ў гэтым годзе.




**Ад рэферэндуму 1996-га растуць усе элегантныя перамогі дзейнага кіраўніка дзяржавы**

Як на Захадзе, так і на Усходзе зараз папулярны жанр «гістарычнай фантастыкі»: «А што было б, калі…». Што было, калі б Лукашэнка альбо прайграў рэферэндум, альбо адмовіўся ад ягонага правядзення?

Менавіта такую магчымасць прадугледжваў «нулявы варыянт», падпісаны ў выніку пасярэдніцкіх дзеянняў кіраўніцтва Расіі. У ноч на 22 лістапада ў Мінску прайшлі перамовы старшыні Дзярждумы РФ Генадзя Селязнёва, прэм'ер-міністра Віктара Чарнамырдзіна, старшыні Савета Федэрацыі Ягора Строева, Аляксандра Лукашэнкі і Сямёна Шарэцкага. Падпісанае «Пагадненне аб грамадска-палітычнай сітуацыі і аб канстытуцыйнай рэформе ў Рэспубліцы Беларусь» прадугледжвала, што Лукашэнка адмяняе свае ўказы пра рэферэндум, а сам плебісцыт будзе насіць рэкамендацыйны характар. У сваю чаргу Вярхоўны Савет адклікае з Канстытуцыйнага Суда справу пра імпічмент. Прадугледжвалася фарміраванне на парытэтных пачатках Канстытуцыйнага Сходу для выпрацоўкі новай рэдакцыі Асноўнага Закона.

Лукашэнка б не адступіўся ад сваёй ідэі змяніць парламенцка-прэзідэнцкую на цалкам прэзідэнцкую рэспубліку. Канстытуцыйны сход наўрад ці знайшоў бы кампраміс паміж ВС і кіраўніком дзяржавы. І ў той жа час захопам ЦВК было прадэманстравана, што Лукашэнка не пасаромеецца і парламент разагнаць, па прыкладзе Ельцына ўзору 1993 года.

Што-небудзь магло б змяніцца, калі б парламент настойліва прасоўваў справу імпічменту і не пагадзіўся б разыходзіцца пасля абвяшчэння вынікаў рэферэндуму, нават нягледзячы на пагрозы разгону. Але чакаць такога ад таго парламента — гэта ўжо зусім фантастыка.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БРЭСТ. Гарвыканкам забараніў пікеты, прысвечаныя эканамічным праблемам



**Мясцовыя сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі планавалі на працягу аднаго дня правесці дзесяць пікетаў у розных месцах горада, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем, звязаных з эканамічным крызісам у краіне і неабходнасцю рэфармавання эканомікі.**

Згадказу за подпісам намесніка старшыні Брэсцкага гарвыканкама Генадзя Барысюка вынікае, што падставай для адмовы ў правядзенні акцый з'явілася адсутнасць дамоўленасцяў з арганізацыямі аховы здароўя, камунальнымі службамі і праваахоўнымі органамі.

Як паведаміў намеснік старшыні АГП Уладзімір Вуек, такая рэакцыя ўладаў прагназавалася, таму замест пікетаў вырашана было правесці альтэрнатыўныя мерапрыемствы, падчас якіх сябры і актывісты партыі распаўсюдзілі сярод мінакоў і праз паштовыя скрыні жыхароў горада амаль 1000 асобнікаў інфармацыйнага бюлетэня «Голас розуму», у якім падрабязна распавядалася пра прычыны эканамічнага крызісу і пра сутнасць праграмы АГП «Мільён новых працоўных месцаў».

### БАБРУЙСК. Шматдзетны бацька без працы з-за грамадскай дзейнасці



**Актывіст кампаніі «Гавары праўду» з Бабруйску з верасня не можа ўладкавацца на працу. Уладзімір Шчарбатых быў вымушаны звольніцца з пасады галоўнага заатэхніка ў філіяле «Варатынь» акцыянернага таварыства БЗ «ТДіА» падчас сёлетняй прэзідэнцкай кампаніі.**

У сям'і Шчарбатых шэсць дзяцей, жонка ў дэкрэтным адпачынку з самым малодшым — яму год і восем месяцаў.

«Я маю спецыяльнасць заатэхніка, але ў хуткім часе буду абараняць дыплом інжынера ў Горацкай акадэміі. То бок, мая адукацыя дазваляе мець годную працу і годны заробак, — кажа Уладзімір Шчарбатых. — Менавіта за годным заробкам я і перайшоў працаваць з птушкафабрыкі ў «Варатынь», дзе займаў пасаду галоўнага заатэхніка. Я маю добрыя характарыстыкі з усіх працоўных месцаў, і тут таксама стараўся добра рабіць сваю справу. Але праз нейкі час заўважыў касыя позіркі ў свой бок. Мяне выклікаў дырэктар, і пачаў цікавіцца «партыйнай прыналежнасцю». Я патлумачыў, што «Гавары праўду» — гэта не партыя, але ён заявіў, што «яму без розніцы». Потым у мяне былі сустрэчы з бабруйскімі ідэолагамі... Мне далі зразумець, што калі не звольнюся сам, яны загадаюць падначаленым сабатаваць мае даручэнні, сарвуць працу. І тады мяне звольняць за непрафесійнасць. Я сышоў адтуль пад ціскам. У той час я быў на сесіі, а яшчэ і на бальнічным, то бок, яны нават не мелі права мяне звальняць. Але былыя працадаўцы вырашылі напляваць і на працоўнае заканадаўства».

Уладзімір Шчарбатых кажа, што аб'ехаў у пошуках працы не толькі Бабруйск, але і раён, і вобласць, і паўсюль атрымаў адмову. З 17 верасня ён афармлены ў Цэнтры занятасці як беспрацоўны.

«Зараз ёсць надзея на адно месца, але яно вельмі далёка ад Бабруйска. Калі ўсё пойдзе добра, і мяне возьмуць, давядзецца пераехаць туды жыць. Я буду бачыцца з сям'ёй толькі па выхадных, але лепей так, чым ведаць, што ты не можаш забяспечыць дзяцей, — кажа шматдзетны бацька. — Дагэтуль не магу ўсвядоміць, што людзей могуць так проста звальняць за іх грамадскую дзейнасць ці погляды. Я маю выдатныя характарыстыкі з усіх месцаў працы, не маю дрэнных звычак, у мяне ўзорная шматдзетная сям'я. Здавалася б, што яшчэ трэба? Гэтая сітуацыя паставіла нас у вельмі незайздроснае становішча, нас проста выбілі з каляіны».

**spring96.org**

# Някляеў: «Вы за гэта адкажаце»

Уладзіслаў РУБАНАЎ

**У Мінску прайшла акцыя апазіцыі, прымеркаваная да гадавіны рэферэндуму 1996 года.**



Фота Уладзіслава Рубанава

**Акцыя з нагоды гадавіны рэферэндуму 1996 года**

Сабрацца, каб ушанаваць памяць тых, хто «ахвяраваў сваім жыццём дзеля волі Беларусі», заклікаў у сацыяльных сетках Мікалай Статкевіч.

Увечары 24 лістапада каля ГУМа ў Мінску паступова сталі збірацца тыя, каго гэты заклік не пакінуў абыякавым.

Адной з мэтаў сходу было запаліць знічкі ля месцаў, дзе працавалі Юры Захаранка і Віктар Ганчар. Таму людзі пайшлі да будынкаў МУС Рэспублікі Беларусь і ЦВК. Але паставіць свечкі атрымалася толькі каля ЦВК, бо ўваход у МУС быў перагароджаны брамкай і дарожна-рамонтнай машынай.

«Мы сабраліся, каб сказаць: мы ўсё памятаем, і вы за гэта калі-небудзь адкажаце. І за тое, што вы зрабілі з канстытуцыяй, і за тое, што вы зрабілі з нацыянальнымі сімваламі, і за тое, што вы зрабілі з мужнымі людзьмі»,— сказаў Уладзімір Някляеў.

Абвешчаную хвіліну маўчання парушылі міліцыянеры. Яны падскочылі да Статкевіча і Някляева і пачалі складаць пратаколы.

Пасля гэтага пад пратаколы трапілі звычайныя ўдзельнікі акцыі, і нават журналісты і праваабаронцы.

У прыватнасці, нягледзячы на адмысловая камізэлькі і бейджы, пратаколы былі складзены на назіральнікаў ад Беларускага Хельсінкскага камітэта і «Вясны» Сяргея Каспяровіча, Наталлю Сацункевіч. Міліцыя праігнаравала журналісцкія пасведчанні і склала пратаколы ў адносінах да журналісткі «Радыё Свабода» Галіны Абакунчык, журналісткі газеты «Народная воля» Кацярыны Андрэевай і нашага калегі Зміцера Галко.

Тым часам у другой палове дня 25 лістапада сітуацыя займела нечаканы працяг. Прэс-сакратар сталічнай міліцыі Аляксандр Ластоўскі так пракаментаваў сітуацыю «Еўрарадыё»: «Супрацоўнікі сказалі, што пратаколы не былі складзеныя. Яны пачалі складаць, але потым зразумелі, што гэта журналісты, і ў дачыненні да іх пратаколы не былі складзеныя».

# Ці захаваецца Балдук?

Арцём ЛЯВА

**Ужо трэцяе пасяджэнне паводле іску грамадзянскага аб'яднання «Экадом» супраць Пастаўскага выканкама адбылося 25 лістапада ў Глыбоцкім раённым судзе. Нагадаем, Пастаўскі выканкам даў дазвол на будаўніцтва на беразе возера Балдук царквы і іншых збудаванняў без правядзення грамадскага абмеркавання.**

Справу разглядаў суддзя Андрэй Тарасевіч. Суд зноў заслухаў сведкаў з абодвух бакоў, сярод якіх былі старшыня Лынтупскага сельскага выканаўчага камітэта Аляксандр Макаранка, прадстаўнік райвыканкама Алесь Ціхановіч, а таксама жыхары бліжэйшых вёсак — Ігар Пастухоў, Мікалай Івашын і іншыя.

Заяўнікі — Яраслаў Бекіш (экалагічнае таварыства «Зялёная сетка»), Рыгор Фёдараў (ГА «Экадом»), жыхары вёскі — перакананыя, што для будаўніцтва культавага аб'екта на дзяржаўнай зямлі па законе неабходна правядзенне грамадскага абмеркавання. Чыноўнікі лічаць, што гэта неабавязкова.

Фундатар будоўлі Мікалай Рамановіч кажа, што яму не прынцыпова, дзе паставіць царкву: «Чаму я будую ў вёсцы Станчыкі? Таму што месца там далі. Мне не прынцыпова, дзе будаваць. Можна было і ў Вайшхунах, дзе больш праваслаўных, але там яшчэ бліжэй да возера».

Жыхароў бліжэйшых вёсак не задавальняе стаўленне да іх мясцовага начальства, а дакладней — ігнараванне іх меркавання ў пытанні будаўніцтва побач з возерам Балдук і іх дамамі. Людзей таксама вельмі хвалюе лёс унікальнага возера Балдук.

«Жыхары нашай вёскі абураныя, што з імі нават не параіліся, а паставілі перад фактам. Я супраць пабудовы царквы, бо, як кажуць у народзе, пусці свінню пад стол — залезе на стол. Спачатку пабудуюць царкву, потым праваслаўны моладзевы лагер на 150 месцаў — і пайшло-паехала... Што пасля гэтага застанецца ад возера, можна толькі здагадвацца», — кажа журналісту НЧ Валянцін Відэйка, жыхар вёскі Станчыкі.

Падчас судовых спрэчак Рыгор Фёдараў патлумачыў, што вёска, дзе будуецца комплекс культавых аб'ектаў, з'яўляецца анклавам гідралагічнага заказніка. І, па сутнасці, вельмі важнае пытанне ацэнкі ўздзеяння на асяродак гаспадарчай дзейнасці жыхароў вёскі і, адпаведна, насельнікаў аб'екта, што можа быць пабудаваны. Такой ацэнкі зроблена не было. Ён таксама прывёў нядаўні прыклад правядзення грамадскага абмеркавання па аналагічным аб'екце у Віцебску і Паставах. «Чым жыхары Станчыкаў горшыя за жыхароў Віцебска? Чаму парушаюцца іх правы?» — задае пытанне юрыст. Закон павінен быць аднолькавы для ўсіх грамадзян Беларусі. Грамадскае абмеркаванне абавязковае. Гаворка не ідзе пра адмену ранейшага рашэння, а пра аднаўленне правоў грамадзян.

Напрыканцы пасяджэння суддзя заявіў, што рашэнне будзе абвешчана 27 лістапада а 10 гадзіне.

Працоўнікі будаўніцтва звяртаюць увагу на тое, што возера Балдук знаходзіцца на тэрыторыі нацыянальнага парка «Нарачанскі», дзе ўсялякая гаспадарчая дзейнасць абмежаваная. Само ж возера — унікальнае па сваёй прыгажосці і чысціні. Яно малапраточнае, вада ў ім натуральным чынам абнаўляецца цягам 30-ці гадоў. Ужо цяпер Акадэмія Навук рэкамендавала значна паменшыць антрапагенную нагрузку на гэтую водную экасістэму, абмежаваўшы доступ да возера нават звычайным турыстам. Эколагі справядліва апасаюцца, што комплекс культавых пабудоў на беразе вадаёма незваротна яго забрудзіць.

# Каму не падабаюцца карціны?

Марат ГАРАВЫ

**У мінскім Палацы мастацтва адкрылася выстава, прысвечаная 25-годдзю творчай суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў і 75-годдзю аднаго з яе заснавальнікаў і яе нефармальнага лідара, выбітнага беларускага мастака і грамадскага дзеяча Алеся Мары (Аляксея Марачкіна). Як заўсёды, не абышлося без скандалу.**

У экспазіцыі прадстаўлены лепшыя творы выяўленчага і дэкаратыўна-ўжыткowага мастацтва, створаныя «пагонічамі» цягам чвэрці стагоддзя. Сярод іх — сюжэтныя карціны, краявіды, партрэты, зброя і даспехі.

Алесь Мара да сваёй чарговай юбілейнай выставы падрыхтаваў шэраг новых твораў жывапісу, у тым ліку «Маці Божую Нябесной сотні» і «Двубой, альбо супрацiў двухгаловаму мутанту» — прысвячэнні героям украінскага Майдану і барацьбе народу Украіны супраць расійскай агрэсіі.

Аднак пасля адкрыцця па патрабаванні прадстаўніцы Міністэрства культуры з выставы былі знятыя тры творы — той самы твор Алеся Мары «Двубой...», Алеся Пушкіна «Памяці беларусаў, загінулых за Украіну» і партрэт амерыканскай мастачкі беларускага паходжання Галіны Русак работы Віктара Маркаўца. Прычым, апошняе палатно знялі толькі за тое, што фон карціны нагадаў цэнзаршы бел-чырвона-белы сцяг. Яшчэ два творы — карціна Алеся Цыркунова, прысвечаная бітве пад кляштарам Монтэ-Касіна ў Італіі, дзе ў траўні 1944 года ў барацьбе з нацыстамі загінулі 264 нашы суайчыннікі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, а таксама плакат Уладзімера Крукоўскага «Што мы за людзі?», — зніклі з экспазіцыі невядома па чым загадзе. «Мы пакуль дакладна не ведаем, хто зняў гэтыя творы — супрацоўнікі Міністэрства культуры альбо прадстаўнікі кіраўніцтва Беларускага саюза мастакоў. Але паколькі гэта зроблена без узгаднення з кіраўніцтвам нашай суполкі, аўтары твораў пішуць заявы ў прэзідыум творчага аб'яднання з просьбай патлумачыць, чаму гэта было зроблена», — зазначыў старшыня суполкі Генадзь Драздоў.

Выстава працуе да 29 лістапада, так што яшчэ ёсць шанец патрапіць на яе, пакуль не ўсе творы адтуль зніклі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# І без усялякіх дыетаў



Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усе замежнікі здзіўляюцца, чаму беларускія жанчыны такія прыгожыя. У большасці сваёй — без залішняй вагі, прывабненькія… Ды проста таму, што ў нас ёсць дзве класныя нацыянальныя забаўкі. Першая — гэта, канешне, чаканне дэвальвацыі. А другая — перыядычнае «зацягванне паясоў».**

Калі першая забаўка ў нас перманентная, то другая ўзнікае раз-пораз. Хутка нам скажуць, што Новы год, мы, канешне, павінны адзначыць годна, са сваякамі, сябрамі, чаркай і шкваркай, а вось потым давядзецца зацягнуць паясы.

Два тыдні ў краіне працавала місія МВФ, якая вырашала, даць Беларусі крэдыт ці не. На ўлагоджванне акулаў імперыялізму была кінутая самая цяжкая артылерыя: з кіраўніком місіі Пітэрам Долманам сустрэўся сам Аляксандр Рыгоравіч. Ён шмат казаў, што ўмовы МВФ уже не выклікаюць у яго агідзы: мауляў, атрымліваеш паслугу — плаці, гэта справядліва. І тым не менш…

Як вынікае з заявы місіі і паведамлення Нацбанка, Беларусь і МВФ не змаглі ўзгадніць праграму рэформаў, ад якой залежыць выдача крэдыту ў $3 мільярды. Канешне, ёсць шмат словаў пра тое, што «персанал МВФ і афіцыйныя органы Рэспублікі Беларусь дамагліся істотнага прагрэсу ў абмеркаванні шэрагу мер эканамічнай палітыкі», і «бакам удалося істотна зблізіць свае пазіцыі», але «для абмеркавання некаторых пытанняў патрабуецца больш часу».

Таму, як удакладніў МВФ далейшы фармат перамоваў, «у бліжэйшыя некалькі тыдняў мяркуецца дыстанцыйна працягнуць іх абмеркаванне».

Пра «некалькі тыдняў» гэта яны, канешне, моцна заштурхнулі. Зараз місія складзе справаздачу, потым пачнуцца калядныя адпачынкі, канец фінансавага года. Карацей, з далейшым абмеркаваннем давядзецца пачакаць да вясны.

Дзіўным чынам нічога не чуваць пакуль і ад нашага другога магчымага донара: Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця (ЕФСР) — правапераемніка Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Яшчэ месяц таму кіраўнік Еўразійскага банка развіцця, які валодае сродкамі ЕФСР, Дзмітрый Панкін казаў, што Беларусь і ЕФСР узгаднілі ўмовы прадастаўлення крэдыту. «Матрыца тых захадаў грашова-крэдытнай палітыкі, якія павінны быць рэалізаваны ў Беларусі, практычна ўзгоднена. Лічу, што дасягнуты вялікі прагрэс. Практычна ўзгаднілі ўсе крокі, якія павінны быць, напрыклад, пытанні скарачэння субсідый, па камунальных тарыфах, пытанні грашова-крэдытнай палітыкі, мэты па аб'ёме грашовай масы, па крэдытнаму стымуляванню эканомікі», — запэўніў Панкін.

І, па ягоных словах, савет ЕФСР «у цяперашні час абдумвае палітычную мэтазгоднасць вылучэння новага стабілізацыйнага крэдыту для Беларусі ў аб'ёме $3 мільярды».

«Палітычнае рашэнне» ўсё ніяк не прымаецца. Нешта ў нас разладзілася ў адносінах з Масквою, і не зразумееш нават, што. Ну, адмовілі мы Расіі ў авіяцыйнай вайсковай базе… Дык ёй самой самалёты зараз больш патрэбныя ў Сірыі, а дзе Сірыя, а дзе сінявокая? Так, у Масквы чаканыя праблемы з Крымам, з Данбасам, а як па-іншаму? Перш, чым абвяшчаць Крым сваёй тэрыторыяй, трэба было ведаць, што ён на 70% па энергарэсурсах, транспарце і вадзе залежыць ад мацерыковай Украіны. Ці думаеце, што «клятыя жыдабандэраўцы» будуць карміць яго вечна? Турцыя збіла расійскі «Су-24» над сваёй тэрыторыяй? Вы бачыце, Турцыя — у NATO, а, паводле дадзеных гэтай арганізацыі, расійскія самалёты «небяспечна набліжаліся» да паветраных прастораў краін Альянсу ў Еўропе больш за 500 разоў толькі ў 2014-м годзе. Па статыстыцы на пачатак жніўня гэтага года, знішчальнікі NATO з-за такіх паводзінаў расійскіх пілотаў падымаліся ў паветра каля 300 разоў. Такога не было нават у часы «халоднай вайны». У большасці выпадкаў паднятыя на перахоп знішчальнікі суправаджалі расійскія самалёты, назіраючы за іх дзеяннямі, але, нават па законах той жа статыстыкі, калі-небудзь адзін з іх проста павінны былі збіць.

Карацей, у праблемах Расіі мы не вінаватыя. І няма чаго тут думаць пра «палітычнае рашэнне». Але ўсё ж думаюць. Чаму?

А нам у будучым годзе трэба аддаць $3,5 мільярда па знешніх пазыках. А золатавалютныя рэзервы краіны, па дадзеных на 1 лістапада, склалі 4 мільярды 666 мільёнаў 700 тысяч долараў ЗША ў эквіваленце. То бок, на знешнія пазыкі нам давядзецца аддаць амаль увесь рэзерв, і застанемся мы ў адных майтках. Калі не будзе крэдытаў, канешне. А, выходзячы з вышэйвыкладзенага, іх не будзе яшчэ доўга.

Таму цалкам прадказальна, што нам у чарговы раз будуць прапанаваць «зацягнуць паясы». Хаця зацягваць іх, падаецца, ужо няма куды. Па дадзеных роднага Белстата, рэальны заробак беларуса скараціўся з пачатку года на 3,2%. Сярэдні заробак — 6 мільёнаў 837,6 тысячы рублёў. У пераліку на долары па сённяшнім курсе Нацбанка (18.000) сярэдняя зарплата склала амаль 380 долараў. Для параўнання: у снежні мінулага года яна была роўная 621 долару. Лідар Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук плануе і далейшае яе падзенне да 300, а можа і да 200 долараў. Што тут зацягнеш?

Улады заклікаюць беларусаў не лічыць свае даходы ў доларах: мауляў, абясцэньванне рубля не мае значэння, калі кошты ў краіне не растуць. Але ўвосень стрыманая да выбараў «харчовая інфляцыя» пачала даганяць дэвальвацыю. За апошнія два месяцы свіная грудзінка ў «Еўраопце» падаражэла на 20%, сыр — на чвэрць, морква — у паўтара разы, а агуркі — больш чым у тры.

І, між іншым, гэта ўсё — «імпартазамяшчальная» прадукцыя. У сэнсе таго, што тое, што ствараецца ў Беларусі, едзе ў Расію дзякуючы «харчоваму Клондайку», то бок расійскім санкцыям на заходнія харчы. А тое, што з Захаду не даязджае да Расіі, застаецца ў нашых крамах. Так і атрымліваецца, што сыры з Галандыі ў нас танней, чым беларускія.

Але што мы будзем рабіць з гэтым «харчовым імпартам», калі ў нас ад ЗВР застанецца жалю варты мільярд?

Так што застаецца толькі параіць: сапраўды, годна адзначце гэты Новы, 2016-ы, год. Таму што на адзначэнне 2017-га можа ўжо не хапіць нічога: ані грошай, ані паясоў.

Затое жанчынкі ў Беларусі будуць страйнюткія, без усялякіх дыетаў.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Антон Матолька



**Грамадскі актывіст і блогер працягвае змагацца за «Пагоню».**

Днямі Антон Матолька атрымаў адказ ад Міністэрства ўнутраных спраў, у якім прасіў растлумачыць міліцыянтам, што нацыянальная сімволіка не забароненая. Таксама ён прасіў кіраўніцтва МУС расказаць усім сваім супрацоўнікам гісторыю нацыянальнай сімволікі Беларусі і даказаць, што «нашэнне, публікацыя і выкарыстанне нацыянальнай сімволікі законамі не забаронены». Адпаведна, што за гэта людзей міліцыянты не павінны караць або пераследаваць.

У адказе з МУС Антону Матольку паведамілі, што сярод супрацоўнікаў усіх структур МУС праводзіцца «інфармацыйна-прапагандысцкая праца, забяспечваецца кантроль выканання патрабаванняў па выкарыстанні дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь».

«Я атрымаў набор літар без сэнсу — па факце я ніякага адказу не атрымаў. І цяпер юрыст будзе вывучаць гэты адказ і вырашаць, куды і як мы будзем яго абскарджваць, куды накіроўваць — у Адміністрацыю або ў Саўмін. Скардзіцца, што атрымалі адказ «не па справе», — распавёў Матолька «Еўрарадыё».

«Пакуль праблема актуальная, я яе гатовы падымаць хоць кожны дзень — няхай толькі дадуць падставу. Як толькі міліцыянты сваімі дзеяннямі пацвердзяць, што мы можам спакойна прыходзіць на футбольныя матчы і выкарыстоўваць любою сімволіку, на канцэртах без праблем падымаць бел-чырвона-белы сцяг, тады гэтая праблема будзе вырашана. Пакуль такой магчымасці няма, я буду пісаць і патрабаваць — мне нескладана», — дадае блогер.

## Лідзія Ярмошына



**Кіраўніца беларускага ЦВК атрымала ўзнагароду акурат напярэдадні гадавіны рэферэндуму 1996 года.**

23 лістапада быў апублікаваны ўказ Лукашэнкі, якім ён прысвоіў «старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Ярмошынай Лідзіі Міхайлаўне вышэйшы клас дзяржаўнага служачага».

За 19 гадоў на пасадзе кіраўніка Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына правяла чатыры прэзідэнцкія кампаніі, чатыры парламенцкія кампаніі і два рэферэндумы. Аднак ніводная з іх не была прызнаная міжнароднай супольнасцю.

Ярмошына як мінімум правядзе яшчэ і парламенцкую кампанію ў 2016 годзе, пасля якой у яе мінае чацвёрты тэрмін на пасадзе кіраўніка ЦВК. «Думаю, хутчэй за ўсё, гэтая кар'ера скончыцца», — адказала Ярмошына пра свае планы пасля заканчэння гэтага тэрміну ў інтэрв'ю TUT.BY.

## Аляксандр Ермаковіч



**Трэнер барысаўскага БАТЭ ўсё ж здолеў натхніць сваю каманду.**

Турнірныя перспектывы беларускага клуба захаваліся. Матч з нямецкім «Байерам» прайшоў унічыю — 1:1. Лік на 68-й секундзе сустрэчы адкрыў Міхаіл Гардзяйчук, аднак на 68-й хвіліне гульні Адмір Мехмед аднавіў раўнавагу.

«Мы памятаем паядынак у стартавым туры ў Леверкузене, дзе пераканаліся ў высокім узроўні гульні «Байера». Мы не паспявалі за супернікам, асабліва пасля другога прапушчанага гола, і саступілі ва ўсіх гульнявых кампанентах», — адзначыў Ермаковіч перад матчам. Тое спаборніцтва завяршылася паразай беларусаў з лікам 4:1.

«Але вопыт той сустрэчы і ўрок, пададзены нам «Байерам», спатрэбіўся, — падкрэсліў трэнер. — Мы правялі яшчэ тры матчы ў групе Лігі чэмпіёнаў і паказалі больш якасны футбол. Хлопцы паверылі ў свае сілы, і я спадзяюся на дадатковую дынаміку і ў зваротнай гульні з нямецкай камандай», — адзначаў Ермаковіч.

Хлопцы свайго трэнера не падвялі. Барысаўчане хоць і на апошнім месцы з чатырма баламі, але засталіся ў групе Е, і пакуль захоўваюць шанцы на выхад з групы. У заключным туры БАТЭ адправіцца ў госці да «Ромы».

# Ці пазбаўляцца еўра?



Генадзь КЕСНЕР

**Апошнім часам амерыканскі долар узмацняецца адносна да іншых валют. Еўра да долара здаў свае пазіцыі (долар падаражэў менш чым за месяц з 1,16 да 1,06 за адну еўрапейскую грашовую адзінку). Ці захаваецца такі трэнд надалей? Ці варта пазбаўляцца ад еўра і набываць долары? «Новы Час» звярнуўся з гэтым пытаннем да экспертаў.**

Фінансавы аналітык даследчай групы BusinessForecast.by Аляксандр Муха мяркуе, што з'явілася рызыка стымулявання росту інфляцыі ў Еўрапейскім саюзе, прынамсі, у еўразоне да 2 адсоткаў. Тут, ад сябе адзначым, праблема ў тым, што ў некаторых еўрапейскіх краінах мае месца нават дэфляцыя, якая пагражае эканамічнаму развіццю і стварае сур'ёзныя праблемы для бізнесу і эканомік гэтых краінаў.

Але, працягвае эксперт, у гэтым плане не варта чакаць нечага надзвычайнага. «Так, еўра крыху панізіўся і каціруецца на ўзроўні 1,063 да долара. Але, калі нават здарыцца парытэт гэтых валют, то гэта ненадоўга. Вельмі слабы еўра не выгадны нават амерыканцам, бо гэта абмяжоўвае экспарт амерыканскай прадукцыі ды паслугаў у Еўропу», — звяртае ўвагу аналітык. Таму Федэральная рэзервовая служба ЗША будзе рабіць адпаведныя сустрэчныя захады.

Па словах эканаміста, для яго нават не стала б сюрпрызам, калі б ФРС ЗША запусціла чарговы раунд «праграмы эканамічнага змякчэння», то бок, эмісію, але ў своеасаблівай форме. Напрыклад, праз набыццё каштоўных папераў на другасным рынку пад эгідай стымулявання эканамічнага росту.

«Заўжды трэба разумець, што наяўнасць еўра ў структуры зберажэнняў варта разглядаць як элемент дыверсіфікацыі валютных захоўванняў. Я б цяпер узяў бы нейкую паўзу, калі гаворка ідзе пра доўгатэрміновыя зберажэнні. Я не думаю, што сітуацыя прывядзе да пары «долар-еўра» па курсе 1:1. Нават калі на нейкі такі курс усталюецца, то гэта ўсё роўна будзе кароткатэрміновы лакальны адрэзак, тым больш, і ў амерыканскай эканоміцы зараз не ўсё так добра. Назіраюцца прыкметы неадназначнай эканамічнай сітуацыі. То бок, калі вас цікавяць доўгатэрміновыя зберажэнні, то мае сэнс заставацца ў еўра, а не пераводзіць іх у долары», — запэўнівае Аляксандр Муха.

Паводле ягоных словаў, сур'ёзны кансерватыўны інвестар даволі спакойна пазірае на такія кароткатэрміновыя хістанні абменных курсаў, а каб быць прафесійным «спекулянтам», інакш кажучы, тэхнікам рынку FOREX, трэба валодаць адмысловымі ведамі, адпаведнай практыкай. Тут яшчэ шмат што залежыць і ад тэрмінаў зберажэнняў, кажа Аляксандр Муха.

«Калі вы з'яўляецеся звычайнымі грамадзянамі, якія ходзяць у звычайныя абменнікі ці касы банкаў, і збіраецеся ганяць туды-сюды сумы ў доларах і еўра, я заклікаю вас пагледзець курсы канвертацыі (крос-курсы), таму што банкі сябе не крыўдзяць у гэтым плане. Банкі закладаюць пэўны спрэд, які можа сягаць 2–2,5%. То бок, калі вы, умоўна кажучы, прыйдзеце набываць еўра за долары, а потым рабіць адваротную аперацыю, напрыклад, цягам аднаго дня ці нават адной гадзіны, то вы два ці больш адсоткі проста падорыце банку. Таму тут бы я заклікаў быць вельмі акуратнымі, і, калі вы ўсё ж жадаеце канвертаваць еўра ў долары, то вам трэба кіравацца перш за ўсё доўгатэрміновымі інтарэсамі», — раіць эксперт.

У сваю чаргу, эканаміст Леў Марголін таксама адзначае, што зніжэнне курса еўра ў адносінах да долара ёсць кароткатэрміновай з'явай. «Я думаю, што гэта ўжо найніжэйшы ўзровень, і больш еўра падаць не будзе. А калі і будзе, то вельмі не істотна. Таму пазбаўляцца ад еўра тым, хто іх мае, няма ніякага сэнсу», — лічыць суразмоўца.

На ягоную думку, цяперашняе падзенне еўра мае кан'юнктурны і нават палітычны характар. «Гэта звязана і з тэрарыстычнымі актамі, і з нявызначанасцю палітыкі Еўрапейскага саюза і NATO ў дачыненнях з Блізкім Усходам. Пройдзе пэўны час, і я не хачу сказаць, што еўра вернецца на тыя рубяжы, якія гэта валюта займала некалькі гадоў таму (1,3–1,4 долара за еўра), але ў любым выпадку еўра да долара будзе расці. Таму ніякага сэнсу пазбаўляцца ад еўра зараз няма», — перакананы Марголін.

**Пройдзе пэўны час, і я не хачу сказаць, што еўра вернецца на тыя рубяжы, якія гэта валюта займала некалькі гадоў таму (1,3–1,4 долара за еўра). Але ніякага сэнсу пазбаўляцца ад еўра зараз няма, перакананы Леў Марголін**



# Рыхтуйце вашы грошыкі! Квартплата пойдзе ў рост

**Аказваецца, жыхары Беларусі за кастрычнік сталі кампенсаваць меншы працэнт за камунальныя паслугі. Цікава, чаму? Бо дзяржава, наадварот, апошнія гады прывучае насельніцтва да думкі, што квартплата будзе паступова павялічвацца.**

«За камунальныя паслугі ў двухпакаёвай кватэры мы аплачвалі 43% ад кошту камунальных паслуг у верасні і 16% у кастрычніку. Астатняе, як паказана ў жыроўцы, плаціла дзяржава. Не разумею, што адбываецца», — распавяла жыхарка аднаго з панельных дамоў у Маскоўскім раёне сталіцы.

Жыхар Ленінскага раёна атрымаў жыроўку, зыходзячы з якой ён таксама стаў плаціць меншую долю ад кошту камунальных паслуг, хоць розніца апынулася і не гэткая вялікая: «У верасні дзяржава кампенсавала каля 50%, цяпер — 69,12%».

Чаму доля кампенсацыі дзяржавай расходаў на паслугі ЖКГ павялічылася і так адрозніваецца ў кватэранаймальнікаў у розных дамах?

Як патлумачыў у каментары для Naviny.by выканаўчы дырэктар Міжнароднай асацыяцыі менеджменту нерухомасці ў Беларусі Генадзь Калёнаў, працэнт кампенсацыі залежыць ад колькасці зарэгістраваных у кватэры і ад аб'ёмаў спажывання цяпла і вады.

Напрыклад, сям'я траціць ваду эканомна і ўкладваецца ў 140 літраў у суткі на аднаго чалавека. У такім выпадку дзяржава субсідуе выдаткі на ваду праз больш танны тарыф — 2 423,1 рубля. Калі вады траціцца больш, уступае ў дзеянне тарыф, які забяспечвае эканамічна абгрунтаваныя выдаткі, — 9 тысяч рублёў. «Чым больш чалавек спажывае вады, тым верагодней пераходзіць за нормы яе спажывання. Гэта азначае, што доля падтрымкі дзяржавай становіцца менш», — адзначыў Генадзь Калёнаў.

Не варта скідаць з рахункаў, адзначае Калёнаў, і тое, што ёсць эканамічна абгрунтаваныя затраты, а ёсць фактычныя, якія вышэй, і адрозніваюцца ад месяца да месяца: «Паведамленні, якія мы атрымлівалі раней, не адлюстроўвалі эканамічна абгрунтаваных выдаткаў».

У паведамленнях за верасень, па дадзеных Цэнтра інфармацыйных тэхналогій Мінгарвыканкама, працэнт кампенсацыі якраз паказаны ад рэальных выдаткаў.

У 2016 годзе чакаецца змяненне структуры камунальных плацяжоў. Гэта здарыцца, калі будуць падпісаныя сем указаў прэзідэнта, якія падрыхтаваныя па выніках дзейнасці рабочай групы па пытаннях ЖКГ, якая вялася больш за год. Кожны з указаў тычыцца пэўнай тэматыкі, напрыклад, дзейнасці таварыстваў уласнікаў, структуры налічэння плацяжоў.

Акрамя таго, з 2016 года плануецца адмяніць падатковую льготу пры рэалізацыі насельніцтву паслуг па газа- і электразабеспячэнні. Верагодней за ўсё, лічыць Калёнаў, будзе адменена і правіла не павышаць тарыфы больш чым на 5 долараў у год.

Так ці інакш, жыроўка пацяжэе. «Людзям час зразумець, што гаворка не ідзе пра капрызы чыноўнікаў, — сказаў эксперт. — Працоўная група выявіла поўную эканамічную неэфектыўнасць беларускай мадэлі ЖКГ. Пакуль яшчэ мы жывем у камунальным раі, але выдаткі дзяржавы на ЖКГ вельмі вялікія, бо ўвесь новы жылы фонд падсаджваецца на субсідыі. І гэта не можа працягвацца да бясконцасці. Тым больш, Беларусь разлічвае на знешнія крэдыты, якія могуць быць выдадзеныя з выразнымі ўмовамі, пры якіх крэдыторы хочуць быць упэўненымі, што сродкі пойдуць не на субсідаванне камунальных паслуг, а на развіццё рэальнага сектара».

**З 2016 года плануецца адмяніць падатковую льготу пры рэалізацыі насельніцтву паслуг па газа- і электразабеспячэнні**

Але ў Беларусі ёсць яшчэ адна праблема — ніхто не ведае, колькі рэальна каштуюць паслугі жыллёва-камунальнага сектара. І таму не варта пераацэньваць уклад дзяржавы ў аплату паслуг ЖКГ для насельніцтва, лічыць кіраўнік праекта «Кошт Урада» Уладзімір Кавалкін.

«Мы плацім падаткі ў бюджэт, які нашымі ж грашыма даплачвае за паслугі ЖКГ, — адзначыў ён. — Пры скрыжаваным субсідаванні прадпрыемствы плацяць за паслугі па значна большым тарыфе, чым насельніцтва, але ў тым ліку з-за гэтага ў работнікаў заробак меншы, чым мог бы быць. Адным словам, можна правесці аналогію з законам захавання энергіі».

На думку Кавалкіна, «не атрымаецца ўзяць і падняць тарыфы да сабекошту, не зрабіўшы ніякіх іншых захадаў. Для таго, каб насельніцтва пакрывала выдаткі ЖКГ цалкам, як мінімум неабходна знізіць падаткі».

**Паводле артыкула Алены Спасюк, NAVINY.BY**

# Арцём Сітнікаў: Мая праца мне падабаецца

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Герой чарговага артыкула рубрыкі «Я працаваў па размеркаванні» — Арцём Сітнікаў. Ён захапляецца фізікай і адначасова піша вершы ды друкуе іх у «Дзеяслове». Хлопец — часты госць музычных імпрэзаў, на якіх спявае ўласныя пераклады «БГ» на беларускую мову, а яшчэ быў лаўрэатам конкурсу «Экслібрыс». Арцём атрымаў размеркаванне ў Дзяржаўны інстытут метралогіі, а пасля застаўся там працаваць. Гісторыя гэтага хлопца — прыклад таго, як маладога спецыяліста можа задавальняць абсалютна ўсё.**

## Са студэнцкай аўдыторыі — адразу ў Беларускі дзяржаўны Інстытут метралогіі

Арцём скончыў фізіка-матэматычны клас, таму пытанне «куды ісці далей?» асабліва не паўставала. Здаўшы добра ЦТ, ён падаў дакументы на прыборабудаўнічы факультэт БНТУ на спецыяльнасць «біятэхнічныя і медыцынскія апараты і сістэмы».

Аднак паступіць — гэта адно, а вось ведаць, дзе хочаш працаваць, — зусім іншае. Таму, калі Арцём вучыўся ва ўніверсітэце, то будучыню сваю асабліва не ўяўляў. «Такая спецыфіка ў нашых тэхнічных ВНУ, што ты проста вучышся. Шчыра кажучы, я асабліва і не думаў, чым хачу займацца», — кажа хлопец. Тэмай яго нага дыпломнага праекту была распрацоўка апарата для рэабілітацыі каленнага сустава.

Не дадала вызначанасці і пераддыпломная практыка, якую Арцём праходзіў на прадпрыемстве, дзе вырабляюць медыцынскую мэблю. Яго ўжо былі пагадзіліся ўзяць туды працаваць, даслаць заяўку ў БНТУ на размеркаванне. Але ў апошні момант сказалі, што вольных месцаў на прадпрыемстве няма.

Не дадала вызначанасці і пераддыпломная практыка, якую Сітнікаў праходзіў на прадпрыемстве, дзе вырабляюць медыцынскую мэблю. Арцём кажа, што распрацаваў апарат для рэабілітацыі каленнага сустава і меркаваў, што гэтага будзе дастаткова, каб гэта прадпрыемства накіравала на яго заяўку на размеркаванне. Але ў апошні момант яму сказалі, што вольных месцаў на прадпрыемстве няма.

Гэта, па шчырасці, прывяла хлопца ў некаторую разгубленасць. Справа ў тым, што падчас вучобы ён нават не задумваўся пра будучую працу. Канешне, каб атрымаць якія грошы, працаваў, але дзе давядзецца і не па спецыяльнасці: падпрацоўваў на будоўлі, гандляваў парфумам. Дапамог Арцёму загадчык кафедры, на якой спецыялізаваўся хлопец. Прафесар параіў звярнуцца ў Беларускі Дзяржаўны інстытут метралогіі. Арцём з'ездзіў, паразмаўляў з начальнікам аддзела, і ўсё вырашылася. Інстытут накіраваў запыт і ўзамен атрымаў маладога спецыяліста Арцёма Сітнікава.

## Працавалася лёгка

Шчыра кажучы, зразумець, чым жа займаўся Арцём падчас свайго размеркавання, з першага разу досыць складана. «Я ўжо прывык да таго, што нават самыя блізкія людзі не ведаюць, чым я займаюся», — жартуе хлопец. Калі ў яго пытаюцца, што такое «метралогія», ён адказвае: «навука пра тое, як будаваць метро». А калі пытаюцца, «што ты робіш на працы?», ён адказвае «вымяраю даўжыню прадметаў лінейкамі», што ў прынцыпе на нейкую сотую долю з'яўляецца праўдай.

Метралогія — гэта навука аб вымярэнні, бо «метр» — гэта вымярэнне. Сам па сабе інстытут — гэта розныя аддзелы, кожны з якіх мае сваю спецыялізацыю, распавядае хлопец. Напрыклад, адзін аддзел займаецца акустычнымі велічынямі (працуе з гукам), другі — займаецца механічнымі велічынямі (працуе з вагай, сілай), трэці — з лінейкамі. Па словах Арцёма, яго сектар — самы цікавы, бо займаецца дзяржаўнымі выпрабаваннямі.

«Мой дзень пачынаўся з руханкі. Затым я абавязкова рабіў сабе гарбату па-англійску, з малаком, і з'ядаў бутэрброд з сырам. Пасля ехаў на працу. На працы адразу ўключаў кампутар і чытаў навіны ў Фэйсбуку», — распавядае Арцём. Першы месяц сваёй адпрацоўкі малады спецыяліст сядзеў на працы і… пісаў вершы. Па яго словах, праца была настолькі сумная і нецікавая, што нічога іншага



**Для даведкі:**

Прыкладна 85 тысяч выпускнікоў ПТВ, ССНУ і ВНУ афармляюць дакументы на размеркаванне. Не болей за дзве тысячы, адвучыўшыся на бюджэце, атрымліваюць свабодныя дыпломы.

Пры ўсіх дзяржаўных ВНУ Беларусі сёння створаны камісіі, якія сочаць за працаўладкаваннем выпускнікоў, шукаюць тых маладых спецыялістаў, якія не з'явіліся па месцы размеркавання, высвятляюць прычыны. Дарэчы, самі ВНУ не заўсёды зацікаўлены ў вяртанні сродкаў. Грошы, спагнаныя з нядбайных выпускнікоў, паступаюць не ў касу ВНУ, а ў дзяржаўны бюджэт. Кантроль за вяртаннем затрачаных сродкаў ажыццяўляецца Міністэрствам адукацыі. Пасля прадстаўлення ў ВНУ копіі плацежнага дакумента аб кампенсацыі затрачаных сродкаў маладому спецыялісту выдаюць даведку аб самастойным працаўладкаванні — без гэтага дакумента ні адзін наймальнік не мае права ўзяць выпускніка на працу.

Маладыя спецыялісты вызваляюцца ад вяртання затрачаных сродкаў у бюджэт у выпадках, калі яны з'яўляюцца інвалідамі I, II груп, дзецьмі-сіротамі, дзецьмі, якія засталіся без апекі бацькоў, а таксама асобамі ва ўзросце ад 18 да 23 гадоў, якія страцілі апошняга з бацькоў у перыяд навучання, асобамі, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Акрамя таго, льготы маюць таксама муж або жонка, якія скончылі ВНУ адначасова, пры немагчымасці прадастаўлення працы ў адным населеным пункце і інш.

Паступленне ў магістратуру — яшчэ адна магчымасць не ехаць па размеркаванні. Паступіць у магістратуру на бюджэт атрымоўваецца далёка не ўсім. План прыёму абмежаваны. Неабходныя навуковыя публікацыі, выступы на канферэнцыях, высокі сярэдні бал за перыяд вучобы. Таму шмат хто аддае перавагу платнай форме навучання ў магістратуры.

больш не заставалася. «Першы месяц было шмат нейкіх паперак, стандартаў… Я нічога не разумеў. І толькі калі пачалася праца з рэальным металам, тады ўжо стаў паціху ва ўсё гэта ўнікаць. Нават спадабалася», — узгадвае Арцём.




Завод, які распрацаваў пэўны прыбор, павінен быць унесены ў спецыяльны рэестр сродкаў вымярэння, а вытворца — атрымаць сертыфікат. Для таго, каб такі прадукт маглі прадаваць, ён мусіць прайсці дзяржаўнае выпрабаванне. Гэты прыбор і трапляў у рукі Арцёма: «Нам прыходзіла заяўка ад завода, я глядзеў аб'ём працы, выстаўляў кошт, падпісваў дамову, тады ўжо складаў замову з заводам. Яны аплачвалі, прывозілі прыборы, а я іх правяраў. Глядзеў, ці дакладна яны паказваюць. Напрыклад, неабавязкова, каб чайнік даводзіў ваду да 100 градусаў цюцелька ў цюцельку. Але іншая справа — манометр або тэрмометр. Людзям жа важна, каб ён паказваў дакладную тэмпературу, а не на пяць градусаў больш. Таму мы кідаем прыборы, трасем… Карацей, выпрабоўваем… Калі прыбор прайшоў усе выпрабаванні, то ў выніку выдаецца акт, што ён добры. Завод атрымлівае сертыфікат, які азначае, што прыбор можа цяпер прадавацца», — з лёгкай іроніяй, нібыта для чайніка, тлумачыць мне Арцём асноўны сэнс сваёй працы.

Бывала так, што па некалькі дзён Арцём не меў ніякіх выпрабаванняў. Тады, кажа хлопец, ён ішоў у падвал, састаўляў два крэслы і драмаў там гадзінку-другую. Як той казаў, спецыяліст спіць, а размеркаванне ідзе.

## Адбыў размеркаванне і застаўся там працаваць

«Я ведаю, што ў асноўным маладыя спецыялісты пасля двух гадоў адпрацоўкі сыходзяць некуды ў іншае месца. Магчыма, я сам па сабе чалавек непатрабавальны, але мне ўсё падабаецца ў маёй працы. Нічога мяняць, прынамсі пакуль, я не збіраюся», — дзеліцца ўражаннямі Арцём.

А што можа не падабацца? Па словах хлопца, на працы няма жорсткага рэжыму. І праца Арцёма — не сядзячая. Ён меў шмат камандзіровак і выездаў на заводы, дзе праводзіў выпрабаванні. А гэта заўсёды цікава — новыя людзі, знаёмствы. Тым больш для чалавека, які захапляецца яшчэ і літаратурай.

Акрамя таго, у адрозненні ад некаторых іншых маладых спецыялістаў, Арцём заўжды меў адносна добры заробак. Ужо нават пару гадоў таму ён атрымліваў нешта каля 300 долараў у беларускім эквіваленце, што не так дрэнна для маладога спецыяліста.

«Ці хапала гэтых грошай, і на што яны сыходзілі?» — запыталася я ў Арцёма. «Вось я зараз частую цябе піражным… (сапраўды, падчас нашай размовы я ела піражнае, смачнае, дарэчы). На такія смачняшкі грошы заўжды і сыходзілі. Сто долараў я аддаваў на здымнае жыллё. Астатнія грошы трациў у асноўным на прадукты, падарункі сябрам, музычныя інструменты. Нейкія асабліва каштоўныя і вялікія рэчы набываў вельмі рэдка. А яшчэ я спяваю ў хоры, таму частка грошай сыходзіла на ўсялякія выезды», — адказаў Арцём.

Знайшлося прымяненні і творчым здольнасцям маладога спецыяліста. У інстытуце, дзе працуе каля 600 чалавек, часта праходзяць розныя фестывалі і канцэрты. На іх Арцём прыходзіць заўжды з гітарай, губным гармонікам і беларускім рокам.

Арцём дагэтуль удзячны свайму загадчыку кафедры, які параім яму звярнуцца ў Інстытут метралогіі: «Іншае месца працы я сабе шукаць пакуль не збіраюся. Мая праца мне падабаецца. Адзінае, хацелася б ад сябе больш аддачы і самаразвіцця ў прафесійнай галіне. Калі працы шмат, тады, натуральна, я ў яе пагружаюся. А калі працы не маю, то тады цяжка сябе прымусіць вольны час траціць на прафесійнае самаўдасканальванне. Тады я звычайна нешта чытаю ці пішу вершы. Але мне насамрэч пашанцавала, бо размеркаванне мне дало працу, якая гарманічна спалучыла ў сабе стасункі з тэхнікай, людзьмі і самім сабой».








# Дзень у ваенным музеі

Аляксей ЧУБАТ

**Некалькі гадоў таму я быў здзіўлены адной рэкламай: дзяцюк у шляхетным адзенні запрашаў ласавацца мёдам і набываць яго ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. «Бач ты, нават сённяшнія ідэалагічныя асновы не могуць утрымацца перад настойлівасцю гандляроў», — падумалася мне тады. Але гэта была хіба што аднаразовая акцыя. І цяжка ўявіць, каб у цяперашнім музеі — новым, велічным — адбылося нешта падобнае.**

Сённяшні Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ўвесь, пачынаючы з архітэктурнага рашэння, прасякнуты змаганнем, перамогай і нязломнасцю духа савецкага беларуса. Адзінай камерцыйнай часткай ідэалагічнага калоса беларускай дзяржавы можна назваць кіёск, дзе гандлююць сувенірамі. Але гэта — неабходны складнік сучаснага музея.

### Шлях да перамогі

Калі ўзяць для параўнання Ваенна-гістарычны музей Бундэсфера ў Дрэздэне, там, акрамя сувеніраў і кніг па гісторыі войнаў, іншых тавараў таксама не знойдзеш. Але гэты музей адрозніваецца ад нашага. Зразумела, ён не праслаўляе перамогу немцаў у войнах. Нюрнбергскі працэс не толькі асудзіў нацыянал-сацыялістаў, але і акрэсліў рамкі інтэрпрэтацый тэрміна «вайна» ў музейнай справе Германіі. Установа дае нам уяўленне пра месца простага чалавека на вайне. Прычым не толькі Другой сусветнай, а ў цэлым — усіх войнаў. Па-сутнасці, Ваенна-гістарычны музей — антываенны.

Будынак дрэздэнскага музея з'явіўся на свет у 1877 годзе і тады выконваў функцыі арсенала. Знешне ён мог так і застацца архітэктурным узорам свайго часу, але сучасныя архітэктары змянілі яго аблічча. З'явілася прыбудова са шкла і металу, якая ўразаецца ў фасад. Прыбудова па форме нагадвае клін, і сваёй кантраснай светагульнёй сімвалізуе ваенную гісторыю Нямеччыны.

Архітэктурнае рашэнне Музея гісторыі ВАВ — салют — прама паказвае на іншую задачу: уганараванне перамогі. Гэта пацвярджае і экскурсавод, бо, па яе словах, галоўная задача музея — паказаць подзвіг народаў СССР падчас Вялікай Айчыннай вайны. Але абавязкова падкрэсліць ролю Беларусі ў перамозе над «фашысцкай Германіяй». «Беларусь перамагла ў вайне сумесна з іншымі народамі Савецкага Саюза», — такая думка пасля застаецца ў экскурсанта.

Музей гісторыі ВАВ, сапраўды, уражвае і сваімі плошчамі, і сучасным падыходам у падачы гістарычнага матэрыялу. Велізарныя памяшканні дапамагаюць, напрыклад, праз бой танкаў паказаць супрацьстаянне дзвюх таталітарных сістэм. Галаграфічныя рэканструкцыі падзей, незвычайнае ўнутранае аздабленне, манекены вайскоўцаў і партызанаў у поўны рост, штучныя салдаты саюзных армій — усё гэта можна пабачыць на свае вочы.

Музей збірае калекцыю саматробнай партызанскай зброі. У экспазіцыі ёсць нават пушка, зробленая партызанамі! І ў гэтай пушкі, дарэчы, слаўны баявы шлях. «Храналагічным шляхам вайны праходзіць і экскурсант», — сцвярджае супрацоўніца Музея гісторыі ВАВ Кацярына Далідовіч.

Экскурсія заканчваецца ў вялікай зале, якая прызначана для ваенных урачыстасцяў. Але пасля яе заканчэння застаецца непаразуменне, чаму беларускія нацыянальныя сімвалы, якія прысутнічаюць на адным са стэндаў, паказаны ў негатыўнай афарбоўцы. Непрыемна бачыць, калі герб «Пагоня» падаецца разам са свастыкай. Аднабаковы погляд увогуле не характэрны для навукі, а ў дадзеным выпадку адчуваецца тэндэнцыйнасць.

### Шлях да чалавека

Ваенна-гістарычны музей Бундэсфера — пяціпавярховы будынак, і кожны паверх — тэматычны. На першым распавядаецца пра ўсе войны, у якіх Нямеччына прымала ўдзел з 1300 па 1945 год. Тут жа акцэнтуецца ўвага на тэхналогіях на службе войска. На другім паверсе адрэзак 1914–1945 гадоў выдзелены ў асобную экспазіцыю. (Менавіта так: год пачатку Першай сусветнай і год заканчэння Другой сусветнай). У асобнай зале дэманструюцца пакуты, якія паглынаюць людзей у часе ваенных дзеянняў. Трэці паверх асабліва ўражвае сваім падыходам: на ім раскрываюцца такія тэмы, як палітыка і гвалт, вайскоўцы і музыка, вайскоўцы і мода, вайскоўцы і мова, вайна і гульня. Чацвёрты — прысвечаны памяці пра вайну, а пяты — са шкляной падлогай — аглядная пляцоўка Дрэздэна. У музеі адведзена месца і халоднай вайне: дэманструюцца савецкае і нямецкае ўзбраенне пасля 1945-га.

Адна з ваенных тэхналогій, пра якую распавядаецца, — выкарыстанне жывёлаў. Тэма з'явілася абгрунтавана: у Першую сусветную вайну было ўцягнута 14 мільёнаў розных жывёл, у Другую сусветную — у два разы болей. Тым больш, уся новая зброя з далёкіх часоў і да сённяшняга дня апрабуецца на іх. Жывёлы выкарыстоўваліся для выведкі, для перавозкі рэчаў. Падчас доўгіх ваенных кампаній свіней, птушак бралі з сабой, каб з'есці пры неабходнасці, са скуры рабілі адзежу. Прыцягвалі жывёл і да знішчальных аперацый. Сабакі ўзрывалі танкі, цюлені расчышчалі парты ад мінаў. А вось для якіх мэтаў ужывалі каларадскіх жукоў, якія таксама прадстаўлены ў экспазіцыі, засталося загадкай.

Падчас Першай сусветнай вайны на морды коней надзяваліся спецыяльныя маскі, што дазвалялі ім рухацца па палях, атручаных газам. Для каней гэта быў незнаёмы рыштунак, але ён засцерагаў іх ад атрутнай смерці. Але і без газа хапала смуроду: у музеі на спецыяльным апараце жадаючыя могуць панюхаць гніенне і бруд акопаў Першай сусветнай вайны. Пах больш рэзкі і непрыемны, чым на сметніку, і тое ён зроблены ў лайт-версіі. Ад ранейшага варыянта паху давялося адмовіцца з-за скаргаў наведвальнікаў.

Гвалт у музеі паказаны як гістарычны і культурны феномен. Экспазіцыя прымушае наведвальнікаў задумацца аб асабістай агрэсіі, якая глыбока затоена ў кожным чалавеку. У цэлым, музей выконвае ролю форума для абмеркавання пытанняў ваеннай гісторыі, для дыскусій пра вайну ў жыцці грамадства. Цэнтральнае месцы ў экспазіцыях займае чалавек, які шукае адказ на пытанне: чаму ўзнікае вайна?

### Погляд збоку

Важкім меркаваннем пра беларускую і нямецкую ўстановы падзялілася супрацоўніца Музея гісторыі Украіны падчас Другой сусветнай вайны Тамара Куцаева: «У Мінску цікавы музей. Экспазіцыя на сучасным узроўні прадстаўляе амаль усе падзеі. Але ў музеі адчуваецца шмат Савецкага Саюза. Бачна, што ўстанова імкнецца паказаць гісторыю вайны вачыма беларусаў, але ўсё роўна Беларусь губляецца ў багацці савецкай ідэалогіі. Відавочна, што музею важней прадэманстраваць перамогу савецкага народа ў Другой сусветнай вайне, а не лёсы людзей. Напрыклад, у музеі ў Кіеве больш месца адведзена простаму салдату, радавому. У Мінску ж акцэнт зроблены на камандны склад, амаль няма калабарацыі, палонных.

Калі гаварыць пра музей у Дрэздэне, дык ён ставіць Другую сусветную вайну на адным узроўні з усімі іншымі войнамі. То бок, немцы паказваюць жах і трагізм вайны ў цэлым і спрабуюць усё гэта пераасэнсаваць», — падзялілася сваім меркаваннем Тамара Куцаева.

У Беларусі існуе стэрэатып, што немцы трымаюць татальную забарону на ўспамін нацыянал-сацыялізму. Адназначна, гэта ідэалогія паўсюдна асуджаецца, і Гітлер з'яўляецца персонай нон-грата ў публічным дыскурсе. Тым не менш, у сувенірнай краме дрэздэнскага музея прадаецца гістарычная кніга пра фюрэра з яго фотаздымкам на вокладцы. Што праўда, стаіць яна ў куточку, і заўважыць яе не так проста. Але гэты факт кажа пра тое, што немцы не выразаюць кавалак гісторыі сваёй краіны, каб пакінуць яго ў забыцці. Нямецкая гістарыяграфія спрабуе разабрацца і ў гістарычных антыгероях. Бо чалавечая памяць вельмі кароткая, і толькі так яе можна абараніць ад інтэрвенцый сучаснасці.




Фота Аляксея Чубата

TV

## 2 СНЕЖНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Меладрама «Шчаслівчык Пашка».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «Былая жонка».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Нашы.
**19.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Шчаслівчык Пашка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.15** Навіны.
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** Модны прысуд.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**16.20** КВЗ.
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Мастацкі фільм «Закаханыя жанчыны».
**23.00** Мастацкі фільм «Гісторыя Антуана Фішара».
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Край».
**10.15** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Званая вячэра.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Наша справа».
**14.05** «Ежа багоў».
**14.55** «Інструктар». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Маёр».
**22.00** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Інструктар». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоу (Украіна).
**10.00** Капейка ў капейку.
**10.35** Трылер «Закрытая школа».
**11.30** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.20** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**13.25** Меладрама «Васьмідзесятыя».
**14.35** Камедыя «Кухня».
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.10** Біятлон.
**21.10** Экстрасэнсы-дэтэктывы.
**21.25** Тэлебарометр.
**22.10** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**22.45** Футбол.
**23.10** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.00** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.45** Серыял «У эфіры».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабрананак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Размаўляем па-беларуску».
**08.15** «Строгавы». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1976 г.).
**10.35** «Выпрабаванне». Фільм пяты «Юныя мсціўцы». Дакументальны фільм.
**11.05** «Запіскі Піквікскага клуба». Драма. 2-я серыя (Вялікабрытанія, 1985 г.).
**11.35** «Наступны прыпынак… Месяц». Навукова-папулярны фільм.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.35** «Размаўляем па-беларуску». Маладзёжнае ток-шоў.
**12.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Ганны Абуховіч.
**13.10** «Чужая Белая і Рабы». Сацыяльная драма (СССР, 1986 г.).
**14.45** «У гасцях у Барыса Аверына». Сустрэча з філолагам, літаратурным крытыкам, навуковым супрацоўнікам Пушкінскага дома Аляксеем Балакіным.
**15.15** «Цырк». Музычная камедыя (СССР, 1936 г.).
**16.45** «Славянскі базар-2014». «Залаты хіт».
**18.40** «Калейдаскоп».
**18.55** «Размаўляем па-беларуску».
**19.05** «Строгавы». Гістарычная драма. 3-я серыя (СССР, 1976 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Выпрабаванне». Фільм шосты «Кроў для Вермахта». Дакументальны фільм.
**21.30** «Строгавы». Гістарычная драма. 4-я серыя (СССР, 1976 г.).
**22.30** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці актрысы Ганны Абуховіч.
**23.25** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Вашынгтон».
**09.45** Спорт-кадр.
**10.15** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. Другі этап. «Шахцёр» (Салігорск) - ХК «Гомель».
**12.10** Хакей. Ліга чэмпіёнаў. 1/4 фіналу. Першы матч.
**14.10** Канькабежны спорт. Кубак Беларусі.
**15.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**16.10** Баскетбол. НБА. «Кліўленд» - «Вашынгтон».
**18.05** Козел пра футбол.
**18.25** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**19.00** PRO спорт. Навіны.
**19.10** Авертайм. КХЛ.
**19.25** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Сібір» (Новасібірская вобл.) Прамая трансляцыя.
**21.45** PRO спорт. Навіны.
**22.00** Змешаныя адзінаборствы. Чэмпіянат свету.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**07.55** Студыя «Белсат».
**10.05** Два на два (тэледыскусія).
**10.40** Што ёсць што?, рэпартаж.
**10.55** Опера кунь-цюй, д/ф.
**11.30** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**11.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.15** Студыя «Белсат».
**12.45** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**13.15** Студыя «Белсат».
**15.25** Два на два (тэледыскусія).
**16.00** Што ёсць што?, рэпартаж.
**16.15** Забойства ў Сараеве, д/ф.
**17.40** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**17.55** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Княжанне Жыгімонта Старога.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Абектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**22.25** Людскія справы.
**23.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.35** Парадокс, серыял.
**00.20** Студыя «Белсат».

## 3 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «Шчаслівчык Пашка».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «Былая жонка».
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Шчаслівчык Пашка».
**21.00** Панарама.
**21.45** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.50** Сфера інтарэсаў.
**00.45** Навіны.
**00.35** Дзень спорту.
**00.40** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Неслужбовы раман.
**10.05** Камедыя «Службовы раман».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Татавы дочкі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Трэба разабрацца.
**21.30** Мастацкі фільм «Закаханыя жанчыны».
**23.25** Мастацкі фільм «Добры год».
**01.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Маёр».
**10.05** Сардэчна паскардзіцца.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Мае цудоўныя...
**14.55** «Інструктар». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Культурная сталіца». Брэст.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Сувязь».
**22.05** Глядзець усім!
**22.10** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Простыя пытанні».
**23.20** «Аўтапанарама».
**23.40** «Інструктар». Серыял.
**01.10** «Таямніцы Чапман».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка». Забаўляльнае шоу (Украіна).
**10.00** Трылер «Закрытая школа».
**11.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.05** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**13.10** Мастацкі фільм «Чалавек, які змяніў усё».
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.00** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Камедыя «Кухня».
**20.00** Меладрама «Васьмідзесятыя».
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.05** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**22.15** «Арол і рэшка». Забаўляльнае шоу (Украіна).
**23.15** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.50** Серыял «У эфіры».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабрананак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Строгавы». Гістарычная драма. 3-я і 4-я серыі (СССР, 1976 г.).
**10.25** «Выпрабаванне». Фільм шосты «Кроў для Вермахта». Дакументальны фільм.
**10.55** «Запіскі Піквікскага клуба». Драма. 3-я серыя (Вялікабрытанія, 1985 г.).
**11.25** «Калейдаскоп».
**11.40** «Размаўляем па-беларуску».
**11.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Уладзіміра Сухаверхава.
**12.15** «Калі ж пойдзе снег?» Спектакль.
**13.20** «Гарачыя дзянёчкі». Камедыя (СССР, 1936 г.).
**14.50** «Славянскі базар-2010». Канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі.
**16.05** «Сіла веры».
**16.35** «Прыцягненне Альберта Вейніка». Дакументальны фільм.
**17.30** «Вецер «Надзеі». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1977 г.).
**18.45** «Калейдаскоп».
**19.00** «Размаўляем па-беларуску».
**19.05** «Строгавы». Гістарычная драма. 5-я серыя (СССР, 1976 г.).
**20.10** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Выпрабаванне». Фільм сёмы «Хрэсны ход». Дакументальны фільм.
**21.30** «Строгавы». Гістарычная драма. 6-я серыя (СССР, 1976 г.).
**22.40** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Уладзіміра Сухаверхава.
**23.35** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.20** PRO спорт. Навіны.
**06.30** Баскетбол. НБА. «Кліпэрз» - «Індыяна». Прамая трансляцыя.
**08.50** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Сібір» (Новасібірская вобл.).
**10.40** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Індывідуальная гонка. Мужчыны.
**12.45** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. «Лагронья» (Іспанія) - БГК імя. Мяшкова (Беларусь).
**14.10** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Відэачасопіс.
**14.35** Змешаныя адзінаборствы. Чэмпіянат свету.
**17.10** Баскетбол. НБА. «Кліпэрз» - «Індыяна».
**19.00** PRO спорт. Навіны.
**19.05** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Індывідуальная гонка. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**21.10** Змешаныя адзінаборствы. Чэмпіянат свету.
**23.45** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Асабісты капітал.
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Княжанне Жыгімонта Старога.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.55** Парадокс, серыял.
**11.45** Людскія справы.
**12.15** Студыя «Белсат».
**12.45** Асабісты капітал.
**13.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальчая праграма): Княжанне Жыгімонта Старога.
**13.15** Студыя «Белсат».
**15.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**15.50** 54 % (публіцыстычная праграма).
**16.15** Парадокс, серыял.
**17.00** Невядомая Беларусь: Уладзімір Караткевіч. Душа застанецца, д/ф.
**17.35** Людскія справы.
**18.10** Што ёсць што?, рэпартаж.
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Абектыў (галоўнае выданне).
**21.40** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**22.10** Відзьмо-невідзьмо.
**22.35** 5 хвілін свабоды, д/ф.
**23.30** Студыя «Белсат».

Літаратурная Беларусь

Выпуск №11 (111)
(лістапад)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»
lit-bel.org
novychas.by

## Змест

**НАВІНЫ:** літаратурна-грамадскае жыццё лістапада ........ с. 2
**ПАЭМА:** «СХОДКА НЯЧЫСЦІКАЎ» — паэма XVI-га стагоддзя, на сучасны беларускамоўны лад перастворана Нілам Гілевічам .. с. 3
**АСОБА:** «Як змагаліся за Святлану Алексіевіч» (старонкі асабовай справы з архіваў Саюза беларускіх пісьменнікаў) ........ с. 4–5
**ПРОЗА:** апавяданне «Лішні чалавек» Сяргея АБЛАМЕЙКІ ........ с. 6
**ПАЭЗІЯ:** новыя вершы Васіля ЗУЁНКА ........ с. 7
**ЧЫТАЛЬНЯ:** «Пра анёлаў і людзей» Віталя Еўмянькова ........ с. 8–9
**ПАМЯЦЬ:** згадкі пра Рамана ЛУБКІЎСКАГА і Аляксея ПЫСІНА .. с. 10
**ДЗЕЦЯМ:** вершаванкі Сяргея ПАНІЗЬНІКА і Уладзіміра СІЎЧЫКАВА ........ с. 11
**АРХІЎ:** старонкі невядомага дзённіка Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА ........ с. 12–13
**КРЫТЫКА:** Васіль ДЭБІШ пра юбіляра Лявона ВАЛАСЮКА ..... с. 14
**ДРУК:** агляд чарговага нумара часопіса «Дзеяслоў» ........ с. 15
**СВЕТ:** навіны літаратурнага замежжа ........ с. 16

# Самая дужая дзяўчынка ў свеце гаворыць па-беларуску

**70 гадоў таму ў Швецыі нарадзілася самая дужая і — без перабольшання — адна з самых знакамітых дзяўчынак свету: Піпі Доўгаяпанчоха. Яе літаратурная маці, Астрыд Ліндгрэн, была тады яшчэ не сусветна вядомай пісьменніцай, а сціплай хатняй гаспадыняй. У яе захварэла дачушка, Карын, і штовечар патрабаваліся новыя захапляльныя гісторыі, каб дзіця заснула.**




Аднойчы Карын папрасіла: «Раскажы мне пра Піпі Доўгуюпанчоху!» — не вядома якім цудам прыдумаўшы дзіўнае імя. З гэтага і пачалося жыццё адной з самых бунтарскіх гераінь. Спачатку рудавалосае дзяўчо жыло ў вусных гісторыях, якія прыдумляліся адна за другой: часу запісваць іх праз штодзённыя клопаты ў Астрыд не ставала.

Але здарыўся выпадак, на той момант няшчасны... Аднойчы Астрыд павалілася і зламала нагу. Так у пісьменніцы з'явіўся час на тое, каб гісторыі пра Піпі занатаваць... Калі рукапіс быў гатовы, Астрыд даслала яго ў адно са шведскіх выдавецтваў. Водгук выдаўца быў адмоўным: панапрыдумляна невядома што! Але, на шчасце, Астрыд Ліндгрэн мела ўпартасць, каб прапанаваць рукапіс іншаму выдаўцу — і ён асмеліўся выдаць аповеды пра Піпі. Не прагірай!

І вось Піпі — 70 гадоў! А пераклад гісторый пра яе на беларускую мову роўна ў дзесяць разоў маладзейшы. У 2008 годзе выдавец Зміцер Колас ажыццявіў выданне кнігі па-беларуску. А навучыў Піпі беларускай мове Дзмітры Плакс. Як гэта было, хочацца згадаць у юбілейны год.

***— Зміцер, згадайце, калі ласка, саму перадгісторыю з'яўлення пераклада. У каго ўзнікла ідэя? Ці лёгка было рашыцца «даросламу дзядзьку» перастварань па-беларуску тэкст пра дзяўчынку, ды яшчэ такую незвычайную?***

— Ідэя ўзнікла ў спадарыні Аляксандры Макавік, якая сабрала ўсю каманду вакол выдання і ўрэшце давяла праект да лагічнага завяршэння. Зміцер Колас прадставіў магчымасць надрукаваць кніжку ў сваім выдавецтве, за што я вельмі яму ўдзячны, але працу над выданнем вяла Аляксандра. Менавіта яна патэлефанавала мне і прапанавала перакласці «Піпі». Я пагадзіўся — не раздумваючы, адразу. Аляксандра ж дамовілася з Юрасём Бушляковым, які ўзяўся рэдагаваць пераклад, кантактавала з мастаком Генадзем Мацурам, выдаўцом Змітром Коласам, з праваўладальнікам, сямейнай фірмай Ліндгрэн «Сальткрокан», словам — каардынавала ўвесь праект.

***— Што было самым складаным у перакладзе і ў працэсе нараджэння кнігі? Аўтарскія правы на тэкст і ілюстрацыі да выдання — як вырашаліся яны?***

— Пераклад, што называецца, «культавай» кніжкі, якую ўсе чыталі, пра якую кожны мае ўласнае ўяўленне, надае працы перакладчыка нейкае адценне асаблівай адказнасці. Прынамсі, як памятаю, такое ўражанне ў мяне ўзнікала, і гэта была ці не галоўная хіба — вось той страх перад класічным тэкстам, дзіцячым, што важна, класічным тэкстам. Ну але, перафразуючы некалі папулярную савецкую песню, — баязлівец не перакладае кніжак...

Правамі, зноў жа, займалася Аляксандра Макавік. Яна ад пачатку вырашыла не рабіць новых малюнкаў, а перанесці ў беларускае выданне арыгінальныя ілюстрацыі Інгрыд Ванг Нюман і ўвогуле зрабіць кніжку як мага болей падобную да класічнага выдання. Генадзь Мацур, які рабіў дызайн і макет, на мой погляд, захаваў усе асноўныя рысы шведскага арыгінала.

***— На адвароце тытула сярод асобаў, якім выказваецца падзяку за спрыянне, Пеця Плакс. Сын? Якую дапамогу здзейсніў ён?***

— Я чытаў свайму тады пяцігадоваму сыну тыя кавалкі, у якіх быў не вельмі ўпэўнены, у асноўным тое, што мусіла гучаць смешна, весела. Калі ён смяяўся, я пакідаў, калі не — шукаў далей.

***— Ці здараліся з Вамі падчас перакладу нейкія містычныя рэчы, якія б дапамагалі (ці наадварот, перашкаджалі) у працы?***

— Я зусім не рамантычны і не схільны да містыкі чалавек. Я ўмею толькі працаваць, то працаваў як мог добра. Часам праца дае вынікі, спадзяюся, што гэта адзін з такіх выпадкаў.

***— Піпі Доўгаяпанчоха ў сучаснай Швецыі, на Ваш погляд — гэта гісторыя ці сучаснасць?***

— Напэўна, і тое, і тое. За 70 гадоў, вядома, шмат што змянілася, але тыя агульначалавечыя каштоўнасці, якія можна знайсці ў кніжках пра Піпі, ці, прынамсі, узор паводзінаў — незалежнасць, непасрэднасць, давер да дзіцячага, фантазійнага сусвету і гэтак далей — важныя і сёння.

Пра гэта сведчаць і сталыя перавыданні, і новыя пераклады. Дарэчы, зусім нядаўна я атрымаў прапанову перакласці наступныя дзве кніжкі пра Піпі. Аляксандра гатовая весці і гэты праект, але ўжо ў супрацы з іншым выдавецтвам. Упэўнены, што яна і гэтым разам здолее сабраць добрую каманду, хаця нам усім будзе не хапаць Юрася Бушлякова, які так рана пайшоў з жыцця.

**Гутарыла Алена Масла**



**Дзмітры Плакс на прэзентацыі кнігі «Піпі Доўгаяпанчоха» ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, 2008 г.**




ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2015 год Святлана АЛЕКСІЕВІЧ:

«Хочацца, каб беларусы адчувалі гонар за сябе і сваю краіну»

# Новы «Кніганоша»

**Пабачыў свет чарговы выпуск інфармацыйнага бюлетэня «Кніганоша», які выдаецца Саюзам беларускіх пісьменнікаў супольна з МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» .**

Адкрывае нумар «Кніганошы» матэрыял з першай прэс-канферэнцыі сёлетняй лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры Святланы Алексіевіч.

У выпуску таксама змешчаны рэпартажы з цырымоніі ўзнагароджання фіналістаў Літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна, а таксама водгук на кнігі ўспамінаў пра Ларысу Геніюш «Духу магутныя чары...», што нядаўна была падрыхтаваная Міхасём Скоблам і выйшла ў серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» выдавецтва «Лімарыус».

Большую частку новага выпуску «Кніганошы» традыцыйна займае бібліяграфічнае апісанне новых беларускіх кніжак, выпушчаных незалежнымі выдаўцамі: «Кнігазборам», «Лімарыусам», «Медысонтам», «А. М. Вараксіным», «Папуры», Змітром Коласам і інш. Да кожнай кнігі дададзеная кароткая анатацыя.

Спампаваць нумар у сеціве можна па наступнай спасылцы: http://www.lit-bel.org/assets/files/Bjuleten-34.pdf.

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**



# Мама Му, Крумкач і Юя Вісландэр

**Заля мінскай галерэі сучаснага мастацтва «Ў» напоўнілася дзіцячым гоманам і смехам.**

Маленькія чытачы і чытачкі разам са сваімі бацькамі прыйшлі на паказ спектакля «Мама Му ў басейне», прэзентацыю аднайменнай кнігі па-беларуску і сустрэчу з яе аўтаркай — шведскай пісьменніцай Юяй Вісландэр, а таксама перакладчыцай Надзеяй Кандрусевіч.

Спадарыня Юя ўжо ў трэці раз наведвае Беларусь, а персанажы яе казак даўно вядомыя беларускім дзецям і палюбіліся ім. Спектаклі лялечнага тэатра «Лямцавая батлейка» пад кіраўніцтвам Веранікі Фаміной, пастаўленыя паводле кніг Юі Вісландэр, карыстаюцца заслужанай папулярнасцю і любоўю аўдыторыі.

Цягам свайго візіту вядомая ва ўсім свеце шведская пісьменніца ўзяла ўдзел у мерапрыемствах у Віцебску і Мінску, у тым ліку ў прэзентацыях кнігі, спектаклях паводле твораў пра Маму Му і Крумкача і ў круглым стале на тэму дзіцячай літаратуры.

Перад пачаткам спектакля ў галерэі сучаснага мастацтва гледачы пазнаёміліся з аўтаркай, вывучылі некалькі шведскіх слоў і павіталіся з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь Марцінам Обергам.

Пасля паказу спектакля кожны маленькі глядач атрымаў у падарунак адмысловы «медаль залатой рыбкі» ад Мамы Му і Крумкача. Па аўтограф да Юі Вісландэр выстраілася вялікая чарга прыхільнікаў яе творчасці.

**Тэкст і фота: Віка Трэнас**

# Соты раз у першы клас!

**Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», Саюз беларускіх пісьменнікаў і баскетбольны клуб «Цмокі-Мінск» абвяшчаюць акцыю, прысвечаную 100-годдзю беларускай легальнай школы!**

13 лістапада 1915 года ў Вільні была заснаваная першая афіцыйная беларуская школа, якая дала легальны пачатак масаваму беларускаму школьніцтву. Менавіта гэтая дата ў міжваеннай Заходняй Беларусі і ў БССР у 1920-я гады святкавалася як Дзень беларускай школы.

У межах акцыі «Соты раз у першы клас!» плануюцца разнастайныя мерапрыемствы ў рэальным жыцці ды актыўнасці ў інтэрнэце. Ініцыятары акцыі прапануюць супольна абмеркаваць стан беларускага школьніцтва ўчора і сёння, паразважаць над тым, што змянілася за 100 гадоў існавання беларускай школы, і пашукаць адказ на пытанне: «Чаму так мала нашых суайчыннікаў абірае для сваіх дзетак навучанне па-беларуску?».

У гарадах і мястэчках па ўсёй Беларусі адбудуцца сустрэчы, падчас якіх вядомыя айчынныя літаратары, спартоўцы, грамадскія дзеячы раскажуць пра славутых беларусаў, што сталі ля вытокаў нацыянальнай школы: Алаізу Пашкевіч, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янку Купалу, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і іншых знакавых постацяў беларускага адраджэння.

Ідэя акцыі неабыкавая і вам? Маеце крэатыўныя прапановы? Пішыце нам на razam@budzma.org і sbp@lit-bel.org.

Сачыце за навінамі на сайтах літаратараў і далучайцеся да акцыі!

Зробім разам школу беларускай!

## СНЕЖАНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Галіна Аляксандраўна Булыка (нар. 6.12.1960)
Лявон Фёдаравіч Валасюк (нар. 13.12.1955)
Вера Фёдараўна Міхно (нар. 13.12.1955)
Марына Аляксандраўна Гарэлава (нар. 17.12.1975)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# Новы старшыня Гарадзенскага абласнога аддзялення СБП

**14 лістапада ў Горадні адбыўся справаздачна-выбарчы сход абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.**



Фота Усевалада Сцебуракі

Гарадзенскія літаратары і іх калегі з вобласці апошні раз сабраліся пад старшынствам Юркі Голуба, паважанага паэта, які кіраваў аддзяленнем на працягу 2-х апошніх тэрмінаў.

Гарадзенскае аддзяленне сёння — адно з найбольш актыўных і прадстаўнічых у СБП. Сярод больш чым двух дзясяткаў сябраў філіі ёсць паэты, празаікі, крытыкі і навукоўцы-літаратуразнаўцы, журналісты. Варта ўзгадаць імёны Аляксея Пяткевіча, Ігара Жука, Алы Петрушкевіч, Юркі Голуба, Сяргея Астраўца (Астраўцова), Віктара Сазонава, Віктара Шалкевіча і іншых творцаў, якія плённа працуюць на гарадзенскай зямлі.

Са сталіцы на сход завіталі старшыня СБП Барыс Пятровіч, першы намеснік старшыні СБП Алесь Пашкевіч і памочнік старшыні Усевалад Сцебурака, якія выступілі ў ролі назіральнікаў (згодна са Статутам арганізацыі, выбары старшыні абласнога аддзялення праходзяць з удзелам выключна сябраў рэгіянальнага аддзялення).

У прывітальным слове Б. Пятровіч падзякаваў гарадзенцам за плённую працу і асвятліў асобныя аспекты дзейнасці іншых пісьменніцкіх філій Саюза.

Са справаздачным дакладам на сходзе выступіў Юрка Голуб.

Сход пад кіраўніцтвам Юркі Голуба разгледзеў шэраг пытанняў, сярод якіх асноўнымі былі: справаздача старшыні, выбары новага кіраўніка гарадзенскага



Юрка Голуб

пісьменніцкага аддзялення, абранне рэдактара і рэдакцыйнай рады літаратурнага альманаха «Новы замак» — зборніка, што выдаецца філіяй ужо на працягу трох гадоў.

Выбары старшыні адбыліся шляхам тайнага галасавання па двух прапанаваных удзельнікамі сходу кандыдатурах — Сяргея Астраўцова і Валянціна Дубатоўкі.

Бальшынёй галасоў новым кіраўніком філіі быў абраны Валянцін Дубатоўка. Яго намеснікамі сталі Уладзімір Хільмановіч і Юрка Голуб.

Рэдакцыю альманаха «Новы замак» узначаліў Сяргей Астравец, а ў рэдакцыйную раду ўвайшлі Аляксей Пяткевіч, Ігар Жук і Юрка Голуб.

Таксама сход гарадзенскай філіі зацвердзіў прапанову да Рады СБП надаць званне ганаровы сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў беластоцкім творцам Міхасю Андрасюку, Яўгену Вапу, Ганне Кандрацюк і Віталю Лубу. Раней гэтым званнем былі ўганараваныя сябры беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» (Польшча).

Сакратарыят СБП выказвае падзяку за шматгадовую працу на пасадзе старшыні філіі спадару Юрку Голубу, а таксама шчыра віншуе новаабранага кіраўніка аддзялення — Валянціна Дубатоўку — і зычыць яму плёну ў гэтай пачэснай справе!

**Прэс-служба СБП**

# «Літдэсант»: Гомельшчына і Віцебск

**На Гомельшчыне адбыліся творчыя сустрэчы сябраў Саюза беларускіх пісьменнікаў.**



Першая сустрэча прайшла ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны. Грамаду прывітаў старшыня Гомельскай абласной філіі СБП Анатоль Бароўскі. Перад студэнтамі-філолагамі выступіў Барыс Пятровіч. Старшыня СБП і галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў» распавёў пра новы, 78-ы нумар часопіса з найцікавейшым матэрыялам — дзённікам Уладзіміра Караткевіча.

Першы намеснік старшыні СБП Алесь Пашкевіч прэзентаваў сваю новую аповесць «Рух», якая нядаўна выйшла асобнай кнігай.

Свае вершы прачытаў Усевалад Сцебурака, а музычную частку імпрэзы склалі выступы Змітра Бартосіка і Андрэя Мельнікава.

Другая імпрэза адбылася ў Ветцы. У раённай бібліятэцы Дома культуры Веткі сабраліся цікаўныя гараджане і школьнікі. Перад публікай выступілі супрацоўнікі музея Ларыса Раманава і Генадзь Лапацін. Апошні распавёў пра сваю працу на кнігай «Варвара Грэцкая як з'ява беларускай народнай культуры».

Барыс Пятровіч і Алесь Пашкевіч прэзентавалі свае выданні, а таксама павіншавалі ўсіх веткаўцаў з тым, што беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч, частка жыцця якой звязаная з Гомельшчынай, стала лаўрэаткай Нобелеўскай прэміі па літаратуры.

Выступ завяршыўся спевамі Змітра Бартосіка і аўтограф-сесіяй.

Праз дзень мінчукоў чакаў Віцебск. Новы 78-ы нумар часопіса «Дзеяслоў» і аповесць Алеся Пашкевіча «Рух» былі прэзентаваныя ў Дзяржаўным універсітэце імя П. Машэрава і віцебскім філіяле Міжнароднага інстытута працоўных і сацыяльных адносінаў, дзе да літаратараў далучылася старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СБП Анастасія Лазебная.

Пад час сустрэчы з першакурснікамі філфака дзяржуніверсітэта адбылася плённая гутарка са шматлікімі пытаннямі з боку студэнтаў. Б. Пятровіч распавёў пра гісторыю стварэння выдання, працу над ім, а таксама прананансаваў некалькі наступных нумароў, заклікаўшы грамаду да чытання ды супрацы з часопісам.

Ахвотныя змаглі атрымаць нумары «Дзеяслова» з дзённікамі Уладзіміра Караткевіча ды кнігу «Рух» з аўтографам аўтара.

Апошняя вечарына прайшла ва ўтульнай атмасферы віцебскага «Бітлз-клуба», дзе госці не толькі змаглі прадставіць новыя выданні, але і па-сяброўску пакамунікаваць з публікай. Як заўсёды, цёплая зала сустрэла выступ Зміцера Бартосіка, які праспяваў класіку бардаўскай песні ў беларускіх перастварэннях Рыгора Барадуліна.

# Сходка нячысцікаў

Ніл ГІЛЕВІЧ

## Замест прадмовы

*Што ты, брат, такі панылы?*
*Звесіў глюгу і маўчыш?*
*Белы свет табе нямілы?*
*Шмат няўдач і страціў чынш?*

*Ці застаўся без работы,*
*Без заробку на штодзень?*
*Ці душу грызуць грызоты,*
*Што на ўзлёт няма надзей?*

*Ёсць — і праца, і заробак.*
*Маеш смак. І добра спіш.*
*І парадак у вантробах.*
*Дык чаго ж тады ты скіс?*

*Ах!.. Ну, браце! Ну ніколі*
*Не падумаў бы. Дальбог,*
*З-за чаго на вольнай волі*
*Ты прычэзнуў і знямог.*

*Аж, выходзіць, з той прычыны,*
*Што, хоць плач, хоць енч-пішчы,*
*Надта многа мерцвячыны*
*Пруць у кніжачкі пісцы.*

*Акімзаюць думку-догму —*
*І шрайбуюць на пуды.*
*А карысці? Мухі дохнуць*
*Ад атрутнай іх нуды!*

*І таму — як кажа Хаім,*
*Мой дапытлівы сусед:*
*«Што мы маем?*
*Што мы маем,*
*Каб належна выйсці ў свет?*

*Што пакажаш? Доўгі шнобель,*
*Каб здзівіць і казырнуць?*
*Дык і што? За шнобель «нобель»*
*Нам у Швецыі дадуць?»*

*Рэч у тым, таварыш Хаім,*
*Як сказаў калісьці хтось, —*
*Мы і самі кепска знаем,*
*Што мы маем, што ў нас ёсць.*

*Мы не ўсё яшчэ адкрылі,*
*Што ў далёкія гады*
*Словам праведным стварылі*
*Нашы прадзеды-дзяды.*

*Хоць бы гэта вось паэма,*
*Ці, як сёння кажуць, тэкст.*
*Пяць вякоў пралежаў нема*
*Унікальны сказ-гратэск!*

*А яшчэ, таварыш Хаім,*
*Ёсць і горшая бяда:*
*Многа самі мы знішчаем*
*І не плачам: не шкада!*

*Самі! Самі! Нешта спалім,*
*Нешта выкінем, як хлам,*
*І яшчэ сябе пахвалім:*
*Больш утульна стала нам!*

*Ну а колькі, Братка Хаім,*
*Бы глузды не маюць скрэп,*
*Мы свайго чужым спіхаем —*
*Як у печ з лапаты хлеб!*

*Вось вам! Радуйцеся! Ешце!*
*Мы абыдземся і так!..*
*Ну, але скажу нарэшце,*
*Як адчуў я лёсу знак.*

*У адным з архіваў Польшчы*
*(У якім — пакуль сакрэт)*
*Мне наўрэўся, як дар Божы,*
*Неадкрыты наш паэт.*

*Я асвойтаў кніжак многа*
*З нашых даўнішніх часоў,*
*А не вычытаў нічога*
*Пра Юстына з Лецвіноў.*


Фота www.bel.sputnik.by

*Ну, калі ўжо ён наўрэўся*
*Менавіта мне — дык я*
*Натуральна й загарэўся:*
*Значыць — місія мая!*

*Я зрабіць павінен гэта —*
*Чытачам уцеху даць:*
*Старамоўны твор паэта*
*Мовай сённяшняй падаць.*

*Захаваўшы усё, канешна,*
*Што й тады было ў цане,*
*Што было Юстыну смешна*
*У паганскай даўніне.*

*А чаму ў сваёй паэме*
*Пасяліў ён не людзей —*
*Продкаў нашанскага племя,*
*А нячысцікаў-чарцей?*

*Каб чыталі як забаўку,*
*Ён прыдумаў хітры ход,*
*Быццам піша казку-байку,*
*А не праўду пра народ.*

*Гэтай хітрасцю і сёння*
*Карыстаюцца пісцы,*
*Каб абачліва-рэзонна*
*Небяспеку абыйсці.*

**2015 г.**

## Сходка нячысцікаў

**Юстын з Ліцвіноў**

***Паэма XVI-га стагоддзя***
***На сучасны беларускамоўны***
***лад перарабіў Ніл Гілевіч***

*У гнілой дзіцы, на твані,*
*Чэрці ўселіся гуртом —*
*Перад оберам па званні*
*Грозным цмокам Кадуком.*

*На чарговую нараду*
*Іх сабраў галоўны чорт,*
*Каб, з надбаўкай да акладу,*
*Надаваць і ў хвост, і ў горб.*

*Ён абвёў чарцей вачыма*
*(А ў паглядзе — люты гнеў!)*
*І, адкашляўшыся чынна, —*
*«Пачынаем! — прагрымеў. —*

*Сёння я вас, паласатых,*
*І належна паскублю,*
*І па чыну, па пасадах,*
*Пераставачкі зраблю.*

*Вы — адрынутыя небам.*
*Я — прыгрэў вас, прытуліў.*
*Даў у лапы бохан хлеба*
*І пасадай надзяліў.*

*Да мяне вы што тут елі?*
*Церабілі шчаўе ў смак?*
*А на курава што мелі?*
*Толькі сушаны каўцяк!*
*Ну а сёння? Хай хто зманіць,*
*Што я выдаў горшы сорт.*

*Гэткіх «Мальбара» не смаліць*
*Ні адзін на свеце чорт!*

*Дзе ж аддача ваша, чэрці,*
*За спажытае дабро?*
*Я не бачу шчырай хэнці*
*Браць «тутэйшых» за рабро.*

*Наша зона — Балацянка.*
*Мы тут, мы — гаспадары!*
*Нам слугуюць, нас баяцца*
*Гэтай зоны жыхары.*

*Ды скажыце аткравенна,*
*Без ухмылак і грымас:*
*А ці ўсе слугуюць верна?*
*А ці ўсе баяцца нас?*

*Ёсць злачынная кагорта,*
*Кожны выхапень якой*
*Хоча быць хітрэй за чорта,*
*Хаб і харч мець і спакой.*

*Быць хітрэй за нас, хвастатых?*
*Но ведзь ета жа абсурд!*
*Дык чаму ж мы больш*
*заўзята*
*Не драпежым гэны гурт?*

*Ваабшчэ вы вочань плоха*
*Службу правіце ў мяне.*
*Кожны дзеіць, як прайдоха:*
*Чэсць і гонар — не ў цане.*
*<...>*

*А свядомыя занадта*
*Балацянцы гавараць:*
*«Мы так чуемся выдатна,*
*Што на ўсіх чарцей начхаць!»*

*Чулі? Ім начхаць, нікчэмцам,*
*На вялікі ўвесь наш род!*
*Грэх цярпець такое чэрцям,*
*Як вады набраўшы ў рот!*

*Калі ў пекле самы прыпар*
*І ў катлах кіпіць смала —*
*Так угневаўся Люцыпар,*
*Аж прыслаў ка мне пасла.*
*<...>*

*Грозны цар мяне прымусіў*
*Меры жорсткія прыняць.*
*Хош ня хош, а я вазьмуся*
*З вас работу спаганяць.*

*Дамавік! Ты служак маеш —*
*Крыксаў, плаксаў — не злічыць.*
*Дык чаму ж не пасылаеш*
*На малых дзяцей начніц?*

*Пачаму твае красоткі*
*Не казычуць іх насмерць?*
*Правіць дзела трэба ўсё-ткі*
*Усур'ёз, а не на смех.*
*<...>*

*Вадзянік! Табе далжон я*
*Прад'явіць асобы шчот:*
*Пачаму ў нашай зоне*
*Мала топіцца народ?*
*<...>*

*Што ж ты мне за памагаты?*
*Я — Кадук ці не Кадук?*
*Пачаму ж мае загады*
*Выпаўняеш — ліш бы з рук?..*
*<...>*

*Ну а ты, хітрун Балотнік?*
*Дзе твая работа? Дзе?*
*Што паважнічаць ахвотнік,*
*Гэта знана грамадзе.*

*Начапіў сабе гірлянды*
*Багавіння, жаб, смаўжоў,*
*А на службе — сімулянт ты:*
*Павярнуўся — і пайшоў.*

*Жыцень! Я табе даверыў*
*Самы важны хлебны пост.*
*Ты ад шчасця зубы шчэрыў*
*І трымаў трубою хвост.*

*Абяцаў-суліў ізлішкі*
*З кожнай нівы і грады.*
*Дзе ж падзвіжкі? Дзе падзвіжкі?*
*Растуды тваю туды!*

*Ты, Лясун, лайдак хітрушчы,*
*Не пільнуеш лес ані.*
*Скора ўжо ад нашай пушчы*
*Застануцца толькі пні.*

*Ну дык вось маё рашэнне:*
*Годзе ў лесе лынды біць.*
*Пойдзеш, чорт, на паніжэнне:*
*Будзеш Хлеўнікам рабіць.*

*«Ну і што за стыд, што Хлеўнік? —*
*Прашаптаў сабе Лясун. —*
*Ліш бы ў жонкі не нахлебнік!*
*Ліш бы добры быў нясун!»*

*Ну, а Хлеўніку ўжо годзе*
*Дыхаць гноем — і таму*
*Надаю, пры вашай згодзе,*
*Званне Лазніка яму!*

*Лазню топяць штосуботу,*
*Дык, схаваўшыся ў куток,*
*Хай там цешыцца ў ахвоту*
*З голых бабаў і дзявок.*
*<...>*

*Закрываючы нараду,*
*Мушу йшчэ пра тых сказаць,*
*Хто імкнецца нашу ўладу*
*Абяссіліць, падарваць.*

*Пра так званых «добрых духаў» —*
*Гэных чысценькіх, святых;*
*Каб народ тут іх не слухаў —*
*Трэба ўзяцца нам за іх.*

*Каляду, Купалку, Лёлю,*
*Ладу, Бордзю, Белуна*
*Трэба сцапаць — і ў няволю,*
*Па кадык у вонь багна!*

*Чэрці мы — ці цямці-лямці?*
*Колькі ж можна іх цярпець?*
*Колькі будуць балацянцы*
*Ім хвалу на ўзгорках пець?*

*Ну няўжэлі вам не ясна,*
*Як нам быць і што рабіць?*
*Паўсямесна і ўсёчасна*
*Трэба біць іх, біць і біць!*

*Вось і ўсё. На гэтым кропка.*
*І ніякіх больш размоў!*
*Наш дэвіз — наказ ад продкаў:*
*Болей справы — менеі слоў.*

*Наша сходка — не кірмаш.*
*На работу — шагам!.. арш!*

**2000, 2015 гг.**


Ілюстрацыя К.Сідарава

Сябры, аматары старабеларускай ліцвіншчыны і сучаснай паэтычнай сатыры! Цалкам паэму «Сходка нячысцікаў» вы зможаце прачытаць у бліжэйшым нумары часопіса «Дзеяслоў».

# Змаганне за Святлану Алексіевіч

**8 кастрычніка ўвесь свет абляцела вестка: лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры ў 2015 годзе названая беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч «за ейную паліфанічную творчасць — помнік пакутам і мужнасці ў наш час». Мы заглыбіліся ў архіў Саюза беларускіх пісьменнікаў, каб даведацца пра пачатак творчай дарогі будучай набеліяткі. І знайшлі нямала цікавага.**



Асабовая справа сябры Саюза пісьменнікаў БССР і СССР Святланы Аляксандраўны Алексіевіч налічвае некалькі дзясяткаў дакументаў. Сярод іх — звычныя і сухія анкетныя дадзеныя, фотаздымкі для пасведчанняў, а таксама цэлы шэраг пастановаў і прадстаўленняў на паездкі пісьменніцы за мяжу. Афганістан, В'етнам, ГДР, Балгарыя, Грэцыя, Польшча, Румынія, Італія — усе гэтыя падарожжы сталіся рэальнымі дзякуючы нязменнай падтрымцы сакратарыята СП у выглядзе рэкамендацый і станоўчых характарыстык, якія перасылаліся кантрольным і «кампетэнтным» органам як просьба дазволіць выезд.

Найбольшую цікавасць для даследчыкаў біяграфіі С. Алексіевіч складуць, бадай, не шматлікія (і напісаныя пад капірку) характарыстыкі для замежных паездак 1980-х гадоў і не анкетныя дадзеныя з іх, а найбольш раннія тэксты, звязаныя з уступленнем Святланы Аляксандраўны ў пісьменніцкую арганізацыю ў 1983 годзе. Але перад тым, як гаварыць пра няпросты шлях Алексіевіч да атрымання пісьменніцкага пасведчання, варта прыгадаць некалькі радкоў ейнай працоўнай біяграфіі, якія папярэднічалі ўваходжанню ў СП БССР.

Першым месцам працы С. Алексіевіч была сярэдняя школа-інтэрнат і сямігадовая школа ў Балажэвічах Мазырскага раёна, дзе будучая пісьменніца пачала працаваць адпаведна выхавацелькай і настаўніцай гісторыі і нямецкай мовы адразу пасля атрымання сярэдняй адукацыі ў 1965 годзе. Праз год 18-гадовую С. Алексіевіч бяруць літсупрацоўнікам у нараўлянскую раёнку «Прыпяцкая праўда»: на журфак БДУ яна паступала, маючы ўжо хоць невялікі, але стаж працы карэспандэнтам. Пасля заканчэння журфаку ў 1972 годзе С. Алексіевіч накіроўваецца ў раённую газету «Маяк камунізму», ужо на заходні бок Палесся — у горад Бяроза. А праз год працы загадчыкам аддзела пісьмаў яе запрашаюць у рэспубліканскую «Сельскую газету», дзе яна чатыры гады працуе ў аддзеле пісьмаў літсупрацоўнікам. Журналісцкая кар'ера С. Алексіевіч у афіцыйных выданнях выйшла на новы ўзровень у 1976 годзе, калі яе запрасілі ў "тоўсты" літаратурны часопіс «Нёман» у аддзел нарысу і публіцыстыкі. З пасады загадчыка гэтага аддзела яна і перайшла на творчую працу ў 1984-м і больш да рэдакцыйнай цякучкі не вярталася.

Першай публікацыяй у біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» пазначаны артыкул у мінскай «Сельскай газеце» ад 25 лістапада 1970-га. Аднак асабовая справа з архіва ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» захоўвае бібліяграфічную даведку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі аб тым, што дэбютам С. Алексіевіч быў верш у Петрыкаўскай раённай газеце «За новыя рубяжы», надрукаваны 5 снежня 1966 года, калі пісьменніцы было 18 гадоў. Вышэйзгаданы акадэмічны слоўнік абсалютна не адлюстроўвае публікацый С. Алексіевіч у раённым друку — ні ва ўсходнепалескім (нараўлянскім), ні ў заходнепалескім (бярозаўскім), — але падае інфармацыю пра яе артыкулы ў цэнтральных газетах. З 1970 года, г.зн. за два гады да заканчэння ўніверсітэта, С. Алексіевіч пачынае публікаваць свае нарысы, якія стануць ейным асноўным жанрам на бліжэйшыя 10 гадоў.

Яна нямала часу аддае і літаратурнай крытыцы: у 1971–1976 гадах на старонках «Сельскай газеты» і «Знамя юности» С. Алексіевіч аналізуе новыя кнігі і творы Юркі Голуба, Вольгі Іпатавай, Валянціны Коўтун, Петруся Макаля, Ніны Мацяш, Алеся Разанава, Ніны Шкляравай (усяго за гэтыя гады апублікавана 12 рэцэнзій), заўважаючы і падтрымліваючы мадэрнісцкія пошукі ў паэзіі раўналеткаў, а таксама адсочвае жаночую тэму ў паэзіі і прозе (у гэтым сэнсе вельмі паказальны ейны аналіз аповесці Вольгі Іпатавай «Прадыслава» (1972)).

Да ўступлення ў Саюз пісьменнікаў С. Алексіевіч падыходзіць з цэлым шэрагам апублікаваных нарысаў у цэнтральных беларускіх выданнях. Акрамя таго, у аб'яднанні «Летапіс» на «Беларусьфільме» пастаўлены дзвюхгадзінны цыкл дакументальных фільмаў «У вайны не жаночае аблічча». Фрагмент будучай кнігі ў сакавіку 1983-га надрукаваны ў часопісе «Маладосць» пад назвай «Калі жанчыны ваявалі...».

Зрэшты, апрача яўных дасягненняў і дастаткова ўдалай для журналісткі «з глыбі Палесся» кар'еры, да 1983 года С. Алексіевіч зарабляе сабе статус «нядобранадзейнай». Першая кніга «Я з'ехаў з вёскі», зьвярстаная для публікацыі ў часопісах «Нёман» і «Новый мир», трапляе ў цэнтр партыйнага скандалу. Тэкст так і не з'яўляецца ў друку «дзякуючы» Савелію Паўлаву, тагачаснаму сакратару ЦК КПБ, і Уладзіміру Сеўруку з ЦК КПСС. Сеўрук даўно вядзе вайну супраць Алеся Адамовіча і Васіля Быкава, а С. Алексіевіч з'яўляецца па сутнасці наступніцай Адамовіча. Нават назва кнігі «Я з'ехаў з вёскі» відавочна перагукаецца з рэпартажам і ў той жа час фотаальбомам Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка (апошні якраз і выступае тут у ролі фатографа) «Я з вогненнай вёскі...», створанай суаўтарамі напачатку 1970-х. Нездарма і першы па часе з'яўлення ў асабовай справе дакумент — рэкамендацыя А. Адамовіча, дадзеная С. Алексіевіч (бясскнежнай аўтарцы, якая знаходзіцца «на алоўку» ў сакратара ЦК):

*«Рэкамендацыя.*

*Я ўжо пісаў і гаварыў, выступаючы, і не адзін раз — пра тое, якой ацэнкі, высокай і ўдзячнай, заслугоўвае ўсё, што ўжо зроблена Святланай Алексіевіч як літаратарам, пісьменнікам. Яе кніга ўспамінаў «Калі жанчыны ваявалі» (раздзелы друкаваліся ўжо, але я знаёміўся з поўным тэкстам) ставіць Святлану Алексіевіч (а заўтра гэта стане відавочна) у шэраг найбольш сур'ёзных «ваенных» аўтараў. І гэта нягледзячы на тое, што аўтар належыць да маладога, да пасляваеннага пакалення.*

*Яе другая праца ў тым жа жанры «магнітафоннай дакументалістыкі» — аб праблемах міграцыі вясковай моладзі — засведчыла грамадзянскую мужнасць, сталасць, прынцыповасць аўтара. Таксама як і яе нарысы, што друкаваліся ў газетах і часопісах.*

*А яе проза (друкавалася ў «Полымі») засведчыла, што аўтар добры, яркі стыліст.*

*Адным словам, усе «слагаемые» мастака, грамадзяніна, пісьменніка надзейна заяўлены, праявіліся, а таму я з поўнай адказнасцю і ўпэўненасцю, што не памыляюся, рэкамендую Святлану Алексіевіч у наш Саюз пісьменнікаў.*

*12.9.1982. Алесь Адамовіч».*

Да наступнай рэкамендацыі справа дойдзе толькі праз паўгады. Адамовіч сваім блаславеннем як бы распачынае кампанію за прыняцце С. Алексіевіч у Саюз пісьменнікаў. Другой паводле храналогіі ў асабовай справе ідзе «Выпіска з пратакола пасяджэння камісіі па нарысе і публіцыстыцы СП БССР ад 28 лютага 1983 года»:

*«Прысутнічала 15 членаў СП БССР, сярод іх 10 членаў камісіі.*

*СЛУХАЛІ: Абмеркаванне творчасці Святланы Алексіевіч. Перад абмеркаваннем былі прагледжаны тры кінафільмы цыкла «У вайны не жаночае аблічча», створаныя па сцэнарыях С. Алексіевіч і В. Дашука на кінастудыі «Беларусьфільм», і тэлефільма «Бацькоўскі дом», створанага па сцэнарыі С. Алексіевіч на Беларускай студыі тэлебачання.*

*А. Адамовіч сказаў, што ўсё, што мы чыталі, напісанае ёй у перыядычным друку, як і прагледжаныя намі фільмы, выяўляюць у С. Алексіевіч вельмі зайздросную для публіцыста рысу — апантанасць сучаснасцю.*

*Я. Брыль прыгадвае нарыс пра цётку Стэфу, напісаны з адметнай псіхалагічнай глыбінёй. Яе запісы ўдзельнікі вайны сведчаць пра сапраўднае служэнне справе літаратуры. Гэтым адным можна апраўдаць рэкамендацыю яе ў Саюз.*

*А. Капусцін, Э. Ялугін адзначалі надзвычайную патрабавальнасць С. Алексіевіч да сябе ўжо на першай стадыі, пры зборы матэрыялаў пра аб'ект даследавання. Імкнецца адкрываць новае ў характарах сучаснікаў. У альманаху «Сучаснік-80» выйшла цэлая нізка партрэтаў-мініяцюр пад назвай «Бабы», зробленых па ўсіх правілах мастацтва слова.*

*А. Лысенка і В. Палтаран адзначылі яе смелыя выхады на жыццё, моцны маральна-этычны стрыжань, які збірае асобныя факты ў самабытны публіцыстычны вобраз. Творчасць С. Алексіевіч не новы паварот публіцыстыкі, а новы позірк наперад у яе развіцці, грунтуючыся на абуджэнні чалавечага сумлення.*

*У. Юрэвіч перасцерагае С. Алексіевіч, каб у кіношным і тэлевізійным віры не разбуралася яе пісьменніцкае «я», сфармаванае даволі выразна ў публікацыях цыклаў «Бабы» і «У вайны не жаночае аблічча».*

*Усе выступаючыя рэкамендавалі С. Алексіевіч для прыёму ў Саюз пісьменікаў.*

*ПАСТАНАВІЛІ: Аднагалосна рэкамендаваць Алексіевіч Святлану Аляксандраўну камісіі па прыёму ў члены Саюза пісьменнікаў СССР».*

Пасля рэкамендацыі камісіі па нарысе і публіцыстыцы справа набывае заканамерны ход: збіраюцца рэкамендацыі, іх для падачы дакументаў павінна быць тры. Сябрамі Саюза пісьменнікаў, якія падтрымаюць будучага лаўрэата Нобелеўскай прэміі, будуць Янка Брыль і Ігнат Дуброўскі:

*«Рэкамендацыя.*

*Святлану Алексіевіч, як літаратара, я ведаю па нарысах з цыкла «Бабы», «Як Кацярына ў горад ездзіла», па рабоце, апублікаванай у «Маладосці» пад назвай «Калі і жанчыны ваявалі», па сцэнарыях дакументальных кінафільмаў «У вайны не жаночы твар» і тэлефільма «Бацькоўскі дом».*

*Літаратар С. Алексіевіч таленавіты, удумлівы, шчыра аддадзены справе. Яна ўмее бачыць у жыцці галоўнае, умее расказаць пра гэта патрэбным словам; яна ўмее слухаць народ і належным чынам перадаваць тое, што ён расказвае пра перажытае. Нарысы яе, якія з поўным правам могуць лічыцца апавяданнямі, чытаюцца цікава, у іх уздымаюцца жыццёва важныя пытанні, мова прозы яе сакавітая, шматфарбная, людзі не прыдуманыя, — яна іх добра ведае і шчыра любіць, і цяплом гэтай любові, святлом гэтай шчырасці насычана ўсё, з чым аўтар ідзе да свайго чытача. Тое самае можна сказаць пра выдатную працу С. Алексіевіч «Калі жанчыны ваявалі». Гэтую кнігу — расказы многіх жанчын, удзельніц вайны, знойдзеных у розных кутках нашай Савецкай краіны, — можна без перабольшання назваць своеасаблівым подзвігам маладой пісьменніцы, якая адна зрабіла тое, чаго хапіла б цэламу творчаму калектыву.*

*Добрага слова заслугоўвае праца Алексіевіч у кіно і тэледраматургіі.*

*Я ахвотна рэкамендую Святлану Аляксандраўну ў члены Саюза пісьменнікаў СССР.*

*6.III.1983 г.*

*Янка Брыль, членскі білет №12024».*

*«Рэкамендацыя.*

*Ужо некалькі гадоў Святлана Аляксееўна Алексіевіч выступае ў друку з апавяданнямі і нарысамі. У літаратуру яна прыйшла са сваёй тэмай. Пра жанчын удзельніц Вялікай Айчыннай вайны ў мастацкай літаратуры сказана не мала. Святлана Алексіевіч у нарысах «Калі і жанчыны ваявалі» знайшла яшчэ адзін, новы аспект гэтай тэмы, паказала яшчэ адну грань мінулай вайны. Яна пазнаёміла чытача з жанчынамі-салдатамі, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў бітвах, са зброяй у руках абаранялі Радзіму, выконвалі і іншыя нялёгкія работы на полі бою. Яна сустракалася і гутарыла больш як з 500 жанчынамі франтавікамі і па-майстэрску перадала іх расказы аб цяжкасцях, жахах і пакутах, якія перажывалі ў акопах жанчыны нароўні з мужчынамі і разам з тым праяўлялі не меншую стойкасць, храбрасць, адвагу і гераізм, чым мужчыны.*

*Святлана Алексіевіч выступае таксама з апавяданнямі і нарысамі на тэмы з жыцця вясковых жанчын. У апавяданнях «Бабы», «Як Кацярына ў горад ездзіла», «Ваш стары таварыш» і іншых яна паказала высокае майстэрства стварэння мастацкіх вобразаў радавых працавічак вёскі, жанчын-камуністаў.*

*Паспяхова выступіла Алексіевіч і ў кінадраматургіі. Па яе сцэнарыю створан шматсерыйны тэлевізійны фільм «У вайны не жаночае абліччa». Фільм ухвальна сустрэлі гледачы, а сцэнарый атрымаў высокую ацэнку ў друку.*

*Пра творчасць Святланы Алексіевіч можна сказаць многае, але дастаткова адзначыць, што крытыка ў ацэнцы твораў маладых пісьменнікаў рэдка каму ўдзялала столькі ўвагі, колькі творчасці Алексіевіч. Кожная яе публікацыя адзначалася ў друку і заўсёды з высокай ацэнкай.*

*Святлана Алексіевіч даволі выразна вызначылася як пісьменнік, выявіла выдатныя здольнасці ў стварэнні мастацкіх вобразаў, асабліва добра валодае дыялогам і маналогам, умела скарыстоўвае мастацкую дэталь.*

*Тое, што паспела стварыць Святлана Алексіевіч, з'яўляецца дастатковай асновай для прыняцця яе ў члены Саюза пісьменнікаў СССР з поўнай упэўненасцю, што яна прынясе ў нашу літаратуру шмат новага і значнага.*

*28.III.1983 г.*

*Ігнат Дубро ўскі (Ігнат Цімафеевіч Чарняўскі),*

*член Саюза пісьменнікаў СССР з 1951 г., білет №12279».*

З'яўляецца ў справе і аўтабіяграфія пісьменніцы. Яна будзе відавочна цікавая даследчыкам біяграфіі С. Алексіевіч, бо пралівае святло на раннія гады жыцця на Гомельшчыне, распавядае пра сям'ю. Дакумент напісаны на рускай мове, аднак у анкетных дадзеных аўтарка далей будзе паслядоўна запаўняць графу нацыянальнасць як «беларуска», а мовамі, на якіх піша, пазначаць «беларускую і рускую».

*«Автобиография.*

*Я, Алексиевич Светлана Александровна, родилась 31 мая 1948 года в г. Ивано-Франковске в семье военнослужащего. В 1950 году отец демобилизовался, и наша семья переехала на его родину — Гомельщину, где он, пока не упразднили Полесскую область, работал в обкоме партии, а затем более двадцати лет был директором сельской школы, преподавал историю. За годы моей школьной учёбы я поменяла несколько школ, так как наша семья переезжала туда, куда направляли отца. Мать тоже работала учительницей, преподавала немецкий язык.*

*В 1965 году я окончила Копаткевичскую среднюю школу Петриковского района. Работала одно время воспитательницей средней школы-интерната, а затем учительницей истории и немецкого языка Балажевичской семилетней школы Мозырского района. В 1966 году меня взяли литсотрудником в районную газету «Прыпяцкая праўда» (г.п. Наровля). Оттуда я ушла на учёбу в БГУ имени В.И. Ленина на факультет журналистики, который окончила в 1972 году. По направлению была послана завотделом писем районной газеты «Маяк коммунизма» (г. Берёза, Брестской области). Через год меня пригласили на работу в республиканскую «Сельскую газету», где я потом четыре года была литсотрудником отдела писем.*

*В 1976 году перешла на работу в журнал «Нёман». В настоящее время — завотделом очерка и публицистики.*

*Родители мои: Алексиевич Александр Ефимович и Алексиевич Евгения Петровна проживают сейчас в д. Осовец Мозырского района, оба сейчас на пенсии.*

*Имею младших сестру и брата. Сестра Алексиевич Тамара Александровна окончила Гродненский мединститут, работает главврачом в д. Речень Любанского района Минской области. Брат Алексиевич Александр Александрович окончил белорусское отделение филологического факультета БГУ имени В.И. Ленина. Работает учителем в д. Городище Минского района Минской области.*

*Больше близких родственников не имею.*

*С. Алексиевич 4.IV.83 г.»*

Нягледзячы на аднагалосную ўхвалу камісіі СП БССР па нарысе і публіцыстыцы, а таксама на станоўчыя рэкамендацыі вядомых беларускіх літаратараў, С. Алексіевіч чакала адмова прыёмнай камісіі СП БССР. «Выпіска з пратакола пасяджэння прыёмнай камісіі ад 24 лістапада 1983 г.», што праўда, мае зусім мірны характар і змяшчае толькі станоўчыя ацэнкі творчасці будучай набеліяткі:

*«Слухалі: Заяву Святланы Алексіевіч аб прыёме яе ў члены СП СССР.*

*Выступілі: В. Палтаран, В. Казько, В. Вітка.*

*Пра Святлану Алексіевіч шмат што гаварылася, шмат што хочацца паўтарыць. Жыва адчувае слова, умее выстаяць, мае на чым трымацца. Нарысы яе важаць больш, чым некаторыя раманы.*

*У яе нарысах адчуваецца дыханне рамантыкі радыёстанцыі*



ЗАЯВЛЕНИЕ

ПРОШУ ПРИНЯТЬ МЕНЯ В ЧЛЕНЫ СОЮЗА ПИСАТЕЛЕЙ СССР

Фамилия Алексиевич имя Светлана отчество Александровна

Литературный псевдоним —

Начало литературной работы 1975 год

Литературный жанр очерк, рассказ, документальная повесть

На каком языке пишет белорусский, русский

Домашний адрес и телефон Минск, ул. Куприянова д. 17 - кв. 21

ПРИЛОЖЕНИЕ: а) Личный листок по учету кадров.

б) Автобиография.

в) Справка об опубликованных произведениях.

г) Фотокарточка 6×9 см.

д) Две фотокарточки 3×4 см.

» апреля 1983 г. Подпись

Зак. 422-77 г. тип. «ЛГ»



Автобиография

Я, Алексиевич Светлана Александровна, родилась
мая 1948 года в г. Ивано-Франковске в семье военнослу-
жащего. В 1950 году отец демобилизовался, и наша семья
ехала на его родину — Гомельщину, где он, пока не
упразднили Полесскую область, работал в обкоме партии,
...ем более двадцати лет был директором сельской школы,
...подавал историю. За годы моей школьной учёбы я
...меняла несколько школ, так как наша семья пере-
...ала туда, куда направляли отца. Мать тоже ра-
...ала учительницей, преподавала немецкий язык.
В 1965 году я окончила Копаткевичскую среднюю
...лу Петриковского района. Работала одно время
...питательницей школы-интерната, а затем учи-
...ницей истории и немецкого языка Балажевичской
...илетней школы Мозырского района. В 1966 году
... взяли литсотрудником в районную газету

*«Юнацтва». А запісы Алексіевіч даюць пра вайну больш, чым некаторыя трохтомныя эпапеі.*

*«Жанчына на вайне» — унікальная кніга. Гэта подзвіг у імя гісторыі і літаратуры.*

*У Алексіевіч выдатная публіцыстыка і мастацкая проза.*

*Пастанавілі (14 — за, 6 — супраць): Згодна вынікам галасавання адмовіць Святлане Алексіевіч у прыёме яе ў члены СП СССР»*

Пасля адмовы прыёмнай камісіі, хоць прычыны і канкрэтныя прэтэнзіі да С. Алексіевіч у дакументах, на жаль, не адлюстраваліся, Адамовіч, Брыль і іншыя ўжо Быкаў выносяць кандыдатуру на галасаванне ў прэзідыум СП БССР. Той меў права прымаць сяброў без уліку меркавання прыёмнай камісіі, але рабіў гэта толькі ў выключных выпадках. Відавочна, гэта быў якраз такі выпадак, ды яшчэ і рызыкоўны, што разумелі некаторыя сябры прэзідыума і стараліся, як, напрыклад, Генадзь Бураўкін, выставіць С. Алексіевіч у больш «прававерным» святле, чым яна, мабыць, сама б хацела. Нельга не здзівіцца, наколькі празорліва выступаюць пісьменнікі пры абмеркаванні кандыдатуры С. Алексіевіч, адзначаючы безумоўную навізну яе пісьма і вяшчуючы ёй слаўную будучыню. Пра гэта сведчыць «Выпіска з пратакола №6 пасяджэння прэзідыума СП БССР ад 20 снежня 1983 г.»:

*«Усяго членаў прэзідыума — 27 чал. Прысутнічала — 22 чал.*

*СЛУХАЛІ: В. Быкаў. Чаму сёння не разглядаецца справа аб прыёме ў члены СП БССР Святланы Алексіевіч, якая сваімі творчымі дасягненнямі вартая быць прынятай у нашу пісьменніцкую арганізацыю.*

*Гілевіч Н. С. На прыёмнай камісіі Святлана Алексіевіч не дабрала два галасы, і камісія раіла разгледзець яе заяву на прэзідыуме.*

*А. Адамовіч. На камісіі, ведаю, усе добра выступалі, давалі высокую ацэнку творчасці Святланы Алексіевіч. Святлана Алексіевіч літаратар самага высокага класа. Рэкамендую разгледзець яе заяву на гэтым пасяджэнні.*

*А. Васілевіч. Святлане Алексіевіч я не давала рэкамендацыі для паступлення ў члены Саюза пісьменнікаў, яна ж яе ў мяне і не прасіла. Але тое, што зрабіла С. Алексіевіч у такі напружаны час, бязумоўна, — яе творы заслугоўваюць увагі. У Лейпцыгу адкрыўся фестываль антываенных фільмаў, і яе фільм «У вайны не жаночы твар» атрымаў «сярэбранага голуба». Святлану Алексіевіч трэба сёння прымаць у Саюз пісьменнікаў.*

*Я. Брыль. Я даваў рэкамендацыю Святлане Алексіевіч і горача яе падтрымліваю. Ведаю яе як літаратара па нарысах з цыкла «Бабы», «Як Кацярына ў горад ездзіла», па сцэнарыях дакументальных фільмаў «У вайны не жаночы твар» і тэлефільма «Бацькоўскі дом». У другім нумары часопіса «Октябрь» дадзена высокая ацэнка яе творчасці. Фільм атрымаў «сярэбранага голуба», і рэжысёр гэтага фільма вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР.*

*Я лічу, што С. Алексіевіч варта быць прынятай у члены СП.*

*Н. Пашкевіч. Прыйдзе час, калі Святлану Алексіевіч назавуць публіцыстам-падвіжнікам і справядліва ўзнікне пытанне — чаму не прынялі яе ў Саюз пісьменнікаў. Фільм «У ваны не жаночы твар» атрымаў «сярэбранага голуба» на міжнародным фестывалі, рэжысёр якога вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР. Мы не памылімся, калі сёння прымем С. Алексіевіч у члены нашай пісьменніцкай арганізацыі.*

*П. Панчанка. Я таксама рэкамендую прыняць Святлану Алексіевіч у члены Саюза пісьменнікаў.*

*В. Вітка. Я грунтоўна выступаў пра творчыя здабыткі Святланы Алексіевіч на пасяджэнні прыёмнай камісіі. Галоўнае гэта тое, што С. Алексіевіч зрабіла грамадзянскі подзвіг, яна ўнесла новае асвятленне жанчын на вайне, якія прайшлі праз вогненныя пекла. Гэта прагучала не толькі ў нас, на Беларусі, але і на ўвесь свет. Гэта сапраўдная публіцыстыка. Гэта талент! А яе цыкл апавяданняў «Бабы», простыя жанчыны, на долю якіх выпалі страшэнныя пакуты ў час вайны. Цяпер яна збірае матэрыялы аб цяжкім лёсе дзяцей — дзіцячая памяць пра вайну, а як вядома, памяць цэпкая. Гэтую кнігу, я веру, яна падніме таксама. Кніга такая вельмі патрэбна. Як чалавек, Святлана Алексіевіч, вельмі сціплая, добразычлівая, як пісьменніца — таленавітая.*

*Я. Брыль. Робячы вялікую справу, Святлана Алексіевіч часта траціць уласныя грошы. Нядрэнна было б ёй фінансава дапамагчы.*

*Г. Бураўкін. Я добра знаёмы з творчасцю Святланы Алексіевіч. Яе працы на высокім пісьменніцкім узроўні… Рэкамендую прыняць С. Алексіевіч у члены СП БССР.*

*У. Калеснік. Ведаю, што прыёмная камісія вынесла рашэнне разгледзець пытанне аб прыёме С. Алексіевіч у члены СП БССР на прэзідыуме. Таму гэта трэба зрабіць сёння. Яна вельмі таленавіты аўтар, праўдзівы, з гуманістычнай чуласцю.*

*Н. Гілевіч. Бясспрэчна, Святлана Алексіевіч мае ўсе падставы быць прынятай у члены Саюза пісьменнікаў.*

*ПАСТАНАВІЛІ: Уключыць кандыдатуру Святланы Алексіевіч у спіс для тайнага галасавання.*

*СЛУХАЛІ: Вынікі тайнага галасавання.*

*ПАСТАНАВІЛІ: Згодна вынікам тайнага галасавання лічыць прынятай у члены Саюза пісьменнікаў БССР*

*АЛЕКСІЕВІЧ Святлану Аляксандраўну*

*(за — 20, супраць — 2)».*

Такім чынам, як сведчаць дакументы з архіва Саюза беларускіх пісьменнікаў, перад выхадам на самастойную творчую дарогу будучая лаўрэатка Нобеля атрымала падтрымку выдатных беларускіх літаратараў: Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Васіля Віткі. Яны пераадолелі супраціўленне бюракратычнай машыны, для якой ужо ў 1983 годзе Святлана Алексіевіч бачылася «нядобранадзейнай», бо займела праблемы ад сакратара ЦК. Статус сябра Саюза пісьменнікаў на той час рабіўся пэўнай «ахоўнай граматай»: можна было займацца творчай працай, не баючыся абвінавачванняў у дармаедстве — з'ява, якая здавалася назаўжды зніклай, аднак вярнулася з андропаўскіх часоў у 2015 год.

**Ціхан Чарнякевіч**

# Лішні чалавек



Сяргей АБЛАМЕЙКА

— Зашмат людзей, га? Што вы пра гэта думаеце?

Невысокі мужчына гадоў сарака з дагледжаным тварам, які сядзеў справа, нечакана звярнуўся да мяне з гэтым пытаннем.

Была раніца панядзелка, я ўзяў тыдзень адпачынку і кіраваўся электрычкай на лецішча. Хацелася адпачыць ад газетна-рэдакцыйнай мітусні і засяродзіцца нарэшце на сваім рамане, які я пахапкам пісаў апошнія месяцы.

Людзей у вагоне было няшмат. Таму пытанне незнаёмца мяне крыху здзівіла.

— Здаецца, якраз людзей тут няшмат. Гэта і не дзіўна для раніцы панядзелка ў кастрычніку. Дачнікі ў горад вярнуліся ўчора. Сёння працоўны дзень, — адказаў я.

— Не, не ў вагоне. Я маю на ўвазе ўсю планету. Зашмат людзей развялося. Вам не здаецца?

Гэтае ўдакладненне здзівіла мяне яшчэ больш. Я не знайшоўся, што адказаць, і таму спытаў:

— Што вы маеце на ўвазе?

— Ці не з'яўлялася ў вас пачуцця, што куды ні паглядзіш, усюды людзі, людзі, людзі? Дзе б вы не сталі, вы заўсёды акажацеся ў некага на дарозе. Прычым у простым і пераносным сэнсе. Усе добрыя месцы занятыя, усе добрыя дарогі — таксама.

— Цікавая думка, нестандартная.

— Галоўнае, жыццёвая, — адказаў незнаёмец і працягнуў мне руку. — Леанід Васюк, можна проста Лявон.

— Валянцін Здановіч, — адказаў я і паціснуў руку суседа. — Ведаеце, мне так ніколі не здавалася. У фізічным сэнсе людзей сапраўды шмат, але на тое наш горад і сталіца, каб сюды народ ехаў. А калі возьмеце правінцыю, дык там сітуацыя зусім іншая.

— Не, я не гэта маю на ўвазе. Ці не заўважалі вы, што на ўсё добрае шмат прэтэндэнтаў? На добрыя месцы працы і жыцця, на добрых жанчын, на добрыя краіны... Бывае, ты толькі падумаў пра нешта і нешта зразумеў, тыц туды — а там ужо куча народу сядзіць. Яны ўжо гэта ацанілі раней за цябе. Усё добрае — ужо ацэненае і занятае. Вось што брыдка... Зашмат народу развялося. Часам думаеш, ці не варта трохі прарэдзіць?

— Вы маеце на ўвазе... трохі пастраляць вакол?

— Ну нешта такое... Раней эпідэміі і войны рэгулявалі колькасць насельніцтва, а цяпер поспехі палітыкі і медыцыны стварылі сітуацыю перагружанасці людзьмі. Але зноў кажу, я маю на ўвазе не толькі колькасць. Тут ідзецца якраз пра якасць, пра змест жыцця і свету вакол нас. Гэта такі ўніверсальны закон — усё добрае занятае. Мне так здаецца.

— Ну ведаеце, я пра гэта так не думаў. Але назіранне цікавае. А вы хто паводле прафэсіі?

— Таваразанаўца. А вы?

— Я журналіст і пісьменнік.

— Ага, пішаце кнігі.

— Не так шмат, як хацелася б, але сапраўды пішу.

— Ну дык мае назіранні могуць быць для вас карысныя. Дзіўна, што вы, як «інжынер чалавечых душаў», у гэты бок не думалі...

— І мне дзіўна, што вы — чалавек не гуманітарнай прафесіі, зрабілі такія трапныя назіранні над нашым грэшным светам, — уколам на ўкол адказаў я.

— Выбачайце, калі вас незнарок пакрыўдзіў. Зусім не гэта было маёй мэтай. Проста для мяне тое, пра што мы гаворым, — такое відавочнае, што дзіўна, калі нехта іншы пра гэта не думае. Прабачце.

— Не, што вы, я зусім не пакрыўдзіўся, — не надта шчыра адказаў я і ўбачыў, што суразмоўца маю няшчырасць заўважыў. — Як далёка вы едзеце?

— На наступным прыпынку выходжу. А вы?

— І я на наступным выходжу. Можа пройдземся з вамі трохі, патлумачыце мне больш падрабязна свае нестандартныя думкі? — зрабіць такую прапанову мяне вымусіў не толькі сапраўдны інтарэс да каментароў Лявона, але і віна за з'едлівасць, якой я адказаў на ягоную рэпліку пра «інжынера чалавечых душаў».

— Што ж, ахвотна. Я нікуды не спяшаюся. Мэтай маёй паездкі якраз і ёсць шпацыр у лесе каля вады. Люблю прыязджаць сюды, на наша маленькае мора.

Мы выйшлі з цягніка і павольна пакрочылі сярод дамоў у бок лясной дарогі да возера.

— Я, вядома, не бяру сур'ёзна вашы намеры «трохі пастраляць вакол», каб прарэдзіць чалавецтва, але сама думка пра ранейшыя рэгуляцыі яго колькасці з дапамогай войнаў і эпідэмій — цікавая.

— Сапраўды, цікавая, але не мая. Пра гэта нават у навукова-папулярных фільмах цяпер гавораць. Мяне цікавіць іншае. Вось мы кажам, у тым ліку і вы, пісьменнікі, што пра густы і колеры не спрачаюцца, маўляў аднаму тое, іншаму — гэта. Але вось скажыце вы мне, чаму да прыгожай дзяўчыны чапляюцца спрэс усе хлопцы вакол? Значыцца, не ў густах справа. Усе чыста бачаць прыгажосць, і яна ўніверсальная.

— Цяжка з вамі не пагадзіцца, але, з іншага боку, цяжка і не згадзіцца са старажытнымі лацінянамі, якія, здаецца, першыя сказалі, што пра колеры і густы не спрачаюцца. Гэта відавочны парадокс. Я недзе чытаў, што прыгажосць жаночага твару — гэта не больш чым сіметрыя храмасомаў, генаў і, у канечным выніку, — фізіке цела, рысаў твару. Відаць, гэтую сіметрыю адчуваюць усе мужчыны на падсвядомым, генетычным узроўні. Магчыма, гэта як нюх у сабакаў... Мы жывёлы, і інстынкт працягу роду прымушае нас да выбару найбольш падыходзячай для гэтага, дасканалай асобіны...

— Цікавая думка, але я зноў не пра гэта. Мяне раздражняе, што на ўсё лепшае вакол нас зашмат прэтэндэнтаў. Гляджу па тэлевізары прагноз надвор'я па ўсёй Эўропе і бачу, што самы цёплы еўрапейскі горад — гішпанская Малага. Думаю сабе: добра было б там пад старасць купіць дамок або кватэру і жыць прыпяваючы. Нават на Новы год тэмпература там трымаецца 24 градусы. Мілата. Пачынаю цікавіцца, і аказваецца, што там ужо жывуць багатыя пенсіянеры з усёй Еўропы. Горад дашчэнту перанаселены, а цэны на нерухомасць завоблачныя. Пакуль я дадумаўся да перасялення ў Малагу, нехта ўжо яе ацаніў, туды пераехаў і нават на гэтым робіць цяпер бізнэс. Вось што брыдка! Куды не пасунешся — занята.

— Мне здаецца, — адказаў я, — што вашы высновы звязаныя з вашым асабістым жыццёвым досведам. Відаць, было ў вас нямала негатыўнага. Ці я памыляюся?

— І так, і не. Сапраўды, свой цяперашні погляд на свет я выснаваў з уласнага досведу. Але не толькі. Няўжо вы ніколі не траплялі ў сітуацыю, калі на паркоўцы каля гіпермаркету толькі задумаешся, у які шэраг павярнуць, а ззаду ўжо стаіць цэлая калона машын і ўсе табе сігналяць, маўляў, не затрымлівай, давай рухайся?

— Сапраўды, бывала. Я тут з вамі згаджаюся. Як толькі задумаешся, ужо ты некаму перашкаджаеш...

— Вось я і кажу пра гэта. І як вы да гэтага ставіцеся?

— Ніяк. Гэта жыццё. Яно такое.

— Ну бачыце, а мне гэта непрыемна. Натоўп, які прэцца і прэцца на цябе, толькі пільнуйся, каб не затапталі...

— Здаецца мне ўсё ж, Лявон, што галоўнае тут — ваш асабісты негатыўны досвед. Нешта тут павінна быць асабістае, — ува мне загаварыў прафесійны інтарэс пісьменніка і журналіста. — Выбачайце, што закранаю асабістае...

— Нічога страшнага, мы з вамі амаль не знаёмыя, бачымся першы і, хутчэй за ўсё, — апошні раз. Вы маеце рацыю. Але што такое асабісты досвед? Гэта звычайнае жыццё. Кожны з нас робіць жыццёвыя высновы, грунтуючыся на асабістым досведзе. У аднаго лёс складаецца лепш, у іншага — горш, але, па вялікім рахунку, жыццё ва ўсіх нас аднолькавае. Мы толькі розьнімся сваім стаўленнем да яго. У мяне стаўленне крытычнае.

— Вам сур'ёзна не пашанцавала?

— Як паглядзець... Агулам так. Вось, напрыклад, пасля інстытута народнай гаспадаркі я працаваў два гады ў буйным універмагу, а пасля вырашыў паступіць у аспірантуру. Мяне сур'ёзна цікавіла эканамічная навука. Але аказалася, што ўсе тры тэмы, якія я разглядаў як патэнцыйныя для маёй дысертацыі, ужо былі раздадзеныя іншым аспірантам, якія прыйшлі туды раней за мяне. Мне прапанавалі змяніць тэму, але я не згадзіўся, бо іншыя мяне не цікавілі. Такое жыццё. Хочаш нешта зрабіць, але нехта ўжо пралез туды раней за цябе і ўзяў тое, што табе падабаецца.

— Ну гэта, магчыма, залежыць ад вашага стаўлення да сітуацыі, — не надта ўпэўнена запярэчыў я. — Можа варта было браць любую тэму і пасля абароны заняцца тым, што вам цікава?

— Можа і так, але тут гаворка пра тое, што лепшае заўсёды нехта перахопіць. Вось вы працуеце на шараговай ці на кіруючай пасадзе?

— На шараговай. Я супрацоўнік аддзелу культуры газеты. У аддзеле ёсць загадчык, а над ім — галоўны рэдактар.

— А ці хацелі б вы быць загадчыкам аддзелу ці намеснікам галоўнага рэдактара?

— Можа б і хацеў, але, відаць, ёсць больш вартыя за мяне. І пасля там працуюць старэйшыя калегі. Можа і я некалі дарасту да адной з тых пасадаў.

— Вось бачыце, а месцы занятыя. І вы лічыце, што тыя людзі больш вартыя за вас?

— Не, не лічу. Але і не драматызую сітуацыю, што мяне нехта абышоў. Я ж яшчэ і пішу кнігі, мне нават выгадней не мець той адказнасці, якую мають мае начальнікі.

— А вольны час вам патрэбны? Начальнікі ж, відаць, маюць яго болей за вас.

— Ну гэта праўда, — я быў вымушаны прызнаць тут Лявонаву рацыю.

— Бачыце... І калі задумаецеся, так будзе ва ўсім вакол вас. Я таксама на працы цярпець не магу, што вакол на кіруючых пасадах адны амбітныя пасрэднасці. Пару разоў падаваў свае дакументы на замяшчэнне вакантнай пасады начальніка аддзелу ў розных гандлёвых фірмах, але вакансіі аказаліся фармальнымі, бо насамрэч усюды добрыя месцы ўжо кімсьці занятыя, а конкурс патрэбны толькі каб датрымаць існуючы парадак...

— Бачыце, таму я і пытаюся пра асабісты негатыўны вопыт...

— Ды адкрыйце вы вочы, Валянцін. Паглядзіце вакол сябе. Любая суполка мае не толькі свайго лідэра, але нават і элітную групоўку вакол яго. Пайдзіце хоць у клуб аматараў кактусаў, хоць у клуб навуковай фантастыкі або ў палітычную партыю. Усюды ўсе пазіцыі занятыя, ужо нехта знайшоўся, палюбіў, зацікавіўся і ўзначаліў...

— А вы, Лявон, маеце сям'ю? — спытаўся я і не выбачыўся за магчымую нетактоўнасць пытання: Лявон мог быць нежанатым. Але мне ўсё ж здавалася, што корань праблемы ляжыць глыбей — у зусім асабістай сферы.

— Не, нежанаты. Тут таксама канкурэнцыя, — адказаў ён.

Пэўны час мы ішлі моўчкі, і я бачыў, што Лявон вагаецца, ці працягваць тэму сям'і далей. Нарэшце ён рашыўся:

— Тут вы пацэлілі ў яблычак. Мне сапраўды не ўдалося збудаваць сям'і і таксама праз тое, што знайшліся спрытнейшыя за мяне... Пасля заканчэння інстытута я быў вырашыў, што пара ажаніцца. У мяне даўно была на прыкмеце дзяўчына з суседняга дома, гадоў на пяць маладзейшая за мяне. Я ўважліва сачыў за ёй, глядзеў, як яна сталее і развіваецца. А была, скажу вам, шыкоўная. Правільныя рысы тонкага твару, высокая, цыбатая, грудастая... Звалі яе Элеанора. І вось калі яна была ўжо на другім курсе педагагічнага інстытута, я вырашыў, што час наступіў. Неяк дагнаў яе па дарозе на аўтобусны прыпынак, і мы пазнаёміліся. Пачалі сустракацца, і тут высветлілася, што я спазніўся. Я чакаў і думаў, што вырасціў сабе жонку, а аказалася, што там ужо цэлая гісторыя дачыненняў з іншымі хлопцамі, маецца і сябар старэйшы, у якога яна закаханая, а са мной сустракалася, як кажуць, пра запас. Раптам з тым хлопцам у яе не атрымалася б, то можа б і я падышоў.

— Значыцца, так і не ўдалося вам спаткаць сваё каханне? Але не бяды, я думаю, роспачы паддавацца не варта. Вы не такі стары, яшчэ ўсё можна паспець.

— Не думаю. Я якраз мяркую, што позна. Усе лепшыя занятыя. А маладусе якой я зусім не патрэбны. Не веру, што шчырае каханне паміж людзьмі з розніцай у дваццаць гадоў, магчымае. Гэта ненатуральна.

— Ну а нашто вам шукаць дваццацігадовую, знайдзіце сабе трыццаціпяцігадовую жанчыну з дзіцем. Таксама варыянт.

— Ведаеце, тут, насамрэч, няма пра што гаварыць. Паверце мне, усё лепшае разабранае і занятае. Як кажуць, хто не паспеў, той спазніўся. Я вось днямі быў у стаматолага. Такая прыгожая маладая жанчына! Я аж напружыўся ўвесь, дрыжыкі па целе пайшлі. Сеў у крэсла, яна мяне пагледзела і кажа, што зубы ў мяне добрыя. Я ў адказ: дык у чым праблема, ад такіх, як я, трэба нараджаць, добрыя гены. А яна мне: я ўжо знайшла такога, дваіх дзяцей ад яго маю... Вось дзе праўда жыцця.

— Я б усё ж на вашым месцы не адчайваўся. Не ўсё так трагічна.

— Не, не... Я вопытны баец. Жыццё ведаю. Таму і кажу: зашмат людзей, зашмат. І вы, калі задумаецеся, зразумееце, што рацыя мая. Вам гэта павінна быць цікава, вы ж пісьменнік. Уся праблема ў вугле зроку. Жыццё нам яго мяняе. У мяне ён крытычны і скептычны. Мяне раздражняюць усе гэтыя, што вакол мітусяцца і жывуць сваё дробнае жыццё. Я б назваў жыццё пагоняй за поспехам. У аднаго ён меншы, у іншага — большы, але ўсе яго хочуць, прагнуць, валтузяцца. І што дзіўна, знаходзяць. Нават самыя небаракі. Ці заўважалі вы, што нават самыя нягеглыя хлопцы і дзяўчаты, ледзьве не калекі, але таксама знаходзяць адно аднаго, жэняцца, кахаюцца?

— Мне здаецца, гэта і ёсць яго вялікасць жыццё ва ўсіх сваіх разнастайных праявах. Выглядае, што так і было задумана, — кажучы гэта, я разумеў, што прадмет для нашай размовы вычарпаны і яе трэба заканчваць. Тым больш што мы якраз дайшлі да краю нашага дачнага паселішча, далей была толькі лясная дарога сярод шыкоўных соснаў да штучнага мора.

— Калі такі быў план, то я — блюзнер, бо ў гэтай частцы ён мне не падабаецца. А вы падумайце ўсё ж над тым, што я вам сказаў. Гэта таксама таямніца: усе лепшыя месцы ўжо занятыя. Як бы вы не пнуліся, якія б высілкі не рабілі, нехта заўсёды будзе больш спрытны, больш моцны, больш таленавіты, больш паспяховы, больш вядомы, больш багаты і больш шчаслівы за вас. Вось мая праўда жыцця.

» Заканчэнне на стар. 17 (9).

# Ёсць вясна — у кожнага свая...



Васіль ЗУЁНАК

* * *

*Дзень пражыты — нібыта вечнасць —*
*Па касмічных мерках ляціць...*
*Як зямныя раны залечваць,*
*Майце досвед — мудрэй не знайсці! —*

*Калі час да сценкі прыцісне,*
*Спосаб ёсць пазбыцца жуды:*
*Азірніцеся на дзяцінства —*
*І глыніце жывой вады.*

### Ёсць вясна...

*Ёсць вясна — у кожнага свая.*
*Кажуць, што яна бывае вечнай, —*
*Без прасторы, часу, — толькі як —*
*Як адчуць яе па-чалавечы?*

*Дрэвам стаць, каб сокі ў каранях,*
*Затаіўшыся ў зімовай стыні,*
*Прычакалі дзень, што ў прамянях*
*На душу зноў сонечна нахлыне?*

*Стаць ракой, што ў гнёце ледзяным*
*Не спыняе рух да акіяна,*
*Помнячы: вясны вяртанне ў тым*
*Воблаку, што з кропелек саткана?*

*Абярнуцца майскім матылём,*
*Што вясны знікненне знаць не знае:*
*Дзень, як вечнасць, пад яго крылом —*
*Не было яе, то й не знікае...*

*Пазайздрошчу дрэву, матылю,*
*Рэчкай пакланюся акіяну,*
*А вясну ва ўсім як ёсць таю —*
*Чарамі яе не ашуканы.*

*Буйствам кветак, зернем наліўным*
*Для мяне вясна бушуе ў леце,*
*Восені шматфарбныя званы*
*Згадкаю вясны гайдае вецер.*

*А зіма? А што зіма! Ды ў ёй,*
*Развітальнай, больш няма нічога:*
*Кожны дзень — вясна вясны зямной, —*
*У зіме — вясны трагічна многа.*

* * *

*Ва ўсіх — і жыццёвая тэма,*
*І свой дыхтоўны расклад,*
*А я — чалавек бессістэмны,*
*Як жнівеньскі зарапад.*

*Лячу, каб згарэць. А навошта?*
*Спытайцеся ў знічкі, калі*
*Яна прамільгае коштам*
*Камусьці даць знак на зямлі.*

*Нікім не запланаваны,*
*Сістэме не ўмею служыць, —*
*Асуджаны ці абраны,*
*Каб небу святлей было жыць.*

### Дзякуй!..

*Здзіўленне і здзеклівы неспадзеў*
*Мне тэкст адмыслова падкінуў, —*
*Няважна чый і чытаўся ён дзе, —*
*Зусім не ў тэксце прычына,*

*А ў слове, якое я там напаткаў,*
*І сам сабе ўсклікнуў: «Глядзі ты! —*
*Ды хоць бы разок да майго радка*
*Зляцела яно: са-ма-ві-ты...»*

*Як быццам наогул яго не было:*
*Не пагукала ні разу, —*
*Ці ўважыць, што сцежку ў мой бок*
*не знайшло?*
*Ці палічыць за абразу?*

*Ці сэнсы ў мяне такія былі,*
*Што ў слове патрэбы не бачыў?*
*Ну, а сустрэліся б, можа, калі —*
*Дык што яно, зрэшты, значыць?*

*Глядзім адпаведнасці — прыкладаў шмат:*
*Апірысты, цягавіты,*
*І працавіты — іх крэўны брат,*
*І побач яшчэ — знакаміты...*

*А самавіты — той самы, што Сам —*
*Паўсюль — і заўжды, і нязменна,*
*Што з Самасцяў — Самы, — узор і краса,*
*І з якасцяў звіты адменных.*

*І вось жа — агледзіны, як ні кажы,*
*А мне і няёмка прызнацца,*
*Што без яго я рыфме служыў, —*
*І чым цяпер апраўдацца?*

*Ды мова сама падказала адказ*
*І шчодрасць сваю не хавала:*
*«Я проста ашчадзіла і на запас*
*Табе гэта слоўца трымала!..»*
*Дзякуй!..*

### Няўжо?..

*Разлятаюцца зоры — так сведчыць час,*
*Не наш, не зямны, а той — касмічны,*
*І гэта творыцца ўсё без нас —*
*Без нашай абманнай лухты гістарычнай.*

*Разлятаюцца зоры — і мы ляцім, —*
*Што там Азія, што там Амерыка:*
*Кожны, пэўнімся, зорам тым пабрацім, —*
*Роўнай мераю ў Космасе ўсім адмерана.*

*Разлятаюцца зоры... Як людзі ў жыцці,*
*Роўныя зорам — мы так сябе лічым.*
*Ну што ж, ну што ж, — надта ж*
*веліч карціць...*
*А час смяецца прысудам касмічным...*

*Разлятаюцца зоры... А потым яны*
*Зноў збіраюцца пачнуць у адзіную кропку,*
*У гэтакі Еўрасаюз незямны, —*
*З чым і віншуем сёння Еўропу!*

*Зямное жыццё... З драбязы драбяза.*
*Разлятаюцца зоры —*
*І ўсё ж не верыцца:*
*Няўжо і напраўду Караткевіч сказаў:*
*«Леаніды не вернуцца»?..*

* * *

*З нас Богам кожнаму з мачулінцаў быў свой*
*(Бо свой быў Бог!) наканаваны геній.*
*У свет далёкі не сягаў і мой:*
*Праз поплаў бег да Начы, загуменнем.*

*А што ўжо там, за Начаю, было —*
*Дык жа і ўплаў той шлях адолець трэба...*
*Было замежжам бліжняе сяло...*
*І ўсё ж аднойчы я спытаўся ў неба:*

*Шматзорнае, далёкае, няўжо,*
*Ты край зямны? А што там за табою?..»*
*І вось нясу — тры чвэрці веку ўжо —*
*Па ўсіх дарогах я пытанне тое...*

*А геній — і цяпер блукае там, —*
*Напэўна ж, там, — я, праўда, не пытаўся,*
*Я толькі знаў: насуперак гадам*
*З ім зноў і зноў мой шлях туды вяртаўся.*

*Туды, дзе з ім — ці зблізку, ці здаля —*
*Здзяйснялі вы маё наканаванне:*
*З паразуменнем — родная зямля*
*І неба — без адказу на пытанне...*

### Спевакі

*Слімак слімаку*
*Пацісну руку:*
*—Здарова, слімак!*
*Дзе жывеш і як?*
*—Жыву, як і ўсе:*
*Грызу пакрысе*
*Капусны качан*
*І таўсцею, як пан.*



*—А я, браце мой,*
*Змяніў імідж свой:*
*Падаўся ў папсу —*
*І зелень трасу.*
*—Таксама капусту?*
*—Угу, брат!– ды з хрустам,*
*Ды ліст кожны з тварам, —*
*Завецца далярам.*
*Някепскі навар —*
*То фэст, то базар:*
*І харч годны маю,*
*І песні спяваю!..*
*—Слімак?! — заспяваў?*
*А голас дзе ўкраў?*
*—А я й не гарлаю:*
*Я рот раскрываю,*
*Але не крычу —*
*Я ўголас маўчу.*
*Такая манера:*
*Спявае «фанера»!..*

***P.S.*** *І мне б маўчанне тут захоўваць,*
*Бо ўсё ж няёмка падслухоўваць.*

*Ды — паверыце ці не —*
*Сёння радасць у мяне:*
*З дня таго на цэлы год*
*Чысты стаў мой агарод:*
*Буракі, і баклажаны,*
*І качан наш паважаны,*
*І турнэпс, і агуркі... —*

*Заспявалі слімакі!..*

### На Волме

*У каго Волга,*
*а ў мяне — Волма.*

*А ў мяне — вольна,*
*а ў мяне — прыкольна:*
*не Сцяпану Разіну*
*з дачкою князевай,*
*а на дне карасіку,*
*мысляру-класіку.*

*З-пад зялёнай раскі*
*ён мне шэпча казкі —*

*лёгкай чарацінкай,*
*вясёлай асачынкай,*
*ценем лазняковым*
*над заваддзю-падковай,*
*хвосцікам аб камень,*
*луской і плаўнікамі...*

*Кінуў я рыбачыць,*
*бо ў яго на Начы,*
*кажа, ёсць сваякі, —*
*значыць, мы землякі.*

*Дык хіба ж земляку*
*трапыхацца на кручку?!.*

*Я паверыў цуду,*
*я паверыў казцы —*
*аб калена вуду!–*
*хай яе трасца...*

* * *

*Паралельныя*
*Дужа правільныя, —*
*У тым і ўся іх правіна:*
*Дужа прамыя,*
*Душа-нямыя...*

*З-за іх і вучоным вякамі*
*Даводзілася выбачацца і каяцца,*
*Што паралельныя сваімі шляхамі*
*Нідзе не перасякаюцца.*

*Ідуць, едуць, ляцяць —*
*Адно аднаго не жадаючы знаць...*

*Аж пакуль мудрэц Лабачэўскі*
*Не даведаў зусім адваротнае, —*
*Як усё ў геніяльным бывае знячэўку:*
*Сустракаюцца ўсё ж самотныя!*

*Там, дзе раней прабягалі таропка,*
*Прыпыніла прамыя*
*Адзіная кропка.*

*Толькі дзе яна, непаўторная,*
*Кропка гэтая,*
*За якімі такімі зорамі,*
*За якімі сусветамі?*

*А можа, кропкі на тым і ловяцца,*
*Што самі зорамі там становяцца?*

*А дзеля чаго?—*
*дазвольце спытацца?*
*Каб сустрэцца —*
*і зноў разбягацца?..*

*І што лепей:*
*Прамыя — але паасобку,*
*Ці разам — зліўшыся*
*ў віртуальную кропку?*

*І тады, у нашым, чалавечым, выпадку*
*Ці не вярнуць Лабачэўскаму*
*тую разгадку:*

*Можа, лепей не перасякацца,*
*Можа, лепей не сустракацца?..*

* * *

*Гнеў у генах, — адкуль ён? Здалёку,*
*Пэўна, памяць прынесла яго:*
*Ад бунтоўных зямных прарокаў,*
*Шэравокіх паганскіх багоў.*

*То й глядзяць на мой чын бязвольны*
*І пытаюць: — Што ж здрадзіў ты*
*Нашым — лесу, рэчкам і полю?*
*Чым жывеш ты і чым святы?..*

*Ланцугамі аблытаны туга*
*Мудраслоўя, паслананга звыш,*
*Ходзіш век свой затоптаным кругам,*
*І надзеі няма, што ўзляціш...*

*Шлях развёў нас купалаўскім*
*ранкам...*
*Развітаннем працяты, стаю:*
*Я зямлю, як і вы, люблю,*
*Небу верачы па-хрысціянску.*

*Што яшчэ ў апраўданне скажу?*
*Я такі ж, як і вы калісьці,*
*Ды нябеснаму Богу служу:*
*«Не забі, не змані, не зламыслі»...*

# Пра анёлаў і людзей



Віталь ЕЎМЯНЬКОЎ

Маё дзяцінства было анёльскім! Цяпер, праз столькі гадоў знясільваючага бегу па жыццёвых пуцявінах, я гэта добра разумею. Праўда, якая там анёльскасць? Смешна нават... Малы, я і слова такога не чуў: «анё-льс-ка-сць»... Вырас я на ўскраіне Магілёва, у цыганскім квартале пад назваю Грэбянёва. Калі хто не ведае, гэта наўпрост там, дзе на вуліцы імя Канстанціна Сіманава гарадская цывілізацыя заканчваецца і пачынаецца дзікае палавецкае поле. Куды ўночы не рызыкуюць ездзіць таксісты. Словам, не раён, а нейкае пустазелле. Адкідаючы эпітэты і каб праясніць карціну, заўважу, што Грэбянёва — гэта прыватны сектар: неахайна пабудаваныя, крывыя і аблупленыя дамы, якія прыляпіліся да берага неглыбокага і вузкага ў нашай мясцовасці Дняпра. Ні табе вытанчанай архітэктуры, ні табе шыкоўнага дызайну. Дзе там! Абы адгарадзіцца ад халоднай прасторы, адваяваць для дзяцей кавалак цеплыні...

Будаваліся грэбянёўцы без усялякага плану, вокамгненна. Таму вуліцы ў іх пераважна крывыя і вузкія, а завяршаюцца яны, звычайна, тупіком. Назвы ж іх лаканічныя і гаваркія: Вясенняя (паўстала вясной), Восеньская (восенню), або Цыганская ці Камсамольская (гледзячы па тым, хто будаваўся). Ёсць у грэбянёўцаў і свая школка, дзіцячы садок, бібліятэка і нават маршрутнае таксі — усе прыкрага нумару «13».

Колькі сябе памятаю, каля дамоў грэбянёўцаў заўжды таўкліся сабакі і каты — рознага колеру, памеру і нораву. Каты пачуваліся гаспадарамі. Сабакі ж, наадварот, з сумам і без усялякай надзеі заглядвалі ў людскія вочы і, віхляючы хвастом, па-жабрацку выпрошвалі ў мінакоў хлеб. Ад сабак мала чым адрозніваліся і цыганскія коні. Раніцою таўстун Альберт з Азёрнай выводзіў іх на луг і забываўся аж да самага вечару. Коні хадзілі ўсюды. Былі яны неад'емнай часткай мясцовага пейзажу. Гультаяватыя, даўганогія прыгажуны з заплеценымі ў косы грывамі, з разумнымі, мілажальна-іранічнымі вачыма.

Атабарыўся на Грэбянёва мой бацька, Іван Юр'евіч, пасля таго як ажаніўся. Быў ён сумленны, кемлівы, але бедны ды яшчэ і сірата. Жонку ж, як на бяду, узяў з багатай сям'і. Браніслава Пятроўна, мая добрай памяці бабуля, паставілася да выбару дачкі без разумення, пасварылася з «нішчабродамі» і не дапамагла маладой сям'і ўстаць на ногі. Дзед, хоць і сумаваў па дачцэ, але бабулі пярэчыць не рызыкнуў. Толькі і заставалася Івану прытуліцца да цыганоў. Калі пачаў ён будаваць хату, адразу ж збегліся ромы. Некаторыя нават віталіся з бацькам, нібы са сваім, бо знешне ён нічым ад іх не адрозніваўся — скура чорная, як сажа, валасы кучаравыя, вочы хуткія, калючыя... Чым ні цыган? Быў бацька моцны, цягавіты. Не мужык, а порах: ледзь якая іскра — і ўжо загарэўся, замітусіўся, схапіўся за рыдлёўку, пілу, сякеру. Працаваў як ніхто іншы. Усё гарэла ў яго руках. Так і жыў... ярка. Любіў добра выпіць і закусіць. Як кажуць, не мінаў аніводнай спадніцы, чым уводзіў маці ў шал. Маці ж мая, Аліна Іванаўна, была абсалютнай супрацьлегласцю бацькі. Спакойная, разважлівая, але па-шляхецку наравістая, зацятая; з белай скурай, русымі валасамі і блакітнымі вачыма. Той, хто бачыў іх побач, заўжды ўсміхаўся: «Вой-вой! І як яны разам жывуць — гэтакая пані і такі басяк!».

Маці працавала медыцынскай сястрой у горадзе, а бацька штодня хадзіў на завод штучнага валакна. Як не цяжка здагадацца, клопат пра маё выхаванне меў хіба толькі анёл ахоўнік, які, відаць, не дужа перамяўся, бо нязменна прыводзіў у адно і тое ж месца — на вялікую груду пяску, якая ляжала пасярод Азёрнай і была сапраўднай мекай для ўсіх нашых дзяцей.

Чым займацца, калі табе 5 гадоў? Дзіўнае пытанне. Недарэчнае... Па-першае, можна будаваць замкі з вежамі, з брамамі і нават з садочкам; па-другое, гэты замак разбурыць. Але перад тым пабіцца да крыві і слёз, зладзіць вайну, абвесціць крыжовы паход супраць якога-небудзь мурзатага Рустамчыка або віславухага Джана-кажана, а потым памірыцца, і ўсім разам з асалодай тупаць па «замчышчы» босымі нагамі. Крыўдна было толькі тым, каго забіралі бацькі на абед або на вячэру і хто не паспяваў адчуць эйфарыю руйнавання.

Неяк у надзвычай спякотны летні дзень коўзаліся мы на пяску. Яшчэ не біліся, але ўжо збіраліся, як нечакана каля дома Мікалая Казімірава спыніліся размаляваныя машыны, аздобленыя каляровымі стужкамі, паветранымі шарамі. Машын было шмат, а людзей у іх — што мух: не палічыць. Усе яны прыехалі на цыганскае вяселле. Насця, дачка Мікалая, выходзіла замуж за Яна Сіманькова. Пачулі мы, як зайграў Пётр на гармоні, як заспявалі цыганкі. Неўзабаве паляцелі машыны, панеслі неማ вядома куды нашу Насцю. Нават цяпер маё сэрца сціскаецца, калі прыгадваю раніцу наступнага дня... Была яна золкая, пахмурная, палыновая. Прывезлі Насцю на чорнай «Волзе». Праставалосую, зняважаную. Прывезлі і кінулі каля мікалаевага паркана.

— А Божа ж мой, Божа, — казалі ледзь чутна суседкі каля калодзежа, — учора вяселле было. Гулялі спачатку ў «Габрава»[1], а потым на ўзбярэжжы. Машын — свет! Цыганы з усяго Саюза прыехалі! Шанавалі Насцю і Яна. Насця — нібы каралева. Гэтакая прыгожая, гэтакая ахайная — як і не цыганка зусім. Ды і вочы ў яе блакітныя — нашы. Спачатку Рада сыпала ёй пад ногі жыта, а потым, калі Насця перайшла праз парог, — белыя плялёсткі. Якая прыгажосць: сустракалі маладую дзяўчынкі ў вяночках. Трымаліся за яе спадніцу і крочылі ўслед, аж пакуль за руку Насцю не ўзяў Ян.

Стаяў ён важны — у белым строі, у шырачэнным брылі. Чакаў, пакуль нявеста падыдзе. Адчыніў дзверы сваёй «Волгі» — нерваваўся. А як падышла — павуком накінуўся, абхапіў, упіўся, ірад — не адарвеш...

— Каб яго, вырадка, пярун ляснуў, — перапыніла суседку маладзіца з даўгім, як у казы, вечна здзіўленым тварам.

— Гулялі ўсю ноч. Спявалі. Якія галасы! Толькі на досвітку пачалі раз'язджацца — хто на машыне, хто на кані. А Ян павёз Насцю ў горад да бацькі. Там была іх шлюбная ноч.

— Каб яго ваўкі з'елі, гэтага Яна, — не спынялася маладзіца, — каб яму святла не бачыць, а на тым свеце каменем у вадзе ляжаць...

— Недзе а 9-й прыехаў Ян да Мікалая і, не кажучы ні слова, кінуў каля ганка белую прасціну.

— Белую?

— Як першы снег...

— Божа, які жах!

— Нічога добрага ў гэтых басурманаў і быць не можа! Дзікуны! Выйшаў Мікалай на ганак, узняў прасціну з зямлі, усунуў у яе бараду і заплакаў. З паўгадзіны стаяў пасярод вуліцы. Ды так голасна плакаў, так горка! Ніколі не бачыла, як мужчыны плачуць. Баба павые, паб'ецца і нарэшце супакоіцца. Ведама навіна — бабскія слёзы! А ў мужчыны сярэдзіна выварочваецца, як быццам сэрца яго крычыць. Стаяў Мікалай, пакуль мужчыны нашы не падышлі. Абступілі яго, пачалі гаманіць. Васіль, праўда, плюнуў, са злосцю адышоў.

— Ды што мужчыны? Бабам трэба было размаўляць!

— Баб яны не прызнаюць!

— Чэрці смажаныя!

— Не кажы, суседка... аж слёзы на вачах...

Я, відаць, пачаў не з таго. Таму заблытаў вас... Даруйце. Перадусім трэба было растлумачыць, хто гэта — Насця Казімірава. Хаця і са спазненнем, але ўводжу вас у курс справы.

Жыла ў нашым раёне цыганская сям'я. Яе гаспадар, Мікалай Казіміраў, быў франтавіком і добрай душы чалавекам. Памятаю, што паважалі яго ўсе: і злодзеі, і праведнікі, і нават той адзіны цыган, які працаваў кіроўцам нашага аўтобуса №13. Жыў Мікалай на ўскрайку Грэбянёва, за тры дамы ад нашай хаткі. Жонка яго нешта дужа рана памерла, але пакінула прыгожую дачушку з паэтычным імем Насця. Незвычайнай была тая дзяўчына, як анёлак: толькі паглядзеў на яе — і ўжо ніколі не выпусціш з памяці. А болей за ўсё вочы... Зірне — быццам далонню па сэрцы правядзе. Усміхнецца — і, здаецца, болей нічога ў свеце не патрэбна. Валасы ў яе былі, бы лён, — мяккія, а пастава — як у казачнай пэры. Любілі яе ўсе, а болей за ўсіх — я.

Брала Насця мяне на рукі і сур'ёзна пыталася: «Ці ажэнішся на мне, як падрасцеш?». А потым з пяшчотаю праводзіла па маёй галаве рукою і казала: «Будзеш ты, Еўчык, шчаслівым, як і я, і будзе ў цябе вялікае каханне, і будуць у цябе дзеці — дзяўчынка і яшчэ адна дзяўчынка. Абедзьве прыгажунькі!». Прыціскаўся я да яе, абдымаў за шыю, цалаваў валасы і вусны, з замілаваннем называў яе імя. «Я кахаю цябе, Насця, пачакай крыху — як падрасту, абавязкова вазьму цябе замуж».

Як памерла Насціна маці, Казіміраў наўмысна не жаніўся другі раз і на зайздрасць тутэйшым бабам сам цягаў дачку за руку ў школу: «Вось (казалі пра яго) які добры мужчына! Не зважай, што цыган. А нашы ж... алкашня, бадай на іх ліха!». Апранаў і выхоўваў дачку Мікалай, нібы «рускую»[2]. Насця вучылася іграць на піяніна (нечуваная для цыганскіх дзяцей рэч), у гарадскім палацы культуры «Хімвалакно» танчыла, хадзіла заўжды з заплеценымі ў косы валасамі, зазвычай была ў белай сукенцы ды ў блакітным строіку — тыповая «зубрылка, выдатніца». Не, яна амаль нічым не адрознівалася ад аднагодак. І ў школе давучылася не да 4 класа, як было прынята сярод цыганскіх дзяўчынак, а да 10. Нічым... ды ўсё ж грэбянёўцы заўважалі ў ёй прыхаванае, цыганскае. Напрыклад, залатыя завушніцы, пярсцёнкі, кошт якіх бянтэжыў настаўніц. «Насця, дзетка, знімі ты іх — згубіш, што будзем рабіць: бацька заб'е!» — прасілі яны дзяўчынку, але Насця ў адказ толькі ўсміхалася. Маўляў, якія дробязі! Не варта нават пра тое размаўляць. Былі ў яе надзвычай хуткія, з прышчурам вочы, незалежны нораў ды невычэрпная схільнасць да авантур. То Насця падаб'е ўвесь клас у цырк, то насыпле крэйды ў гарбату дырэктарцы, то пад'едзе да школьных ганкаў на кані, чым звядзе на нішто ўвесь навучальны працэс.

Нездарма наша хімічка, калі збіралася падкрэсліць маю незваротную сапсаванасць, заўжды, уздыхнуўшы, казала: «Эх, Еўчык-Еўчык, што з цябе возьмеш — ты ж, відаць, Насцін сусед!». Цыганка была мясцовай легендай і адначасова сумным сімвалам. Калі ў 2 класе я пабіўся да крыві з адным мала прыемным для мяне хлопцам, то строгі завуч, Тамара Рыгораўна, так і сказала: «Скончыш ты, Еўчык, як наша Насця!». Але я зноў адхіліўся ад тэмы...

На раніцу, як усё тое здарылася, пайшоў я спачуваць Джанчыку. 1 верасня ён павінен быў ісці ў школу. Бацькі набылі яму вучнёўскі строй. Якраз на тую самую раніцу была запланавана прымерка. Джанчык быў сур'ёзны, нібы кіроўца тралейбуса, засяроджаны. Рада аздобіла яго блакітнай кашуляю, гальштукам, на нагах у хлопца былі сандалі, шкада — не было шкарпэтак, бо іх не знайшлі. Мой бацька хацеў даць свае — але яны малому былі задужа вялікія: як гетры ў футбаліставў. «І так ладны будзе», — сказала джанчыкава цётка Рада, патрымаўшы ў руках бацькавы шкарпэткі.

Сядзелі мы з Кацькай на лаўцы пад бярозаю і чакалі сябра. Неяк непрыкметна, нібы крадучыся, пад'ехала тая клятая «Волга». Вылезлі адтуль спачатку старыя цыганкі, а потым з'явілася і Насця. Як быццам хтосьці выпіў з яе жыццё, на плечы паклаў цяжкіх камянёў, грозным палкам прыціснуў да зямлі. Я нічога не разумеў, але дзіцячым інстынктам адчуваў, што здарылася нешта жахлівае, гэтакае, што ўжо ніколі не выправіш. Яна хутка адбегла ад жанчын і, схаваўшы твар у валасы, спынілася. На парозе сваёй хаты стаяў Мікалай — цяжкі, чорны, нібы з пекла. Насця ўзняла вочы і сказала адно толькі слова:

— Тату...

Мікалай скалануўся, нібы ў яго і сапраўды патрапіла маланка, зжаўцеў, зняміўся з твару, але нічога не адказаў. Зачыніў дзверы. Пайшоў.

І толькі тады Насця заплакала. Загаласіла. Прысела на бервяно каля палісадніку бацькавай хаты і, паклаўшы галаву на калені, схаваўшыся ад усяго свету ў валасах, затрэслася, бы ў ліхаманцы. Я хацеў падбегчы да яе, як заўжды прытуліцца да цёплых рук, зазірнуць у вочы. І ўжо збіраўся гэта зрабіць, як за каўнер мяне схапіла Кацька:

— Сядзі, дурань, — сказала яна, быццам ведала нешта таямнічае, жаночае, спаконвечнае, непадуладнае нашаму хлапечаму розуму.

Але я сапраўды дурань, бо застаўся на месцы. Неўзабаве мяне паклікала маці: «Еўчык, абедаць!».

Дні тры ці чатыры мы Насцю не бачылі. Але адным вечарам, якраз калі ўся наша «крумкачовая зграя» пазбіралася на пяску — яна з'явілася. Села недалёка — вясёлая, быццам нічога не здарылася, пачала распытваць, каму мы будуем замак. На што Джанчык нічога не адказаў — толькі сплюнуў пад ногі. Змачаў Рустамчык, адвярнуўся ў другі бок і змрочна скасавурыўся, нібы яго хто пакрыўдзіў. Адзін я, «дэбіл», кінуў справу і падбег да Насці, абняў яе за плечы, пацалаваў, як заўсёды, у вусны. І адчуў, што іх смак змяніўся — зрабіўся салёным. Насця засмяялася і з пяшчотай пацікавілася: «Ці хутка вырасцеш? Глядзі: не дачакаешся!». «Не-да-чака-еш-ся...». Тады на гэтыя словы я не звярнуў аніякай увагі. А цяпер яны для мяне набылі асаблівае значэнне — сурочлівае, балючае. Насця ўзнялася і без мэты пайшла, спяваючы вясёлую песню. Нас прагнала Рада, як каршун, наляцела на цыганят, пазбірала іх да купы і павяла дадому.

Я выразна бачыў гора Насці, адчуваў, што яно глыбей самай чорнай бездані. Любіў яе і не разумеў, чаму ўсе ад маёй суседкі адвярнуліся. Але горай за ўсё

тое, што і я ёй здрадзіў. Заўсёды я здраджваю тым, каго люблю.

Як чарвяк пралез у маё сэрца? Цяпер я гэта ведаю…

Гора прымушае сцерагчыся. Нешчаслівы чалавек — гэта апаганены храм, у які ніколі не прыходзяць, каб памаліцца. Хіба што забіваюць шурпатымі дошкамі яго вокны і брамы. Забываюцца на тое, што Бог у тым храме ўсё яшчэ жыве. Чалавеку, якому баліць, які пакутуе, трэба спачуваць і тым падзяляць яго боль. Не кожны здатны на такі ўчынак — на чужыя пакуты, на ахвярнасць. Я ведаў пра тое, што Насцю выгнаў бацька, і, сляпы, не бачыў відавочнага — таго, чаму яна прыходзіць да нас і так доўга сядзіць на парозе. Ёй не было куды ісці. Я не разумеў, чаму маці давала мне скібу хлеба, карміў, дурань, насціным хлебам сабак і коней. Я — сляпы, бо не бачыў галоўнага — якая каштоўная для Насці кожная хвіліна чалавечай увагі, прысутнасці жывой, спачувальнай душы.

Не, апраўданне «малы, маўляў, неразумны» тут слабое. Людскасць па-за межамі ўзросту — гэта той стрыжань, на які з дзяцінства да сталасці нанізаны гады і ўчынкі. Нехта мудры сказаў, што чалавек грашыць, бо спадзяецца на жыццё вечнае, у якім будзе час і на скруху, і на дабро. Але ж гэта не так… усё мінае. І хутка. І незваротна…

Насця пайшла ад нас увечары. Ціха, нікога не турбуючы — у дняпроўскія хвалі.

Памятаю, што маці накладала мне макароны, як прыйшоў бацька і скрозь зубы сказаў: «Насця ўтапілася!». Так проста, нібы адляцела кола ў ровара.

Ад навіны ў мяне пахаладзела ў цэнтры жывата, нібы ў страўнік патрапіў лёд. Да горла падступіў камяк, а на вачах з'явіліся слёзы. Такі невыносны боль маланкаю працяў маё цела, быццам хтосьці забіваў цвікі ў сэрца, нібы пад нагамі — бяздонне, нібы апынуўся пад вадою — і паветра разам з жыццём пакідае мяне назаўжды. Спачатку хацелася некуды бегчы, штосьці рабіць, але я адчуваў, як чорныя вялізныя рукі сціскаюць маю шыю.

На пахаванне Насці сабраліся ўсе тыя, хто быў на яе вяселлі. Акрамя Яна Сіманькова — ён з'ехаў з горада. Мы з Рустамчыкам і Джанам неслі вянок «ад Азёрнай». Труну везлі на возе, запрэжаным белай кабылай. Трымаючы лейцы ў руках, збоку ад воза крочыў Мікалай. На нагах у яго былі цяжкія салдацкія боты, а на абцасах — падковы, таму кожны крок яго гучаў, як удар крамлёўскіх курантаў. Мікалай быў спакойны і чорны — і з твару, і з паставы. Каля труны сядзела Кацька — яна кідала на дарогу яловыя лапкі. Плакалі «рускія», цыгане ішлі моўчкі — нібы саромеючыся жалю і наогул усяго таго, што адбываецца. Ішлі з гадзіну — па сонцы, па цеплыні, па жоўта-чырвоным лісці.

Труну паставілі на зямлю каля ямкі. Мужчыны знялі капелюшы. Рада прачытала малітву. Адчувалася жаданне хутчэй завершыць абрад. Рабілі ўсё аўтаматычна, больш мітусіліся, перашкаджалі адзін аднаму. Развіталіся. Мужчыны падыходзілі да Насці — моўчкі стаялі, жанчыны, перажагнуўшыся, выціралі вочы. Суседка пацалавала нябожчыцу ў лоб, услед за ёй пацалаваў і я — здзівіўся: «Якая халодная»! Пацалавалі, крыху пакрывіўшыся, Джан і Рустам. Кацька не падыходзіла — плакала. Праз хвіліну прынеслі лейцы, цела закрылі чырвонай матэрыяй. Васіль узяў малаток і забіў у вечка труны аж шэсць цвікоў, нібы баяўся, што Насця ўстане і пачне пытаца ў прысутных пра сумленне. Грукат спалохаў птушак, якія сядзелі на магілкавых дрэвах — у паветры пачуўся шоргат крылаў і зняважлівае «Каррр — пакар-аа-н-не!».

Як вярталіся, нечакана патрапілі на савецкі фэст. Улады рыхтаваліся да чарговай справаздачы аб культурна-масавай рабоце з грэбянёўцамі. У старым ліпавым парку, збоку ад школы, на цэментавым пляцы гурт маладзёнаў з электрычнымі гітарамі ў руках спяваў славутую «Зямлю ў ілюмінатары». Джанчык пачаў было падпяваць, але атрымаў ад Рады кухталя і змоўк.

На хаўтуры дзяцей не пусцілі. Далі паспытаць салодкі канон і вытурылі за парог. Абед быў непрацяглым — не елася і не пілося…

Калі ўсе разышліся, маці засталася мыць посуд у мікалаевай хаце. Бацька працаваў у начную змену. Чакаючы маці, я знайшоў канапу. Скруціўся ў клубок, ляжаў і слухаў размовы, вывучаў бразкатанне місак і шклянак.

— Шклёп-шклёп-дзвон-н-нн… (памылі міскі з талеркамі).

**Рада:** — І мяне чакаў Насцін лёс, і я марыла аб такой смерці…

**Маці:** — Што ты кажаш? Гэта ж грэх… Хоць я і не веру зусім.

**Рада:** — Усе верац. Кожны ў сваё, праўда, але ўсе..! У 1943 годзе давялося ўцякаць з Магілёва, бо палявалі на нас, як на сабак. Хто не ўцёк, у канцлагер патрапіў. Колькі цыганскіх костачак ляжыць пад брукам праспекту[3], Бог толькі адзін ведае. Стаялі мы на беразе Дняпра, як зранку наехалі карнікі. А ўцекчы няма куды — хіба ў ваду. Знайшоў нас з братам бацька і кажа: «Плывіце, дзеткі, праз рэчку. На другім беразе мо схаваецеся..!» Мы — у Днепр, а бацька да немца, схапіўся за аўтамат і трымае. «Дзеці, дзеці!». Закрычаў і не жывы на зямлю паляцеў. Немец убачыў нашыя галоўкі ў вадзе — даў чаргу, а як мы схаваліся — пайшоў, думаў, загінулі. Выбралася на бераг я адна, брат патануў…

Бегла, куды вочы глядзелі — і нарэшце, знясіленая, у атаву павалілася. Колькі ляжала — не ведаю. Ачуняла ў сялянскай хаце — узяла мяне ваша. Век не забудуся на яе імя — Наталля. Няхай яе Бог дабраслявіць на тым свеце. Выхадзіла мяне, у галодныя часы апошні кавалак хлеба аддавала. Быў у яе сынок, Пецця, гадоў 17. Злюбіліся мы з ім моцна — нібыта і вайны няма: такое шчасце! Хавалі яны мяне з палову года, ажно ўвесну здарылася бяда…

Неведама адкуль, з якога балота, наскочылі паліцаі. Божа, якія тут узняліся гвалт, крык, страляніна. Загналі людзей у свіран і спалілі. Адна я засталася, бо не выдаў мяне ніхто — пад мостам адседзелася, выйшла на вуліцу і скамянела — чорна ўсюды і пах смерці: жудасна, жудасна, жудасна!.. Вёска ж тая недалёка: Князеўка, мо ведаеш?

**Маці:** Шклёп-шклёп-дзвон-н-н-н-н… Канечне, ведаю, Рада, Князеўка ад нашай вёскі праз лес усяго…

**Рада:** І Пеценька мой там застаўся… Хадзіла я па папялішчы, як апантаная. Хацела ўжо лезці ў пятлю, ды Бог інакш судзіў… (Рада заплакала.)

Мікалаеву хату апанавала цішыня. Нібы сціхла навальніца, нібы людскія хвалі адступілі за далягляд — і нечакана ўсталявалася празрыстая лагоднасць. У запаленую электрычную лямпу грукатаў крыламі матыль. Ад яго нястомных рухаў на шпалерах адбіваліся цені — зіхоткія імклівыя маланкі…

---

1 Вядомы Магілёўскі рэстаран.

2 Рускі – так цыгане называюць усіх славян. «Рускі» — універсальны этнонім, які аддзяляе ў цыганскай свядомасці сваіх ад чужых.

3 Маецца на ўвазе праспект імя Шмідта ў Магілёве, дзе падчас Вялікай Айчынай вайны быў канцэнтрацыйны лагер.

Працяг са стар. 14 (6)

Лявон працягнуў мне руку, я падаў сваю, і мы развіталіся, не абмяняўшыся візіткамі і нумарамі тэлефонаў.

Назаўтра за сняданкам я пачуў, як у інфармацыйным выпуску перадалі навіну, што напярэдадні вечарам на нашым моры мужчына спрабаваў скончыць жыццё самагубствам — ён скочыў з дамбы проста ў вір вадаспаду. Яго, аднак, уратаваў патрульны міліцыянт, які выпадкова аказаўся непадалёк ад месца здарэння. Мне вельмі не хацелася, каб гэта быў Лявон, але думкі пра ўчорашняга выпадковага спадарожніка не пакідалі мяне цэлы дзень. Няўжо гэта ён? Няўжо так расчараваўся ў жыцці, што вырашыў усё закончыць адным махам?

Адказ з'явіўся тым жа вечарам у выпуску крымінальнай хронікі на трэцім нацыянальным тэлеканале. Журналіст расказаў пра спробу самагубства на дамбе нашага штучнага мора, пра шчаслівае выратаванне меркаванага самагубцы сяржантам патрульнай службы, а пасля прадэманстраваў сваё кароткае інтэрв'ю з Лявонам Васюком, які з прычыны пераахалоджвання трапіў у Шпіталь хуткай дапамогі. Лявон быў спакойны і стрымана ўсмешлівы. Мне нават здалося, што з куточкаў ягоных вачэй праменіць схаваная сумная іронія, і было незразумела, праўду ён гаворыць ці не. Ён сказаў у відэакамеру прыблізна такія словы:

— Я зусім не збіраўся накладаць на сябе рукі. Гэта не мой выбар. Проста ў мяне незвычайная жыццёвая пазіцыя. Я лічу, што вакол вельмі шмат людзей, я б сказаў, што аж зашмат. І вось гэта быў эксперымент, ці кінецца нехта мяне ратаваць на беразе зусім пустога восеньскага мора. І не памыліўся. Знайшоўся такі чалавек, проста з кустоў ля дамбы выскачыў. Таму я і кажу, што людзей зашмат, варта было б прарэдзіць іх троху…

# Дзякуй, так патрэбны беларусам шпіталь

**Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з Маларытчыны Аляксей Філатаў у Другую сусветную вайну страціў сямёра крэўных родзічаў.**

Самае трагічнае — 22 чэрвеня 1941 года фашысцкім снарадам забіла яго родную маці і самога параніла асколкамі. Потым трохгадовым з прыёмнаю матуляю ён трапляе ў канцлагер…

Не надта шмат, але дзе-што пра той скрутны час занатаваў пісьменнік у сваёй аўтабіяграфічна-лірычнай прозе. Арыентуючыся на шыракавядомую кнігу «Я з вогненнай вёскі», уклаў і адрэдагаваў дзве дакументальныя кнігі ўспамінаў былых вязняў фашызму «Асколкі болю» і «На абпаленых крылах». Працаваў над імі і ў Рэспубліканскім шпіталі для інвалідаў вайны імя П. М. Машэрава пад Мінскам, які Аляксей Філатаў называе «мае Каралішчавічы ды Ісілач».

Сёлета ў шпіталя 70-гадовы юбілей, з якім вітае шматлікі калектыў ягоны штатны пацыент — 75-гадовы былы вязень фашызму Філатаў вершаваным радком…

**Прытулак, мо і апошні…**

*У куточак прыгожы краіны,*
*Дзе ірдзеюць каліны*
*Ды зелянеюць яліны,*
*Шляхам шырокім і вузкім*
*Цячэ люд беларускі –*
*І зблізу, і здалёк —*
*У прытулак гасцінны —*
*«Машэрава медгарадок».*

*Ды люд адмысловы —*
*Не за лісліўыя словы-высновы,*
*За раны-пакуты,*
*Калецтвы сюды*
*Збіраецца і стары,*
*І, на жаль, малады.*

*І хоць часам ён на нас*
*Касавурыцца, што ўхопім «на грудзі» мы,*
*Калі сэрца занудзіцца.*
*Гукаем яму мы знарок:*
*Да новай сустрэчы,*
*Больгарадок!*

*Усё забудзецца, перамелецца.*
*Жывы будзе салдат,*
*куды дзенецца, сюды вернецца…*

*У бор яловы, у гусценькі садок,*
*у Машэрава «Ратуйшпіталёк»…*

**Аляксей Філатаў**



# Шаўчэнкава «Слово Нове» — новай Украіне



Раман ЛУБКІЎСКІ

**23 кастрычніка закончыўся зямны шлях вядомага пісьменніка і грамадскага дзеяча Украіны, лаўрэата Нацыянальнай прэміі імя Т. Шаўчэнкі, вялікага сябра беларускай культуры Рамана Лубкіўскага.**

*«Украіна будзе памятаць Рамана Лубкіўскага як паэта, дыпламата, лідара ў коле інтэлектуалаў», — напісаў у дні жалобы прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка.*

*Раман Лубкіўскі — адзін з заснавальнікаў Народнага руху Украіны. Быў дэпутатам першага склікання Вярхоўнай Рады Украіны, паслом Украіны ў Чэхіі і Славакіі. Рашэннем Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў стаў ганаровым сябрам арганізацыі.*

*Раман Мар'янавіч запомніцца і як нястомны і таленавіты перакладчык беларускай паэзіі на ўкраінскую мову. Дзякуючы яго намаганням па-ўкраінску загучалі вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча (іх Р. Лубкіўскі ўклаў асобным выданнем), Францішка Багушэвіча, Каруся Каганца, Паўлюка Багрыма, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і многіх іншых.*

*Неаднаразова яго творы з'яўляліся і на старонках «Літаратурнай Беларусі». Сённяшняя публікацыя — нашая сціплая даніна памяці Вялікаму ўкраінцу.*

Ідэал Тараса Шаўчэнкі («Раю світлий... моя Україно») выплываў з нацыянальнага досведу, страчанага, прыхаванага, нішчанага, а пасля Шаўчэнкі — плюндраванага яшчэ паўтары стагоддзі.

*Погибнеш, згинеш, Україно,*
*Не стане знаку на землі,*
*А ти пишалася колись*
*В добрі і розкоші! Вкраїно!*

*...Воскресни, мамо! І вернися*
*В світлицю-хату; опочий,*
*Бо ти аж надто вже втомилась,*
*Гріхи синові несучи...*

*...Скажи, що правда оживе,*
*Натхне, накличе, нажене*
*Не ветхе[є], не древлє слово*
*Розтлєнноє, а слово нове*
*Меж людьми криком пронесе*
*І люд окрадений спасе...*

**(«Осія», раздзел XIV)**

Ужо ў адным з ранніх твораў паэт кінуў сваім сучаснікам заклік, які сёння набыў новы змест:

*В Україну ідіть, діти,*
*В нашу Україну...*

Наша Украіна, паводле Тараса Шаўчэнкі, гэта бацькаўшчына сэрца, айчына духу, краіна рыцарства, зямля, дзе пануюць дабро, згода, высокая мараль. Віртуальнае, так бы мовіць, утварэнне, заснаванае на гістарычных рэаліях тых часоў, калі Украіна была княжскай дзяржавай, а потым казацкай рэспублікай, і дапоўнена ўяўленнямі пра досвед вядомых дэмакратычных дзяржаў («Чи діждемося Вашингтона з новим і праведним законом?..»), — Шаўчэнкавае бачанне ўкраінскай дзяржавы разам з тым натыкаецца на многія балявыя парогі розных этапаў украінскага дзяржаватворства, непераадольныя супярэчнасці, розныя анамаліі і дэфармацыі ў мадэляванні ўкраінскай ідэі, закладзеныя і яе ворагамі, і недалугімі дамарошчанымі ўладарамі.

Шаўчэнкаўскі ідэал самастойнай украінскай дзяржавы — на мяжы дэмакратычный федэрацыі славянскіх народаў і ліберальна-грамадзянскай супольнасці, досыць невыразнай за сацыяльнымі прыкметамі, але выразнай, адзначым, дужа выразнай нацыянальным характарам, традыцыямі, этычнымі і духоўнымі каштоўнасцямі. Гэта значыць, аўтар «Кабзара» марыў і сніў Украіну іншую, чым яе бачылі сябры-кірыламефодзіеўцы ці патрыёты «каўбасы і чаркі», прыхільнікі «вальнадумства ў шынку». Ён прагнуў, люляў у душы Украіну ўкраінскую, аднак з таго плацдарму пераносіў яе ў страшны, забойчы, ненавісны, самазнішчальны кантэкст расійскай дэспатыі.

Можа быць, у вачах еўрапейскага і сусветнага чытача — ачысцілася нашая вялікая гісторыя, якую стагоддзямі перайначвалі, перахлусілі ды сплюндравалі прыдворныя царскія гісторыкі, публіцысты, папулярызатары «собирания земель», плакальнікі пра «общее отечество» і хатнія міфатворцы «братньої колиски».

Міжнародная супольнасць нарэшце павінна ацаніць уклад у скарбніцу сусветнай культуры і навукі, які зрабілі ўкраінцы, — ад Юрыя Драгобыча да Івана Пулюя, ад Міколы Гогаля да Сергія Каралёва, ад Аляксандра Архіпенкі да Аляксандра Даўжэнкі, ад Васіля Ерашэнкі да Якава Гніздоўскага ды Святаслава Гардзінскага.

Агалошваю тое, бо супраць каго найбольш, як не супраць Шаўчэнкі не толькі ў расійскамоўным асяродку, а і сярод англамоўнага распаўсюджваюцца не зярняты ісціны, а спекулятыўныя, украінафобскія сцверджанні і ацэнкі.

Мабыць, прадуманая і добра аплочаная кампанія дыскрэдытацыі генія ёсць толькі фрагментам шырэйшых і далёкасяжных антыўкраінскіх праектаў...

Але няхай будзе вядома ўсім апанентам нашага выбару: у XX стагоддзі Украіна перайшла Даліну смерці, і нават калі яе змушаюць азірацца, дык яна не спыніцца. Вырываемся на цывілізацыйны прастор са шматстагоддзевага блукання па «розпуттях велелюдних». Адольваем анямію, апатыю.

Вырываемся з палітычнай летаргіі так паспяхова, што палітычныя партыі пладзяцца, як аўстралійскія кралі... І далей бэрсаемся ў супярэчнасцях — ужо цяперашніх, постмайданавых.

Не зважаючы на прыход амроянай новай улады, дыхаем смуродам раскладзенай імперыі, нам тыцкаюць у душы саўковай і савецкай настальгіяй.

Не эвакуяваны акупацыйны кантынгент з украінскай інфармацыйнай прасторы, не выведзена на свет божы ўкраінская кніга.

Не паставілі на месца паэта і палітыка Аляксандра Мароза, моўнае пражэктарства якога аб наданні расійскай мове афіцыйнага статусу — не што іншае, як канвульсіўнае намаганне «матір катувати...».

Тарас Шаўчэнка ўсім сваім подзвігам і таксама ўсім «життям після життя» дамогся нечуванага: поўнай ідэнтычнасці са сваім народам, з гістарычнай і палітычнай сутнасцю вызваленай бацькаўшчыны, з доляй «і мертвих, і живих, і ненароджених» украінцаў. Ён яднае ва ўкраінскай і сусветнай часапрасторы рознааддаленыя ад сябе пакаленні, згуртоўваючы іх у адзіную і святую «сем'ю вольну, нову».

У творчай спадчыне Алексы Новакіўскага зберагаюцца эскізныя нарысы задуманага жывапісцам незвычайнага сюжэта. Гэта меў быць трыптых.

У першай частцы, за плячыма ў Шаўчэнкі, які абдымае двух дзетак, з'яўляецца смерць з касою. У другой — яе ўжо няма: зноў бачым паэта з дзецьмі.

У трэцяй з'яўляецца Анёл. Ён абдымае магутнымі крыламі Шаўчэнку і дзяцей — хлопчыка і дзяўчынку.

Змяняецца відэашэраг, і выява набывае сімвалічны сэнс: перад ШАЎЧЭНКАМ, перад яго вечна жывым, вечна новым заклікам-жаданнем: Сваю Украіну любіць!

## Шаўчэнка. Аўтапартрэт са свечкай

Раман ЛУБКІЎСКІ

*Казарма... Ноч... Сцярожка спяць*
*і сцены, і вуглы, і дзверы.*
*Ён захацеў намаляваць*
*сябе самога на паперы.*

*За штрыхам штрых — так лёс-плывец*
*пад пенай хвалю расцінае...*
*Ды сілаў сціснуць алавец*
*у пальцах зболеных не мае.*

*Няма... Ёсць — ноч. І той мундзір,*
*і безнадзейнае храпенне.*
*І плац. І ротны камандзір.*
*І боль — тупы да анямення.*

*«Цябе няма. Цябе няма!*
*Ты сам у тых пясках — пясчына.*
*І знаць не будзе Украіна,*
*які буран цябе ламаў!»*

*«Як не зламаем, дык сагнём.*
*Навечна*
*жыцьмеш*
*пад прымусам!..»*
*Гарыць сляза сівым агнём*
*пад непакорна звіслым вусам.*
*І ўжо казарму, трон і плац*
*жарэ агонь несамавіты.*
*Не плач, Тарасе. Цар — заплач:*
*у тым агні — ты будзеш біты!*

**Пераклад з украінскай А. А.**

# Мерыдыяны Аляксея Пысіна

## (Да 95-годдзя паэта)

Сяргей ПАНІЗЬНІК

### Любоў

**Аляксею ПЫСІНУ**

*Звяртаюся да родных, да сяброў,*
*да тых людзей, што смерць перамаглі, –*
*і слухаю пра крэўную любоў*
*да сцяга,*
*да былінкі,*
*да зямлі...*

*Мой сцяг быў ратаваны ў баі,*
*мае былінкі вораг не стаптаў...*
*І помняць маладыя салаўі,*
*хто верным сябрам*
*Беларусі*
*стаў.*

*Шчаслівая, зямля жывых вякоў, –*
*і мужнасцю, і вечнай дабрынёй.*
*Цяпер ідзе ў дазор мая любоў –*
*і Бацькаўшчына*
*за яе*
*бранёй.*



**Аляксей Пысін з вядучым Іосіфам Скурко на запісе тэлеперадачы. 1980-я гады.**
Фота С. Панізьніка

Мерыдыяны Аляксея Пысіна мяне закранулі ў 1960-х гадах. Пасля заканчэння Лявонпальскай школы ў Мёрскім раёне я памкнуўся вучыцца на фельчарскім аддзяленні Магілёўскага медыцынскага вучылішча. Пасвіўшы калгасных коней, стаў апантаным кнігалюбам, у раённай газеце друкавалі мае вершы. Але стаць фельчарам — гэта таемная мара быць хоць у нечым падобным на майго хроснага бацьку, мястэчковага фельчара Кураша Льва Іванавіча, незвычайнага наддзвінскага лекара.

На маё задавальненне, у вучылішчы (даўняй школе павітух) навучэнцаў накручвалі не толькі правільна пазначаць «dentur tales dozes» у рэцэптах. Нас далучалі і да мастацкай самадзейнасці, на сцэне выхваляцца. Запомнілася: «In poetis non Homere soli lokus est» — не толькі Гамеру ёсць месца сярод паэтаў. На паседжанні літаб'яднання пры газеце «Магілёўская праўда» бегаў з ахвотай. Аляксей Васільевіч не выстругваў з маіх лірычных парасткаў нейкія там калочкі, прыгодныя для ўтыквання ў газетныя радкі. Пупышкі пакідаў для новай лістоты.

Ён часта запрашаў на літаратурныя сустрэчы з пашанотнымі гасцямі горада: Янкам Брылём, Максімам Лужаніным, Пятром Прыходзькам... І мы, галадранцы, за дзясятак капеек набывалі кніжачкі, каб пастаяць па дарчыя надпісы.

Пысінскія мерыдыяны пераходзілі ў паралельныя праходкі, асабліва калі я адужэў дзякуючы падтрымцы Генадзя Бураўкіна і з сакавіка 1979 года стаў працаваць у рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Прымаў удзел у падрыхтоўцы перадач «Спадчына», «Памяць», «У сям'і адзінай»... Часта гучала мая аўтарская 15-хвілінная перадача пра кніжныя навінкі. Для папаўнення відэаматэрыялаў адпраўляўся з патрэбным экіпажам у Мёрскі ці Верхнядзвінскі раёны, або нават у Літву, у Латвію.

Франтавік Аляксей Пысін з баямі прайшоў амаль праз усю Латвію. Хто дасць патрэбныя сведчанні? Толькі ён! Я, збіраючы матэрыял пра Асвейскую трагедыю, наведаў ацалелых жыхароў каля Бігосава, старажытнай Дрысы... І мне важна было пашырыць веды пра пысінскія наступальныя прарывы, пра ўдачы і жахі вайны. Надакучаў франтавіку, як мог. Не паспяваў ён адпісвацца.

Спрабаваў зацікавіць Аляксея Васільевіча (не вылятучвалася пяшчота яго даўняга настаўніцтва) на стварэнне новых тэлепраграм. Падахвочваў ягоны аўтарытэт. Хоць і запозна, але выбачаюся за настойлівы прымус. Ды тэлевізійны жанр і я не ўспрымаў з асаблівай любоўю.

І толькі аднаго разу мне ўдалося запрасіць Аляксея Пысіна ў тэлестудыю. Творцы, чый лёс быў апалены жорсткай вайной, выказваліся перад тэлекамерамі, каб перадаць гледачам свае нязгаслыя перажыванні. Акрамя Пысіна ў студыі на той дзень былі Іван Новікаў, Мікола Аўрамчык. Вёў перадачу Іосіф Скурко.

Я невымерна ўсцешаны, што праз усё жыццё сонечная паводка Аляксея Васільевіча ўздымала маё натхненне. І тады, калі пісаў верш-прысвячэнне, і тады, калі хацеў паказаць яго творчую асобу «ў зямным вітку» — праз выдыханне ў «Голасе Радзімы», газеце для замежжа. І сёння я нібы прытуляю да сябе знакавую на нашым мацерыку постаць, перачытваючы зборнікі, дарчыя надпісы, пісьмы Паэта... Бо «Усё, што пройдзена, усё, што прапета, — у вітку застанецца зямным».

# Не знікнуць кніжкі на белым свеце!



Сяргей ПАНІЗЬНІК

### Вышыванка

*На стале стаіўся гляк.*
*Пахваліўся:*
*— Не камяк!*
*Не гліняны я галяк.*
*Век мінуў — і не абмяк.*
*Майстрам быў ганчар-зямляк!*

*Бліснула мая маўчанка:*
*— Я не гляк. І не мачанка…*
*Але ёсць вякоў вязанка.*
*Там і продкаў выжываннка, —*
*Гэта мамы*
*вышыванка!*
*Беларус я як-ніяк,*
*З вышыванкай — здаравяк!*

### Нектар

*На амшары — моху ворс.*
*Сябрам вераса я рос —*
*Сінявок, светлавалосы.*
*Нават зумкія чмялі*
*Не баяліся дзіцёнка*
*На ўмуроджанай зямлі.*

*Вось і соты іх — пляцёнка.*
*Кроплямі з ружовай вузы*
*Склеіў маміны абрусы,*
*Упрыгожыў таты твар…*

*Ну й чмялі! Як беларусы…*
*Веру ў меданосны дар:*
*Наша нацыя — нектар!*

### У паход!

*Трапіў ён у Данію.*
*Рады наш Васёк.*
*Велікам Брытанію*
*Перасёк…*

*— На Мадагаскары быў?*
*— Быў!*
*Я і ў Сыктыўкары*
*Сок піў.*
*І далей бы я рупіў,*
*Еў наліў,*
*Ды — у бухту бухнуўся,*
*У заліў.*

*На каразе віснучы,*
*Сук апёк:*
*Патаема Свіслачы —*
*Вадасцёк!*

*Пашукаю ў дотыку,*
*Не па візе,*
*Даўнасці экзотыку*
*На Нямізе.*

*Бітву ўспомню, Ігара,*
*Менку, брод…*
*Дзе вы, вусце*
*і гара?*
*Я — ў паход!*

### Не знікнуць!

*Ляцела пёрка —*
*Мая паперка:*
*— Чытай, вавёрка!*
*Чытай, цяцерка!*
*Чытай, дарога,*
*І ветрык свежы!*
*Хай горад строгі*
*Чытае вершы!*

*Паперка-пёрка —*
*Сарокай вёрткай.*
*Я свой камп'ютар*
*Паслаў на хутар.*
*Цяпер мне птушкай*
*Пісьмёны гушкаць,*
*Пісаць на вежы*
*Узлёты-вершы,*
*Чытаць ля вышкі…*

*Чакайце, дзеці:*
*Не знікнуць кніжкі*
*На белым свеце!*

### Падрос!

*Косця:*
*— Я падрос. Нашу зачос.*
*Валасы не дыбарам.*
*Ніна:*
*— Ты, гляджу, як хмарачос.*
*Сёння перад выбарам:*
*Чубам неба казытаць,*
*Ці ў кнігарні чухацца…*
*Толькі носам не чытаць:*
*Вочы — літар шчупальцы!*

*Косця:*
*— Кожны*
*добрых літар*
*стос*
*Ведамі падзеліцца.*
*Томік думак — хмарачос:*
*Пачытаў я — і падрос!*
*Ніна:*
*— А гульня, дзе мяч і крос,*
*Анідзе не дзенецца.*

### Прачыстая

*Зажыначны колас*
*хаваецца ў пролаз.*
*Не стане прапажай.*
*Уздымем галовы:*
*мы — жытняя стража.*
*Хай з волава Слова*
*злятае замова.*

*Што з божай паклажы?*
*Рупліўцы ўсе нашы:*
*і Сцяг—ад залома,*
*і Герб — ад прапажы…*

*Мы ў полі — для смеласці:*
*верым — да жылак…*
*Натхняецца ў спеласці*
*свята дажынак.*

*Спас — бронзавы Колас —*
*падаў нам свой голас:*

*— Прачыстая чынна*
*ідзе, як Айчына!*
*Яна — малайчына!*
*Адолець лагчыны*
*не трэба ляйчыны.*

*Ёсць Волечцы пролаз, —*
*жыццё пойдзе ў колас!*

# AdМетная котка

(Прысвячаецца маёй Та́йзе)



Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

***

*Як «Ойча наш»*
*Запомні кот і кошка:*
*Сапраўдны гаспадар*
*У хаце — ты!*
*Адстойваць незалежнасць*
*Хоць патрошку,*
*Хоць па кіпцюрыку —*
*Закон святы!*

***

*Забываюць часам,*
*Але ж ведаюць звяры*
*Пра закон адносін*
*Пракаветны, а не новы:*
*Людзі для сабак*
*Заўжды былі гаспадары,*
*А катам —*
*Не больш, як персанал*
*службовы.*

***

*Трэба цэрціся,*
*Нібы круціць калаўрот, —*
*Пазначаць чалавека —*
*Сваю тэрыторыю,*
*А вылізвацца добра,*
*Каб наадварот —*
*Пах ягоны прыбраць,*
*Заставацца няскораным.*

***

*Ежа чалавечая*
*Найчасцей — смачнейшая:*
*Смакату з'ядае сам,*
*«Whiskas» падае катам!*

*Не давай яму раскошы*
*Праядаць самотна грошы,*
*Далучайся да абеду*
*І… да чалавечых ведаў!*

***

*Прапісана табе дыета*
*Мясная —*
*Памятай пра гэта,*
*Хоць не зашкодзіць*
*трохі траўкі —*
*Унесці ў рацыён папраўку.*

*Атрута — хатнія расліны!*
*Ты — кот, а не казёл,*
*І кпіны*
*Не хочаш чуць,*
*Дык перастань*
*Скубці фіялку і герань!*

***

*Ні адзін не зразумее кот,*
*Што жыве ў сталіцы*
*ці на вёсцы, —*
*Чалавек заве наадварот*
*Рэчы,*
*стравы…*
*Ранкам на сняданку*
*Карыстаецца сваёй*
*трасянкай:*
*Кашу называе не АВЁСкай.*
*А чамусьці дзіўнаю аўсянкай.*

***

*Вярнуўся чалавек твой*
*у кватэру,*
*Напрыклад, з позняй*
*дачнай электрычкі,*
*Дык не паказвай радасці*
*без меры, —*
*Хай станецца табе*
*заўсёднай звычкай*
*Спачатку пакачацца*
*сярод залы,*
*Прайсціся,*
*хвост задраўшы…*
*Толькі потым*
*Дазволь,*
*Каб слова добрае сказалі,*
*Каб даглядалі,*
*Лашчылі ў ахвоту.*

***

*Найлепшая падмога чалавеку ў кабінеце —*
*Разлегчыся на дзелавых паперах*
*ці газеце.*
*Калі прагоніць,*
*Можна паспрыяць яму іначай:*
*Паскідваць ручкі,*
*ластыкі*
*і скрэпкі*
*без астачы.*

***

*Ці кіпцедрапка добрая ў кватэры,*
*Ці вострыць кіпці хораша —*
*Праверыць*
*На крэсле можна,*
*на канапе…*
*Верыш,*
*Падыйдуць і навюткія шпалеры!*

***

*Як толькі вызваліцца*
*Месца ў крэсле,*
*Заскочыць на яго —*
*Твой абавязак,*
*І выглядам усім сваім падкрэсліць,*
*Што там дагледзіш*
*Сон з кашэчых казак.*

***

*Ты хочаш падзяліцца плёнам палявання?*
*Прыдушаную мышку,*
*яшчарку*
*ці птушку*
*Цягні жанчыне-гаспадыні на світанні*
*У ложак цёплы,*
*І найлепей —*
*На падушку!*

***

*Хвост каціны шмат што скажа.*
*Той, хто пільны, той заўважыць:*
*Кот трымае хвост трубою*
*Ў найвыдатнейшым настроі,*
*Скіраваны ўверх, «парадны» —*
*Самаўпэнены, панадны.*
*Хвост распушаны як ёлка, —*
*Страх працяў, нібы іголка,*
*А віляе па-сабачы,*
*Дык угнеўлены няйначай.*
*Водзіць з боку ў бок павольна —*
*«Прэч, бо з вамі непрыкольна!»*

***

*Зайздросцяць нам парашутысты,*
*Барцы,*
*гімнасты*
*і артысты,*
*Бо ўмеем прызямляцца зграбна,*
*Як падаем, —*
*чатырохлапна!*

***

*Калі зусім мышэй не ловім,*
*Не можам корм дармовы грызці,*
*І без пісьмовае дамовы*
*Прыносім людзям шмат карысці.*

*Спакойна спім, бо не даймаюць*
*Сумлення нашага згрызоты:*
*Самотных цешым і займаем,*
*Ратуем іх ад адзіноты.*

*Нібыта чуйны ўвішны лёкай*
*Падтрымліваем дух маральны,*
*Сардэчнікам даем палёгку —*
*Зніжаем ціск артэрыяльны!*



Малюнак Алены КАРПОВІЧ

# Дзённік 1965–1966 гадоў

Летам у рэдакцыю часопіса «Дзеяслоў» звярнулася пляменніца Уладзіміра Караткевіча Алена Сінькевіч. Яна прапанавала для публікацыі дзённік свайго знакамітага родзіча, датаваны 1965–1966 гадамі. Спадарыня Алена падрыхтавала яго да друку і напісала каментары.

Дзённік уяўляе сабой бухгалтарскі «гросбух» вялікага фармату, старонкі якога з абодвух бакоў запоўнены круглым чытэльным почыркам Караткевіча. У час напісання дзённіка аўтар працаваў над раманам «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і аповесцю «Чазенія».

№ 78 часопіса «Дзеяслоў» з невядомым дзённікам Уладзіміра Караткевіча можна набыць у Мінску ў крамах «Акадэмкніга», «Логвінаў», «Кніжны салон» і праз сайт knihi.by.

У юбілейны месяц (26 лістапада Уладзіміру Сямёнавічу споўнілася б 85 гадоў) «Літаратурная Беларусь» прапануе сваім чытачам фрагменты той публікацыі.

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

**28 чэрвеня**

Чаму пачынаю зноў пісаць дзённік — не ведаю. Я яго сто разоў пачынаў і кідаў. Кіну і на гэты раз, калі адчую, што галоўная мэта — пісаць праўду аб іншых і аб сабе — не выканана. А прамым штуршком гэтага пачыну, здаецца, ёсць тое, што жыццё і час плывуць між пальцаў, і не затрымаць, не вярнуць іх. Нельга ўскладаць на перагружаную памяць яшчэ і той цяжар, каб помніць, дзе што было і калі. І, у той жа час, страшна ад думкі, што мінаюць тысячы дзён, спраў, падзей, і забываюцца ў нетрах мозгу, і нічым іх не аднавіш пасля: нібы і не жыў, не думаў. Нібы не чалавек, а малпа... Магчыма, ёсць рацыя ў тым сцверджанні, што зямля — палігон для гіганцкага вопыту, ра́сы — тое, што і расліны з мечанымі атамамі, кожны чалавек — мікракосм, які так ці іначай адказвае на спрадвечнае пытанне вялікага ўсесусветнага Розуму. І з бясконцых мільярдаў адка́заў урэшце вырасце адзін, адзіна верны Адказ...

Не знікне ўсё, чым жыў чалавек (і гэта суцяшае), усё прыдасца, — і ў гэтым сэнсе Купала, Багдановіч, Дантэ — не маюць перавагі над кожным сярэднім чалавекам, а роля пісьменніка толькі, так бы мовіць, унутрызямная: ён дапамагае кожнаму члену сям'і чалавечай лепей думаць, узбагачае людзей і, такім чынам, робіць іх больш вартымі для Адказу...

Калі акумулятар не той, галоўны, Адказ, а проста наша зямная культура, якая сальецца з іншымі непасрэдна пры сустрэчы з жыхарамі іншых светаў — тады нішто не павінна знікаць, нават бабуліна прыказка «задумаўся, як сабака ў чоўне» (так і ўяўляеш брыластага мардача, якога нясе плынню ў чоўне, а ён думае сабачымі сваімі думкамі: «А што ж рабіць?»).

Тады ўсё самацвет, усё каштоўнасць. Тады патрэбен і гэты дзённік, як дзённік кожнага чалавека. А паколькі мы не ведаем, як яно там, то лепей па-мужыцку засцерагчыся...

Вось неяк і стаміўся пісаць. Ці выстачыць цярпення запісваць кожны дзень хаця б па радку?

У Рагачове, пэўна, хопіць. Тут добра думаецца. За адну ноч і палову дня я тут надумаўся больш, чым за тыдзень у Мінску, ды й адчуваю сябе лепей, чым усюды. Людзям трэба жыць у вёсках і невялічкіх гарадках большую частку года. Толькі там яны — людзі. Хацелася б, хоць калі-небудзь, пабудаваць сабе хаціну на хутары Крыцкага, жыць там, пісаць, заўсёды мець чыстае сумленне, ні на хвіліну не адрываецца ад зямлі і ў яе ж калісьці легчы.

Шкада — ніколі, пэўна, гэтага не будзе. І з-за грошай, і праз іншыя прычыны. Чорны таксама ўсё жыццё марыў пра свае Цімкавічы, увесь час складаў з дачкою планы будучага дома, а памёр у каменных джунглях, змучаны безграшовасцю, крытыкамі, уціскам цэнзуры, знявечаны фізічна трыццаць сёмым годам — хай гэтаму году і тым, хто рабілі гэты здзек з сапраўдных, — вечная ганьба і (на зямлі яшчэ) помста.

**29 чэрвеня. Аўторак**

Другі дзень у Рагачове. Прыехаў пазаўчора ўвечары аўтобусам — нашы ўжо леглі спаць. Усталі. Узялі з дзядзькам па чарцы, а пасля лёг і я. Раніцай прывёў усё ў парадак. І вось зноў круглы стол, за акном вінаград (лета такое позняе, што ён яшчэ не цвіў), на стале белая папера (раніцай схадзіў у горад, купіў яе, «Героеў 1863» і яшчэ сёетое), попельніца-певень, рукапіс «Хрыста» і Біблія. Можна працаваць. Але ў той дзень узяў вуды і пайшоў да двох тычак. Крапаў вельмі рэдкі дождж, цвілі палаткі. Там, дзе вясною даўжэй стаяла вада, быў цэлы разліў кветак, старых знаёмых, з якіх я дзявяцьдзесятых ведаю па імёнах і дзе яны любяць жыць. Бяражанкі лёталі над сталёвай вадой, і заўсёды, здаецца, папарна, бо ў кожнай адбітак і таму ўражанне такое, што іх удвая больш. Рыба, як казаў адзін добры знаўца беларускай мовы, «не дзяўбла». Вярнуўся ў прысмерку.

Сёння з раніцы трохі скарачаў «Хрыста». Нешта не працуецца. І дарэмна, бо гэта трэба зрабіць за тыдзень, а пасля сесці за аповесць, дабіць і яе...

Сёння чуў ад простага чалавека два тлумачэнні ў духу «тут нам истопник и открыл глаза». Першае — што атамную бомбу кінулі ў якасці помсты за Пёрл-Харбар. Другое — што вугаль і нафта — сляды мінулай атамнай вайны. Вугаль — ад дрэў, што загінулі, нафта — ад усяго жывога. Вунь як глыбока пранікла гэтае страхоцце і жах ягоны.

А тут — півоні. І ў кепскае не верыцца. Не можа яго быць, калі ёсць кветкі і прага жыцця.

**30 чэрвеня. Серада**

Устаў у сем гадзін, і вось ужо палова восьмай вечара, а яшчэ нічога не рабіў. Мала таго, амаль ні аб чым не думаў. Цэлы дзень забіў на скарачэнне сцэнарнага «Хрыста». Работа марудная, уцягнуцца ў яе катаржна цяжка...

І вось хутка вечар. Сонца ў вінаграднічку. Вельмі ціха. Трубіць недзе на рацэ буксір. Хутчэй бы скончыць з гэтым сцэнарыем, дабіць аповесць і радыёп'есу па «Ладдзі», а пасля без спеху ўзяцца за складанне зборніка «Лірыкі» і «Каласоў».

Пэўна, ніколі гэтага не будзе, так заняты. А кінуць занятку не магу. Хачу быць вольным ад усіх абавязкаў.

**1 ліпеня. Чацвер**

У аднастайнасці жыцця ёсць нешта чароўнае. Сёння, як учора і як заўтра. І добра жыць, і хочацца працаваць. Зрабіў яшчэ сорак старонак «Хрыста». Увогуле пасля скарачэння з васьмідзесяці засталося сорак дзевяць. Усё яшчэ многа, але абразаць да канца не буду — я таксама біты, пакіну нешта і на трэці варыянт. Скончыўшы ўсё гэта, пайшоў з Сержам на Рыжковіцу лавіць верхаводак і забіў на гэты малашаноўны занятак цэлы вечар. А я пляваў. Вудзяцца яны весела, на зубах хрумсцяць добра (фосфар для мозгу, хаця, калі ўлічваць мой мазгавы стан за апошні год — мне трэба знішчаць за дзень трох акул), і тут таксама ёсць свае сюрпрызы. Сёння, напрыклад, нечакана для самога сябе, спаймаў чахонь у паўтары мае далоні.

Пасля вячэры на хвіліну выйшаў у сад. Цёмныя дрэвы. Драбнюткі дожджык сее мак.

І вось сяджу і запісваю. Ноч. На вінаград, які цягнецца ў неба, кладзецца адбітак з вакна. І калоціцца ў шкло вялізная шэрая мятлушка, чыясьці душа. Хто б гэта прыляцеў па мяне і да мяне? Можа, хххх[закрэслена]? Лухта! Нягледзячы на яе мінулы ліст, такі самы няшчыры, як і ўсе яны, як яна сама, я не хачу ведаць яе, помніць яе, наведваць яе. Усё мінула. Нічога ад яе не хачу. Быў час: было з кім спаць — не было з кім прачынацца. А цяпер і гэтага няма. Жыццё зноў набыло вышэйшую, спакойную сваю каштоўнасць. Ёсць і сябры, і жанчыны-сябры.

І з гэтымі словамі паставім на мінулым крыж. Не магільны, а той, што на раздарожжы, той, з якога пачынаецца новы шлях.

У які ўжо раз.

**3 ліпеня. Субота**

Вось і прапусціў дзень, хаця і каяўся, што «не буду». А ўрэшце, ці першы раз я кажу сам сабе (не іншым — тут я з дзяцінства нязломны і «невыхавальны») гэтае «не буду»? І ці ў апошні?

Тут, урэшце, ёсць апраўданне. Занадта аднолькавыя дні. Толькі што ўчора я прайшоўся па другой палове «Хрыста», нічога не клеючы, а сёння прайшоўся яшчэ два разы, скараціўшы гэтыя 80 старонак на 29. Такім чынам, засталося ў мяне 102 старонкі пры норме 90-100. Заўтра пастараюся дабіць да 95-ці і адаслаць, напісаўшы, што можна выкінуць яшчэ. Учора таксама зрабіў замах «на маленькіх», на верхаводку. Спаймаў шмат, а дасядзеў да таго часу, калі плавок зліваецца з апошнімі адбіткамі дня.



Затое сёння пад канец дня быў царскі пір. Былі ў Гансоўскіх, запрашалі іх на дзень нараджэння Галі . Урсік Альмавіч — дзіва. Масцю — спаніель, складам — хорт, жвавасцю — артуць + Робін Гуд + старызнік (бо вечна цягае старыя анучы, боты і панчохі). Адтуль пайшлі да Клятэцкіх. Пёс, які сігае цераз трохметровы плот, і яшчэ Інга, англійскі сэтар са шчанюкамі. Калі бачыць, што на яе не звяртаюць увагі, — кранае маленькай лапкай.

Дамовіліся наконт зімняй ваўчынай аблогі і наконт ліцэнзіі на лася (паспрабаваць раз у жыцці трэба).

Гаспадар — стары (два-тры гады) знаёмы. «Паляк» (гаворыць толькі па-беларуску), з хітрым зрокам гарэхавых цыганскіх вачэй, з густымі вусамі (мне б да маёй паўсотні валасін дзясятая частка ягоных — быў бы Будзённы), з веданнем усяго, што робіцца на нашай натуры.

Палец-мезень рукі зламаны, і таму, калі падымае тост, здаецца, што назнарок адстаўляе яго, як капрызніца-паня. Эх, мне б тое паляванне, і тую Інгу, і ўсё. Цэлае жыццё мару аб сэтары (толькі не ангельскім, а ірландскім, агнявым), — але гэтага, відаць, таксама ніколі не будзе.

Пэўна, я сібарыт. Да сённяшняга вечара любіў усё беларускае (нават ласкавую грубасць, нават бесхрыбетнасць), акрамя каньяку. А сёння мы сядзелі ля акна, пілі гэты самы каньяк і закусвалі вялізнымі, з кулак немаўляці, ружова-жоўтымі і чырвонымі трускалкамі, што пахнулі ананасам. Нічога ў жыцці не было лепей. Урбанізм. «Румянасць булкі», «ананасы ў шампанскім», «лёды з бэзу».

Словам — хоць ты права першародства прадай. І за гэтым пачэсным заняткам канчаткова ўпэўніўся, што я патрыёт, што «и дым отечества нам сладок и прыятен (Фу!) "приятен"» (дзекала недабітае!), і што ўсё добра ў залежнасці ад абставін. Нават адзінае неперашкаласнае на Беларусі — беларускі каньяк.

**17 ліпеня. Субота**

Усё пайшло кулём. 6-га атрымаў тэлеграму, што Геронім едзе на юбілей Глебкі. І выехаў першым аўтобусам. Мяты, пыльны, зарослы ўваліўся ў нумар гасцініцы «Мінск» і знайшоў там яго і Грышку . Былі на вечары. Наступныя два дні былі сапсутыя тым, што па яго вечна заходзілі. Вячэра, цверазілаўка, банкет, цверазілаўка. Толькі дзявятага засталіся ўрэшце адны, але тут да яго прыехала з Рыгі дзяўчына. Вось п'яная морда. І тут ужо яго перавыхаваe толькі старасць, калі мы да яе дажывем. Былі ў той дзень на дні нараджэння ў Валі Барадулінай. Назаўтра (я не начаваў дома) з'явіўся дахаты, выпілі з Геронімам, пайшлі да Рыгора, а адтуль яны павезлі мяне на аўтавакзал. І паехаў я ў Рагачоў, і аўтобус зноў стаяў ля кожнага слупа. <...>

А ўчора званіў Генадзь. Нас трох з Рыгорам прызываюць на Далёкі Усход. Што ж, трэба ехаць. Прынамсі, хоць трохі незвычайнага, хоць неяк разбіць гэтае соннае кола быцця.

<...>

**4 лістапада. Чацвер.**

Рагачоў

З Уладзівастока выехалі — амаль суцэльная была зелень.

2-га прачнуліся — горы-букеты: залатыя, барвяныя, зялёныя, жоўтыя, малахітавыя, лімонныя, іржавыя. Тунэлі. Амур і сам Хабараўск у ззянні дня, горадкі Бірабіджана.

А 3-га раніцай — Гонжа. І — сняжок. Прыцярушаныя снегам піхты, лімонныя лістоўніцы. Увечары ў агеньчыках недзе пад Магочай, у гэтых агеньчыках ранняй восені такая была занесенасць да д'ябла, такая закінутасць. <…>

Пад Прыісковай, 4-га, снегу як не было. Голыя сопкі. Шылка. На тым баку яе ў праменнях узыходзячага сонца бягуць па схілах, усё з аднаго іхняга боку, ружовыя, светла-ружовыя бярозы. І сопкі, прыціснутыя каменнямі нагрувашчанымі.

5-га, у аўторак, бліснуў недзе далёка між дрэў Байкал. Распадкі дзівоснай прыгажосці і ружовая шэрань на зямлі. У Іркуцку ніхто не сустрэў, невядома чаму.

І пайшлі станцыйкі. Як і дагэтуль, куплялі бульбу, салоныя грузды і рыжыкі ў слоіках, хлеб і іншае.

У Зіме з яе дужа «р-рюскім» вакзалам купілі чаромхі, і я ўспомніў гады вайны, інтэрнат і Урал. Які я ўсё ж стары.

Наступнага дня ў Марыінску былі яшчэ жоўтыя сям-там бярозы, а пад Новасібірскам паваліў густы снег.

Затое 7-га зноў гарэў бярозавы пажар і быў слуп Еўропа-Азія за Свярдлоўскам, а калі быў сняжок, то лёгкі, як пудра. Былі то мае мясціны часоў вайны. Нават станцыя адна называлася Ірэнская. Глядзеў, і ўсё мне здавалася: вось убачу, хаця і ведаў, што дурасць. Месцы тыя ад чыгункі — ісці ды ісці. А ўсё адно падобна. Рака зялёная, бо ў ёй перакінутыя горы, з рэдкім золатам бяроз. І скалы над лесам.

Восьмага праз Яраслаўль прыехалі ў Маскву, я толькі паспеў схадзіць на курсы, а ў 15.30 катанулі мы ўжо на Мінск. У гадзіну ночы з хвілінамі былі ў Мінску…

2-га лістапада ў гадзіну дня паехалі з маці ў Рагачоў. Панылыя палі, тарфяныя балаты, рэдкія і скупыя пад вечар агеньчыкі, а я рад, што вырваўся. Не хацеў на святы шмат піць — ну яго. Прыехалі вечарам, пасядзелі, ляглі спаць, і наступнага дня я не адразу дадумаўся, дзе я, а калі зразумеў — пачуццё радасці…

З раніцы пайшоў на Дняпро, лавіў, але хаця б разок клюнула. Сышло лецейка. Давядзецца паспрабаваць сакам. Пасля ўвесь дзень пісаў лісты.

Сёння лісты ўсе скончыў, схадзіў у горад і кінуў іх, купіў пару кніжак і зрабіў гэты запіс. Шкада, што сонца з'явілася толькі а другой палове дня, а раніцай крапаў дождж і сапсуў нам паляванне. А як добра было б ісці па іржышчах з сабакам, і каб вецер свістаў у рулю стрэльбы, а вакол голыя лясы. Нічога, нідзе не дзенецца.

Заўтра пастараюся напісаць эсэ для «Маладосці».

Зараз позна ўжо. Цемра за акном. Зноў, відаць, збіраецца на дождж, і хаця адчуваю сябе не дужа здаровым — шчасце поўніць мяне.



У пакоі водар яблыкаў, што ляжаць на акне (сам сёння зняў апошнія з галін і еў іх, марозныя, і падбіраў з зямлі), побач з лямпай — ласіны рог, што зрабіў мне дзядзька. Атрымаў паштоўку ад Адама і яшчэ раз пашкадаваў, што яго няма тут…

**14 лістапада. Нядзеля**

Пазаўчора ўначы напісаў яшчэ «Каложу». А ўчора ўстаў і ўбачыў на вокнах марозныя тропікі, а за акном — малады неглыбокі снег. Часткова менавіта гэты снег разбіў мне дзень…

Паслязаўтра, відаць, паедзем. І трэба ехаць, і нічога асабліва цікавага тут узімку не будзе (гэта не летнія ловы на Дняпры), і, у той жа час, шкада рабочага настрою, які ў Мінску абавязкова сапсуюць.

<…>

**29 студзеня. Рагачоў**

74 дні мінула. Амаль два з паловаю месяцы. Метадычнасць запісаў проста здзіўляючая — ну, падзецца няма куды. Даўно перабраліся ў 66-ы год, а я… Але гэта не толькі з дзённікам. Працу запусціў таксама страшэнна, на лісты з самага таго часу амаль не адказваў. 6 адправіў учора, 1 — сёння раніцай. Зараз напісаных ляжыць 9, ды яшчэ адказваць на 39. І лісты ўсё вялікія, важлівыя. Некаторыя з падборкай вершаў, іншыя — на 4 мае, дробна спісаныя старонкі. Добра. Ніхто не дапаможа, разблытваюся сам.

Зноў Рагачоў. Зіма. А тады я ад'язджаў. Пахнула яшчэ, нягледзячы на мароз, восенню, сям-там былі жоўтыя лісцікі. А пасля адлігі былі.

Прыехаў я тады з маці ў Мінск. Адразу праца па хаце, адразу беганіна за грашыма. Адразу, 19-га, сцэнар на студыі чытаць, адразу ідыёцкія заўвагі (пазней суаўтара прапанавалі, і плюнуў я за гэта на іх), адразу сябры і выпівоны. У «Маладосці» палаяўся з Панчанкам за «5966 год». Яму было нязручна і мне, забраў я рукапіс. Толькі пазней Брыль мне растлумачыў яго становішча, і мы сяк-так паразумеліся.

На тэлебачанне аднёс сцэнар — яны працягнулі месяцы паўтара, і ўжо ў студзені я яго ўзяў і аддаў на дакументальную студыю. Ды й там муць.

«Ладдзю» ў «Полымі» ўзялі чытаць, ды, відаць, не надрукуюць. П. казаў: «Што ты, братка. Гэта ж гісторыя… Герой такі-гэткі, п'е, з жанчынамі спіць». Нічога дзіўнага, калі ў кіно забаранілі лаянку (у полі, на калгаснікаў і на падначаленых — можна), паказванне выпівак (у жыцці — хоць з ног кідайся, абы не ва ўстанове), сцэны ў ложку (у кожнага, у залежнасці ад розных прычын, ад адной да дзесяцёх палюбоўніц) і іншае такое. Тарцюфы ў ролі заканадаўцаў і арбітраў прыгожага.

Чытаў газеты за некалькі месяцаў — добра, калі за год набярэцца па 10 цікавых матар'ялаў.

У Лужаніна працавалі над раманам. 72 ст. рэцэнзіі. Вось амаль два месяцы і працаваў.

Добра было хіба на дні нараджэння. Святкаваў 27-га. Добрая закусь і беларуская гарэлка з перцам — «жыватоўка», віно, слаўная кампанія. Быў начыста цвярозы, так, трохі ўсхваляваны. Усім, здаецца, было добра.

І, галоўнае, спявалі. Так спявалі, што слёзы і смех прасіліся з вачэй…

…хавалі бедалагу Ігара Хадановіча . Таленавіты хлопчык, бедны хлопчык. Няшчасны лёс: «У счастливого недруги мрут. У несчастного — друг умирает» .

Гэтая свалота, якая забіла яго, і словы яе: «Раечка, подожди, я тут одного пшека научу говорить по-русски» стаяць у вушах. І вось свалоце, забойцу дадуць максімум восем год, а чалавеку, які абяцаў расцвісці ў незвычайнага празаіка, — магіла.

Я люблю людзей, але менавіта таму гэткіх, як тое быдла, што гаспадарыць у нашым горадзе, ды яшчэ ногі на стол кладзе, — я прылюдна вешаў бы. Збіць, а пасля вярнуцца з бандай яшчэ раз, наваліцца на сплываючага крывёй і дабіць. Якая ж тут «непреднамеренность убийства?» Фашызм гэта, вось што!

<…> матка забітага казала камусьці (ён няўдала суцяшаў і сказаў, што хаваюць родных, хаваюць бацькоў): «А, сыночак. Калі сын матку хавае — гэта ўжо закон, так і трэба…»

Ваенная ўдава. Вырасціла сірату ад немаўляці да чалавека, добрага хлопца, мужа, пісьменніка. І ўсё дзеля таго, каб тупое быдла, якое ўлезла да суседа, жарэ ў ягонай хаце, ды яму ж на стол і с…, — узяло ды забіла.

Стаяў ля труны. Партрэт на сцэнцы малады, вясёлы. Праводзіў на могілкі. Народу было шмат. Разумелі. Ішлі без шапак, як належыць: ад брамы і зноў да брамы. Глотка аж разрывалася, здавалася, задыхнуся. Марозу не адчуваў. Слёз не было. І гэтыя жалю вартыя зімнія прымулы ў вазончыках, замерзлыя па дарозе ўжо.

Пакінулі чалавека ў зямлі і рушылі. У мерзлай зямлі. Нават шэрага таго неба не ўбачыць. Адзін.

Ішлі з Зянонам. Шапкі надзелі за брамай — ды і ўсё. І ханжанства наша ў газетах нават «па зверску забіты» выкрасліла. «Не варта». «Нашто?»

Адно ведаю: дня таго, чорнага гэтага твару на марозе, забінтаванага ўсяго, літасці гэтай менавіта да таго, да каго не трэба, слёз матчыных — гэтага я не забуду. Гэтага я ім, свалоце, патэнцыяльным фашыстам, гэтага я ім не забуду.

**19 красавіка. Аўторак**

Уначы… адзін з самых страшных сноў у маім жыцці… Нібыта мы бяжым з Янкам Брылём ад нейкай страшнай небяспекі. Неба ўсё чорнае, нізкае, і ўрыўкі хмар нам насустрач. Але ўцякаем мы не таму, што небяспека для нас. Яна для ўсіх, і мы ад яе бяжым і дзеля таго, каб папярэдзіць людзей, якія сядзяць у нейкім змрочным будынку, падобным адначасова і на палац, і на замак. Там — група людзей, і сярод іх жанчына, якая мне тое, што называецца «даражэй за ўсё». Бяжым. Бачу сябе і яго — збоку. Ведаю: уцячэм, папярэдзім, усе схаваюцца ў падпол — і, можа, выжывуць. А над гарызонтам, паступова-паступова, яшчэ чарнейшыя, чым неба, вырастаюць вяршыні хмар, падобныя на шапкі атамных грыбоў.

Дабеглі. Кідаюся туды-сюды — няма. І раптам крык, і якраз у той момант, калі пікі хмар вырaслі на палову неба — усе на нас. Нехта пабег ад замка ўніз, па схіле, па партэрах, толькі не зялёных і чатырохкутных, а нібы паловы выцягнутых авалаў закругленымі часткамі ўніз, адзін на адзін, як луска. Фіялетавага колеру яны, ад водсветаў з неба.

Не ведаю, яна ці не, але ратаваць усё адно трэба. Бягу за ёю, задыхаючыся, бо вось-вось канец свету. Нябесная праява абагнала нас, загінаецца перад намі ўніз, як акіянскі вал. Я ўсё больш упэўнены, што бяжыць — яна. Наздагнаў, схапіў, цягну назад бягом, але адчуваю: нават калі падымемся на верхнюю пляцоўку замка, дзе балюстрада, — не паспею. А спуск пад зямлю — адтуль.

І вось падымаемся… І тут расселася рваным палотнішчам неба, і адтуль, пункцірамі, чорнае ў зямлю. А пасля, як чорныя сляды трасірных куль, як чорныя падучыя зоркі, і цэнтр, адкуль яны лятуць, — проста перад намі, нібы глядзіць на нас. Устае нешта такое, чаму няма імя, апакаліптычнае. І нібыта коннікі і языкі, а мы бачым чорныя сляды і ведаем, што тых слядоў, якія цягнуцца да нас, мы не ўбачым. Нешта кідае нас у змрок. Прачынаюся. Вакол — хаос. Дзівам уцалеў наш будынак, амаль знішчаны. Выносяць на руках з падзямелля яе, твар рассечаны глыбокім шнарам, але скура такая, як і на ўсім абліччы. Проста нібы ўпадзіна. Глядзіць на мяне, усміхаецца, і я ведаю, што гэта яна, але аблічча — чужое. Гэта, што адбылося, менавіта так дзейнічае на тых, хто застаўся жывы, мяняе іх. І нават не чужое аблічча, проста знаёмы твар іншага чалавека. Прачнуўся…

Адразу, як прачнуўся тады, зразумеў, што гэта і ёсць пачатак «Чазеніі». Доўгашуканы, той, які так доўга не даваўся ў рукі. Калі гэта напісаць, як трэба, гэта дасць настрой часу і стан душы героя, а потым досыць будзе даць пару намёкаў наконт ягонай прафесіі — і ўсё будзе, як на далоні, можна будзе разгортваць характар. І ўзрадаваўся, што не пачаў рэч раней, не сапсуў. Як добра! Запэўніўся, не трэба спяшацца пачынаць, калі не даецца. Сцакай, мозг сам будзе думаць у садзе, падчас хады, на рацэ, у сне — і ўсё тады ты атрымаеш дарма…

І яшчэ думка. Скончыць трэба таксама сном. Але светлым. Чалавек вылечыўся.

**9 мая. Панядзелак**

..Папарадчыў усё на стале, падрыхтаваўся, адклаў патрэбную на «Чазенію» колькасць паперы (і ўсё адно вылезу з яе, вядома)… Сёмага з самай раніцы нікуды не хадзіў. Дзень быў пахмуры і халодны, і таму някепска працавалася. Пачаў «Чазенію», трохі захапіўся ўспамінамі і, вядома ж, размазаў. Але крэсліць буду ўжо ў машынапісным экзэмпляры. Працаваў цэлы дзень… Спаў, як забіты, тым больш што вокны заўсёды адчынены. Даводзіцца толькі ваяваць з хрушчамі. Як заляціць — хапаеш яго за шкірку і выкідаеш з кухні на двор, каб не вярнуўся. Колькі выкінеш — столькі іх і малоціць у вакно.

Учора рабілі човен, але я амаль не дапамагаў. Пісаў, закінуўшы ўсё астатняе. Амаль цэлы дзень быў галодны. Не хацелася есці самому, а яны вырашылі скончыць усю драўляную работу. І скончылі. Засталося заканапаціць, засмаліць, зрабіць «буфет», матор паставіць і лаўкі зрабіць.

Вечарам абмывалі канец працы пад вяндліну, халаднік і тушаную цяляціну з бульбай. І такія там размовы ішлі аб старых знаёмых, хутаранах, сваяках і сябрах па кавалерскіх гулянках і паляваннях — любата. Пасля гастранамічную размову завялі. Столькі было выказана рэцэптаў — можна было б чвэрць кухарскай кнігі напісаць. І, як ні дзіўна, было гэта вельмі цікава, бо падмацоўвалася выпадкамі з жыцця, паралелямі, анекдотамі, якія здараліся з вынаходцамі або аматарамі таго ці гэтага халадніку, смажанага зайца, вэнджанай рыбы і г.д. Вечарам пісаць, вядома, не мог. Сядзеў ды галоўкі тут жа крэмзаў, як дурань.

# «Радзімаю ніколі не стамлюся...»



Васіль ДЭБІШ

**13 снежня адзначае свой юбілей вядомы берасцейскі літаратар і мастак Лявон Валасюк.**

Як мастак, ён вядомы сваім удзелам у выставах з 1981 года, а як паэт — з 1982-га, калі «адзначыўся» першай паэтычнай публікацыяй (верш «Озеро Гать») у абласной газеце «Заря». З тых часоў за плячыма творцы шмат абласных, рэспубліканскіх і міжнародных выстаў, стос выдадзеных паэтычных і празаічных кніг...

Пазнаёміўся я з Лявонам Валасюком у далёкім 1989 годзе, калі па размеркаванні, пасля заканчэння Мінскага інстытута культуры, быў накіраваны на працу загадчыкам клуба брэсцкага мясакамбіната. Да мяне ў клуб яго прывёў мастак-афарміцель мясакамбіната Алесь Шышко, чалавек шырокай душы і «вольных» поглядаў на жыццё, які, як і я, пісаў вершы і марыў пра незалежную Беларусь. Тая першая сустрэча з Лявонам адкалася ў памяці на ўсё жыццё. І перш за ўсё тым, што Лявон нагадваў сабой не маладога мужчыну (яму ў той час было 33 гады), а нейкага казачнага дзеда Быльца з бабулінай казкі: высокі, плячысты, цёмнавалосы, напаўлысы, шырокія, доўгія, амаль што да вушэй, вусы, густая смаляная барада, і позірк — спакойны, задуменны. Разгаварыліся. Аказалася, што ён працуе побач, на «Рыбгандлі», мастаком-дызайнерам.

Мы часта бачыліся ў мясакамбінатаўскай майстэрні, цытавалі вершы, вялі размовы і спрэчкі пра паэзію, мастацтва ды ўвогуле пра нашае жыццё. Цікавыя наступалі часы, шалёныя. Бела-чырвонымі ніткамі былі вышыты ў нашых галовах мары і надзеі: вось-вось мы станем вольнай, еўрапейскай дзяржавай:

*Дачакаліся...*
*Белая квецень*
*Зірнула ўранку*
*У стомлены твар*
*Беларусі...*

— натхнёна чытаў Лявон адзін са сваіх ранніх вершаў, які намнога пазней будзе надрукаваны ў яго першым беларускамоўным паэтычным зборніку «Леаніды». Мы цвёрда верылі: духоўна і маральна спляжаная Беларусь паўстане з каленяў. Гэтую веру, адчуванне пераменаў можна пабачыць у многіх творах Лявона Валасюка. У вершы «Памяць» ён піша:

*Я адчуваю,*
*Як волат-зубр*
*З сівой выходзіць цемры*
*І трэцца бокам аб мяне...*

На жаль, тыя «мясакамбінатаўскія» мары і надзеі, якімі мы карміліся, жылі, аказаліся нязбытнымі, згубленымі. Словы «духоўнасць», «воля», «беларуская мова» па-ранейшаму раздражняюць чыноўнікаў ад улады. І ад пісьменніка патрабуецца вялікая мужнасць, каб заставацца самім сабой, да канца несці крыж праўды. Толькі сіла духу здольная перамагчы сілу зла. У кнігах Лявона Валасюка яны, адвечныя, вядуць непрыхаваную барацьбу:

*Мала*
*Добрых слоў...*
*Безліч*
*Незнаёмых твараў...*
*Паміж сноў*
*Палёт сініц....*

Перад намі мастак, пісьменнік, якога, заснаванае на асацыяцыі, канкрэтным вобразе і мностве суб'ектыўных тлумачэнняў яго:

*Уткнуўся ў бераг*
*Плыткае ракі*
*Стары забыты човен...*
*След стомленай нагі*
*Пільнуе чарот....*

Лявон не шукае зразумелага і відавочнага ўсім, а імкнецца да сваёй неспасцігальнай, але менавіта гэтым і цікавай вобразнасці.

Як адзначыў Алесь Каско ў прадмове да зборніка «Леаніды», вершы Лявона Валасюка не проста «замалёўкі з натуры, а іскрынкі памяці, знічкі імгненняў быцця».

Пошукі згубленай гармоніі — патаемная малітва душы паэта. Ён не імкнецца тлумачыць нейкія незразумелыя факты і з'явы, не ўздымае шэраг праблемных пытанняў, накшталт беларускай дзяржаўнасці, мовы, якія рана ці позна давядзецца вырашаць, ён, як мастак, малюе згукі жыцця:

*Старыя шыбіны*
*Пад пылам.*
*Аббіты абцасам*
*Бацькоўскі парог...*
*Да болю любімы*
*Кут родны,*
*Кут мілы.*
*Забінтаваны*
*Палоскай дарог...*

У Лявона многа вершаў-маленняў, споведзяў:

*Жыўлюся роднаю зямлёю,*
*Блакітам вышыні гаюся.*
*Малюся мове матчынай святой.*

Паэт моліцца слову, маці, якая дала жыццё, моліцца зямлі, якая яго ўскарміла, жаваранкам і буслам, вятрам і росам, снягам і сонцу. Яго найпершае жаданне — з усіх дарог вяртацца дадому:

*Познія сны-бліскавіцы,*
*Пахі травы і вятроў,*
*Голас на досвітку,*
*Спеў касавіцы,*



Лявон Валасюк

*Крокі няспынныя...*
*Дома я зноў!..*

Зрокава і колеравыразныя сімвалы праходзяць праз усю творчасць Лявона Валасюка. Нават назовы ягоных кніг паўтараджэнне таму: «Знакі на валуне», «Вяртанне берасцейскай стралы»... Камень, страла, крыж, вада — увасабленні той неўміручасці і жыццястойкасці, да якой трэба імкнуцца нашчадкам. Вада не толькі жыццядзейная і жыццястойкая сіла. Яна яшчэ і першакрыніца, першавыток чалавечай мудрасці.

У вершах «Раўнавага», «Рака Лясная», «Вяртанне берасцейскай стралы», «Камень-валун»,«Абярэг» і іншых аўтар вядзе роздум пра лёс Бацькаўшчыны. Несуцешныя думкі тыя... У працытаваным вышэй вершы «Абярэг» ён прызнаецца:

*У Час апошняе адлігі*
*Час пакаяння за грахі*
*Пад гэтым знакам настае.*
*А думкі кволыя мае*
*Плывуць, чапляюцца,*
*Бы крыгі,*
*За веснавыя берагі...*
*Ці абярэг мне дапаможа*
*У чорным покрыве ракі,*
*Магутны, Божа?!*

Думкі, услед за якімі імкне герой, досыць розныя: аб родных загонах, маці, аб пакінутай вёсцы і шчымлівым, трапяткім каханні:

*Пах летніх траў*
*Успамінам павеяў...*
*І нечым новым і тонкім*
*Ад цела твайго маладога.*

Лірычныя абразкі, філасофскія развагі, афарызмы — усё гэта агулам выяўляе як характэрны вобраз самога аўтара, так і нашага неадназначнага часу:

*Праз шыбіну*
*Ліецца святло*
*Нечаканага дня...*
*Хмаркай белай*
*Адхілена*
*Фіранка льняная.*

**(«Вяртанне на Радзіму»)**

У вершах Лявона Валасюка асабліва яскрава вымалёўваюцца характэрныя беларускай паэзіі супастаўленні «тады-цяпер». Тады — стаяла «хаціна новая ў вэлюме вянчальным», цяпер — «цячэ ручай змярцвелае вады», тады — гучалі «косаў звон і спевы», цяпер — «нат чорны воран не ляціць сюды». З аднаго боку — незгасальная сіла веры ў адраджэнне Беларусі: «Я вярнуся скрозь туман забыцця», з другога — разуменне рэальнага становішча на Радзіме. Адсюль — шчымлівы адчай творцы, пытанне сабе і чытачу, як у вершы «Экалогія»:

*Я птушак*
*Жытам накарміў —*
*Птушкі памерлі.*
*Я кветкі*
*Вадою паліў –*
*Кветкі засохлі...*
*Чым накормяць,*
*Напояць*
*Мяне?..*

Паэзія Лявона Валасюка — гэта паэзія перажывання, роздуму, вобразаў, насычаных уласнымі назіраннямі, жыццёвым вопытам і грамадзянскай мужнасцю:

*Пах радзімы –*
*Сарамлівай*
*Ссохлай кветкай пад нагой...*

Верш нібыта ні пра што. І пра многае. Пра страчанае, ненабытае, непрамоўленае, пражытае і неперажытае. Вершы Лявона Валасюка даволі адметныя, хоць месцамі і цьмяныя, мае месца і эмацыянальны хаос:

*Дзень заціхае —*
*Соннае дзіця.*
*Кладзецца нерухома*
*Снег на дарогу.*
*А мне яшчэ*
*Так доўга крочыць.*
*Ісці самотна ў ноч,*
*Праз ноч...*

Той-сёй з літаратурных крытыкаў паблажліва ўсміхнецца: ненатуральна, «роблена», штучна, непрыгожа. Паважаныя «знаўцы», а ці натуральнасць заўжды прыгожая? Сціслы, лаканічны верш, які прапаноўвае аўтар чытачу, можа, і не адпавядае ўзорнай вобразнай яскравасці, але ў яго ёсць сваё, характэрнае, адметнае нервовае трапятанне душы, якое надае твору праўдзівасць, асвятляе, падобна маланцы. Яно робіць і цябе, чытача, відушчым, здольным на адкрыццё:

*На абрыўках аблокаў*
*Сумны верш*
*Я пішу...*
*Боль па радзіме...*

Ці:

*Без роднай мовы*
*У родным краі*
*Час спыніўся...*

Вершы Лявона Валасюка тужліва-светлыя, датклівыя, як празрыстая павуцінка на вятры (Алесь Каско). У іх адчуваецца паглыбленасць думак, уласная перакананасць, лагодная ўсмешка і журботная задуменнасць, а то і філасофскі, «разанаўскі» роздум.

*Сярод дамоў*
*Цень ходзіць, маўчыць...*

Дарогі, дарогі!.. Шляхі жыцця. Што галоўнае? Што адметнае? Што адышло — назаўсёды? Што засталося? «Аббіты абцасам бацькоўскі парог» ці «шэпт лісця, згарэлага ўначы?» А можа, «пячаткі рук і босых ног» на замшэлых плячах волата. Менавіта «босых», як і душа мастака-паэта. Вершы — яе крыж, яе боль...

Але існуе і другі бок душы: прага жыцця, адчуванне харастваў прыроды, роднай мовы, слова, песні. У вершах Лявона Валасюка праслаўляецца вёсачка Песцянкі, што на Кобрыншчыне, дзе паэт нарадзіўся і вырас, Граеўка — мікраён у абласным цэнтры, старажытны Брэст, у якім ён жыве і творыць.

*Невядомасць.*
*Ціш і тайна...*
*Нерухомы*
*Сон быцця...*
*Крыкне птаха.*
*Гук павісне*
*Над вясёлкаю*
*Жыцця...*

Гэта жыццё цудоўнае ва ўсіх сваіх праявах. Каб без фальшу адлюстраваць яго непаўторныя імгненні, паэт спалучае на аркушы паперы святло разнастайных колераў, ад шэрага — колера суму па Радзіме, да чырвонага — колеру сонца. А яшчэ белага — колеру снегу і вольнай Беларусі. Беларусь як «сонца незгасальнае» — гэта мроя паэта.

*Радзімаю*
*Ніколі не стамлюся...*
*Вадой крынічнай прагна наталюся.*
*У родны край*
*Не раз яшчэ вярнуся*
*Самотным надвячоркам*
*Беларусі...*

Няхай жа, Лявон, гэтае вяртанне будзе заўсёды шчаслівым!

*Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў шчыра віншуе сябра нашай арганізацыі, галоўнага рэдактара-ўкладальніка літаратурнага альманаха Берасцейшчыны «Жырандоля» Лявона Фёдаравіча Валасюка з блізкім 60-годдзем і жадае яму радасці і сонца ў жыцці і творчасці!*

# «Церабіць сваю сцежку»

**Ну вось, нарэшце, і нас каранавалі Нобелеўскай прэміяй.**

Цяпер і мы ў гэтым свеце — разумныя і таленавітыя людзі. Прынамсі, у літаратуры. Засталося як бы самае простае — паразумецца і згуртавацца, выявіцца трывалай духапад'ёмнай нацыяй, каб, нарэшце, з гонарам назваца беларусамі... Але насамрэч гэта цяжэй, чым займець вышэй згаданую ўзнагароду.

Таму нечаканая публікацыя ў 78-м нумары часопіса «Дзеяслоў» дзённіка **Уладзіміра Караткевіча** «...Трэба церабіць сваю сцежку» (1965–1966 гады), роўна праз паўстагоддзя пасля яго напісання, вядома, — падзея для беларускай нацыянальнай літаратуры вельмі значная (фрагменты гэтай публікацыі друкуе і лістападаўская «Літаратурная Беларусь»). Уладзімір Сямёнавіч, як і ва ўсіх сваіх творах, выключна каларытны як чалавек і асоба, сюжэтна непераймальны, моўна і доследна энцыклапедычны, стылёва прыцягальны, тэматычна ненатольны ў зацікаўленасцях і абсалютна неадчувальны да аб'ёмнасці пісьма... Сям-там з гэтых нататкаў ужо праглядвала аповесць «Чазенія». Зрэдзьчас зашкальвала фантазія аўтара (мабыць, думаючы пра сюжэт чарговага княжскага балю, пісалася і такое): *«Галя і мама цэлы дзень важдаліся на кухні: фарш для піражкоў з грыбамі, залівная сяўруга, трусік з буракамі па-беларуску, смажаная па-рагачоўску гусь і г.д. Нават я круціў хрэн. (...) 7-га з раніцы прыйшлі Гансоўскія, Клятэцкія, Машчанкі, і пачаўся «абед сілен». Акрамя вышэйпамянёнага яшчэ марынаваная рыба, марынаваныя ігрушы, агуркі, сыр, вэнджаная каўбаска. Танцавалі. Выпілі моцна. Ад колькасці з'едзенага ахапіў нас нейкі вясёлы адчай, азарт ці чорт яго ведае што. Пайшлі яшчэ да Клятэцкага і там напалі на вэнджанага ляшча, ікру і іншае».* Вядома, свята Кастрычніцкай рэвалюцыі... Але ж не да такой *багатай* ступені панстваваў савецкі чалавек у беларускай глыбінцы па тым часе. Аднак і гэтым — нязбытным пажадам немагчымага — магутны талент Караткевіча. І — верай у перамогу беларускай чалавечнасці і справядлівасці. Бо ўжо ў запісе з пахавання забітага маладога пісьменніка Ігара Хадановіча чытаем наступнае: *«Ішлі з Зянонам. Шапкі надзелі за брамай — ды і ўсё. І ханжаства наша ў газетах нават «па-зверску забіты» выкрасліла. «Не варта». «Навошта?» Адно ведаю: дня таго, чорнага гэтага твару на марозе, забінтаванага ўсяго, літасці гэтай менавіта да таго, да каго не трэба, слёз матчыных — гэтага я не забуду. Гэтага я ім, патэнцыяльным фашыстам, гэтага я ім не забуду».*

Ды, на жаль, усё гэта і па сёння ёсць. Не сумняваюся, што дзённік У. Караткевіча будзе прачытаны шырокім колам прыхільнікаў адразу з апостальскай нацыі.

А каб вярнуцца да гістарычных каранёў беларушчыны — чытайце прыпавесць **Уладзіміра**




**Някляева** «На ўсякім свеце». Гэта, па вялікім рахунку, выдыхнутая вершам паэма родавага беларускага лёсу. І я мяркую, яна б лацвей чыталася і даверлівей успрымалася, калі б не мела ў аснове сваёй мастацкай задумы пазнавальную біяграфічную фактуру аўтара (многія імёны не прыхаваныя, месца і мясцовасць — таксама, нават згадваецца сапраўднае прозвішча маці — Магер, якое чамусьці не дае спакою сваім паходжаннем, хоць сябе — галоўнага героя ў адзіным ланцугу роду — Някляеў падае пад імем Стась). Як заўсёды ў Някляева, усё трымаецца на адметных, сцэнічна завершаных і запамінальных афарыстычных дыялогах, якія, што праўда, не заўсёды да канца лагічна звязваюцца паміж сабой падводкамі-развагамі таго самага галоўнага героя. Ці не таму ў працэсе чытання з'яўляецца адчуванне, што аўтар надта ўжо стараецца тлумачыць сябе і сваё (улічваючы, што напрыканцы нумара працягваецца публікацыя Сяргеем Шапранам «аўтабіяграфіі» Някляева), нібыта па нажытым і створаным ім атачэнне не зможа само распазнаць яго сутнасці і ацаніць важкасць ягонага грамадскага і творчага набытку... Гэта суб'ектыўнае. А што да прыпавесці, то тут буду аб'ектыўны: твор скрозь пазначаны філігранным майстэрствам, і ён, бясспрэчна, таленавіты і непадробны сваім стылем і глыбокай філасофскай ідэяй. Бясконцы колазваротны сюжэт змены чалавечага жыцця і смерці — плоці і духу — паўстае ў тэксце як метафара вечнасці родавага, нацыянальнага і духоўнага. *«Божа літасцівы! — узмаліўся Стась. — Калі ж яно скончыцца? Колькі ж будуць азірацца наўкол, шукаючы сябе, беларусы — і не верыць, што яны ёсць? Ну як так: Ты даў нам зямлю, а саміх сябе на зямлі не даў? Ці гэта тая прывілея, якая чакае нас на нябёсах? Тады скажы нам пра гэта, Госпадзі! Дай знак, каб мы не мучыліся. Каб не шукалі на гэтым свеце тое, што чакае нас на тым...»*

*Вось што гэта за знак?.. Дзе наш лёс?.. На зямлі?.. На нябёсах?..*

*Стась паглядзеў на ўсіх — ніхто не зрушыўся, не здзівіўся. Ніхто не ўбачыў знаку, апроч малога Мацея, які стаяў, закінуўшы галаву ў неба, адкуль цяжкі, як Гаспадар-камень, усё ж абрушыўся гром. Здавалася, пад ягоным цяжарам раструшчацца Багушы, травой пакладзецца лес, але і грому не пачуў ніхто».*

Раю пачытаць. Вартая роздуму і шырокай увагі рэч.

Ну і следам — яшчэ адзін з выбітных твораў прозы, якія давялося прачытаць сёлета — аповесць **Вінцэся Мудрова** «Албанскае танга». Для прыхільнікаў беларускай літаратуры са стажам не сакрэт, што Мудроў з маладосці пераймаецца дзіўнай, як для нас некаторых, краінай Албанія, што з цягам часу стала яго душэўным захапленнем і «творчым хобі», якое, у рэшце рэшт, і выснавалася ў такую таемна захапляльную і глыбока лірычную рэч. За неверагодна займальным і адмыслова (моўна і стылёва) напісаным тэкстам адкрываецца прырода «чужога» (незнаёмага) чалавека і прырода адчужанай, але амаль знаёмай і зразумелай нашаму чытачу ўлады. Сутнасць яе нязменная — крывава-дыктатарская. І якім сіметрычным фонам накладваецца на асноўны сюжэт твора наш беларускі след, што, у адрозненне ад албанскага, усё яшчэ працягвае цягнуцца ў сваё змушанае светла-аблуднае будучае...

*«Яны ўдвух падцягнулі столік да сценкі. Сёмка ўпіхнуў штэпсель у разетку, і на панэлі радыёлы загарэлася зялёнае вочка.*

*— Слухай, а як гэта прозвішча таго албанскага дыктатара? — запытаўся Гармозін, паціраючы навярэджаныя рукі.*

*— Энвер Ходжа.*

*— І колькі ён там панаваў?*

*— Сорак гадоў.*

*— Й-оп... гэта ж трэба... столькі часу з людзей здзекаваўся, — ужо з кухні азваўся Гармозін.*

*— З дыктатарамі ў Еўропе скончана. Чытаў праект канстытуцыі? — крыкнуў Мікола, насунуўшы кружэлку на бліскучы шпень. — І ў нас будзе як у людзей — два прэзідэнцкіх тэрміны адбыў — і свабодны. Дай іншым пакіраваць!*

*— Э-ээ, Калян, што тая канстытуцыя, — крыкнуў Сёмка, бразнуўшы кілішкамі. — Сёння напісалі, заўтра на тое забыліся...*

Гэта быў галаднаваты, але такі абяцальны 1991 год.

Аповед **Віктара Карамазава**, які даўно прыкіпеў да тэмы выяўленчага мастацтва, напісаны ў спакойна-разважлівым традыцыйным стылі, адпаведным, як кажуць, узросту аўтара. І хоць называецца апавяданне «Ван Гог», яно пра мастака сучаснага, нашага, які праз творчасць сусветна вядомага класіка шукае сваё (нацыянальнае) месца ў адзінай выяўленчай галерэі свету... Пакуты і перажыванні нараджаюць новыя вобразы зямнога жыцця. Да таго ж *«сваю карціну ён не пісаў для ўсіх, для ўсяго народа, як яшчэ нядаўна казалі і патрабавалі ад мастака. Пісаць для ўсіх хлусня. Усім яна навошта? Ды і яму хапала адной жывой душы, якая чакала сустрэчы з ім, з яго Ван Гогам».*

Фантасмагорыя, замешаная на вобразах існых *героеў* Гародні, склaдае аснову апавядання «Фара» **Альжбеты Кеды** (Алы Петрушкевіч). Тэкст напісаны з любоўю і душэўнасцю, але з зашыфраванай фактурай, што не дае неабазнаным чытачам у поўнай меры быць спагаднікамі і спачувальнікамі дзейства і роздумаў пісьменніцы. Аднак яе святая вера ў аднаўленне гістарычнай Фары мацуе і трымае ў межах мастацтва гэты хісткі беларускі сюжэт.

Друкуюцца таксама два апавяданні **Міхася Булацкага** (эсэістычна-публіцыстычнага складу) і тры гісторыі з жыцця маладой дзяўчыны **Тацццяны Будовіч-Барадулі**, якая больш вядомая як паэтэса.

Захоплівае сваім нова-нязнаным, як для мяне, паказам жыцця і творчасці выдрукаваны фрагмент з рамана **Ральфа Дутлі** «Апошняя паездка Суціна» ў цудоўным перакладзе з нямецкай мовы В. Дзядок. З імем гэтага выдатнага мастака, яўрэя, ураджэнца Беларусі, я ўпершыню пазнаёміўся яшчэ ў 1970-х гадах. Рэпрадукцыі яго карцін («Кухарка», «Жанчына ў чырвоным», «Мацярынства») заўсёды таемна засяроджвалі ўнутраным жыццём сваіх герояў. Але па маладосці не дайшоў да таго, каб глыбей пазнаёміцца з біяграфіяй мастака. І толькі вось гэтая публікацыя па сутнасці выводзіць мяне ў той няпрості для жыцця свет, у якім стваралiся яго карціны. «Убачыць Парыж — і памерці» — гэтае метафарычна-пустышнае выслоўе для сузіральных турыстаў-вандроўнікаў, але не для мастакоў. Бо мастакі менавіта там і паміралі... праўда, кожны па-свойму... тым больш у 1943-м годзе... З'явілася жаданне прачытаць раман цалкам.

Друкуюцца тры аповеды ўжо вядомага чытачам «Дзеяслова» ўкраінскага пісьменніка **Уладзіміра Даніленкі** (пераклады В. Стралко). Гэта нацыянальна заангажаваны творца, глыбокі і псіхалагічна тонкі лірык. Аповеды адметныя нечаканай фактурай і жывым сюжэтным дзействам.

Новая публікацыя вершаў **Людмілы Рублеўскай** уяўляе сабой спробу выявіць абрысы новай эстэтыкі ў працэсе своеасаблівага сумяшчэння маскульта і элітарнасці, пачуццёвага і інтэлектуальнага. Хоць пасля першага радка яе часопіснай нізкі *«Я не веда іменаў кветак, птушак і начальства»* мне, прабачаюся, іранічна згадаўся Павел Ізотавіч... Ну, але гэта так, для сцёбу... А што да самой вершаванай публікацыі, то насамрэч, яна цікавая, бо, можа, не слова, але агульная вобразная карціна паэзіі Л. Рублеўскай падаецца калі і не зусім новай, то ўсё ж абноўленай, і пры гэтым заўважнай і прыцягальнай для чытача.

*Калі памёр кароль Артур,*
*Мірганулі разам маніторы,*
*На хвілю прыпыніў паркур*
*Павук у прыцемку канторы,*
*Іржой пакрапала вада*
*З нікеляваных кранаў свету,*
*І працягнулася хада*
*Эпохі феяў інтэрнэту.*

На гэтым тэхнічным фоне чытачы не застануцца безуважнымі да жывых, мінорных вершаў **Алеся Гібок-Гібкоўскага** з нізкі «Бывай, маё сонца, бывай...», прысвечаных вечнай (а ў дадзеным выпадку канкрэтнай) тэме кахання.

Таленавітай і шматабяцальнай для мяне стала падборка вершаў малавядомага **Ігара Сіроткіна**. Сутнасна вызначаныя творы на фоне таямнічасці...

*Дарога на поўнач, і неба –*
*ратунак ад стомы.*
*Жыццё не спыняецца,*
*толькі гусцеюць крыжы.*
*Мне варта заплакаць,*
*бо хутка прыеду дадому.*
*Ды трэба смяяцца,*
*бо ўбачаць, што я тут чужы...*

Апрача мастацкіх публікацый у нумары даволі шмат тэкстаў іншых жанраў.

Не раіў бы чытачам прамінуць і эсэ **Міхася Скоблы** з будучай кнігі «Саркафагі страху». Гэта працяг публікацыі твораў з будучай кнігі. Аўтар выпісвае сваё бачанне асобных постацей літаратуры і вобразна ілюструе тое, што адбываецца ў сучасным яе працэсе. Ёсць запамінальна-ўражлівыя вобразы ўкраінскага паэта В. Стуса, узнята праблема ўвекавечвання М. Багдановіча, закранута тэма абароны нашай класічнай спадчыны ад нігілізму маладзейшага пакалення, ёсць развагі над псіхалагічна-творчым «турэмным палонам» аўтараў сённяшняга часу...

Прыцягвае ўвагу вялікі артыкул **Арсена Ліса** пра пачаткі выяўлення і паступовае станаўленне беларусаў як культурнай і самадастатковай нацыі і дзяржавы.

Я ўжо ўпамінаў, што працягваецца публікацыя «незавершанай аўтабіяграфіі» У. Някляева, якую нястомна *вершыць* **Сяргей Шапран.** Можна пазнаёміцца з артыкулам **Лады Алейнік** пра «дзядзькаванне» ў рамане Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» («звычай ці міф?»). Крытык Ціхан Чарнякевіч гутарыць з **Леанідам Галубовічам,** а паэтка Валярына Кустава з калляжанкай **Любоўю Турбінай.** Празаік **Уладзімір Сіўчыкаў** спрабуе стварыць «урбаністычны партрэт» мастака Ігара Рымашэўскага. Літаратар **Анатоль Трафімчык** рэцэнзуе «выбраныя творы» В. Таўлая і кнігу «Пан Трудоўскі» К. Лейкі. Пісьменнік **Максім Клімковіч** цёпла разважае пра нядаўні раман А. Аркуша «Мясцовы час».

Напрыканцы нумара ў рубрыцы «Дзеяпіс» чытачы традыцыйна могуць пазнаёміцца з анатацыямі новых кніжных навінак.

Няхмурнай вам восені і чыста-снежнай зімы! І — цікавасці да айчыннай літаратуры.

**ЛеГАЛ**

# Пераможца Ганкураўскай прэміі

**У гэтым годзе лаўрэатам французскай літаратурнай прэміі стаў пісьменнік Маціяс Энар, які атрымаў узнагароду за раман «Компас».**



У кнізе раскрываецца тэма адносінаў Усходу і Захаду і распавядаецца аб усплыманні гэтых частак свету героем кнігі — аўстрыйскім музыказнаўцам.

Шэсць з дзесяці членаў журы прэміі прагаласавалі за раман М. Энара. Сам пісьменнік прызнаўся, што гэтая навіна яго агаломшыла: «Я вельмі шчаслівы і вельмі здзіўлены».

Грашовае ўзнагароджанне складае ўсяго 10 еўра, аднак перамога ў такой прэстыжнай прэміі гарантуе папулярнасць ды імклівае распаўсюджванне кнігі.

Ганкураўская прэмія — галоўная французская літаратурная прэмія, якая прысуджаецца з 1903 года аўтарам празаічных твораў, напісаных на французскай мове.

# Украінская кніга — выданне года ў Вялікабрытаніі

**Зборнік вершаў «Палёт над Чорным морам» Ігара Паўлюка стаў кнігай года ў Вялікабрытаніі. Упершыню ўкраінскі паэт атрымаў перамогу на Туманным Альбіёне.**




10 лістапада былі апублікаваныя вынікі адкрытага галасавання. На думку чытачоў з усяго свету і брытанскага ПЭН-цэнтра, лепшай кнігай у гэтым годзе стала «A Flight Over the Black Sea» («Палёт над Чорным морам»), якую пераклаў Стывен Камарніцкі.

Вершы І. Паўлюка, сабраныя ў кнізе, запрашаюць чытача адправіцца на шпацыр па ўкраінскім Палессі і апісваюць наваколле з дапамогай вытанчаных метафар.

І. Паўлюк вучыўся ў Ленінградскім вышэйшым ваенна-інжынерным вучылішчы, якое кінуў на другім курсе, калі пачаў пісаць вершы. За тое ён быў высланы ў Забайкальскую тайгу будаваць аўтамабільную дарогу з вязнямі. Ён з'яўляецца адным з самых вядомых паэтаў Еўропы. Творы Ігара Паўлюка перакладзены на некалькі моў (англійскую, французскую, польскую, рускую і японскую).

# Архіў Маркеса — у вольным доступе

**Рукапісы, лісты, фотаздымкі і іншыя матэрыялы з архіва вядомага калумбійскага журналіста і пісьменніка, Нобелеўскага лаўрэата Габрыеля Гарсія Маркеса цяпер даступныя для даследаванняў і адкрытыя для ўсіх.**

Пра гэта паведамілі прадстаўнікі Тэхаскага ўніверсітэта, які з'яўляецца ўладальнікам архіва пісьменніка.

У мінулым годзе Тэхаскі ўніверсітэт за 2,5 мільёна даляраў выкупіў архіў Маркеса, у якім захоўваюцца матэрыялы за 60 гадоў жыцця і творчасці аўтара. Калекцыя складаецца з амаль 40 каробак тэкстаў, напісаных з 1948 па 2009 год. У архіў уваходзяць рукапісы самых вядомых твораў пісьменніка, сярод якіх «Сто гадоў адзіноты», «Каханне ў час халеры», «Аб любові і іншых дэманах». З дзясятак каробак утрымліваюць лісты Маркеса, напісаныя ў перыяд з 1961 па 2013 гады. У архіве маецца таксама серыя фотаздымкаў пісьменніка. На некаторых можна ўбачыць Маркеса разам з кінематаграфістамі Вудзі Аленам і Луісам Бунюэлем, а таксама кубінскім палітычным дзеячам Фідэлем Кастра.

«Чытачы маюць доступ да работ, і дзякуючы архіву змогуць адкрыць для сябе іншы бок мастака. Той, дзе ён выкідвае старонкі і цэлыя раздзелы і перапісвае іх зноў, адмаўляецца ад адных частак твора дзеля іншых», — адзначыў бібліёграф Тэхаскага ўніверсітэта Хасэ Мантэлонга.

# Канфіскацыі ўкраінскіх кніг у Маскве

**У Бібліятэцы ўкраінскай літаратуры ў Маскве прайшліператрусы. Расійскія сілавікі нібыта выявілі там мноства розных «выданняў з русафобскай інфармацыяй».**



Следчы камітэт Расійскай Федэрацыі просіць суд арыштаваць дырэктара Бібліятэкі ўкраінскай літаратуры Наталлю Шарыну. Пра гэта гаворыцца на сайце ведамства.

Супраць Н. Шарынай распачата справа па артыкуле 282 КК РФ (распальванне нацыянальнай нянавісці і варожасці, зневажэнне чалавечай годнасці).

Па версіі следства, у 2011–2015 гадах дырэктар Бібліятэкі ўкраінскай літаратуры Н. Шарына як службовая асоба парушала Федэральны закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмісцкай дзейнасці», распаўсюджвала сярод наведвальнікаў кніжныя выданні Дзмітрыя Карчынськага, прызнаныя судом экстрэмісцкімі матэрыяламі і забароненымі да выкарыстання».

Адзін з супрацоўнікаў бібліятэкі паведаміў, што падчасператрусу паліцыянты самі падкідвалі кнігі.

У той жа час украінскі журналіст Раман Цымбалюк, які знаходзіцца ў Маскве, распавёў, штоператрус таксама адбыўся і на кватэры дырэктара бібліятэкі.

«...Яна паведаміла, што дома быўператрус, што перавярнулі ўсю кватэру зверху ўніз і канфіскавалі ў яе кнігу Аксаны Забужка, асобнікі артыкулаў — зборнік аб Галадаморы, які падрыхтавалі амерыканскія, еўрапейскія і ўкраінскія аўтары, канфіскавалі некалькі асобнікаў газеты "Час руху" за 2011 год і тры граматы, якія яна атрымала ад былых прэзідэнтаў — Юшчанкі, Януковіча і прэм'ера Азарава», — цытуе Р. Цымбалюка «Радыё Свабода».

Што тычыцца Бібліятэкі, то, па словах дырэктара Н. Шарынай, з чытальнай залы канфіскавалі часопіс «Барвінок» — нібыта там выява сцяга «Правага сектара»... І 7 выданняў Дмітра Паўлычкі (Героя Украіны, найзнакамітага паэта, ганаровага сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў). Затымператрус прайшоў і ў так званым спецсховішчы спецыялізаванай літаратуры.

«Яны адбіраюць усе выданні, якія адносяцца да гісторыі Украіны ў частцы, якая тычыцца Сцяпана Бандэры і УПА. Ні адно з гэтых канфіскаваных выданняў не ўваходзіць у спіс так званай экстрэмісцкай літаратуры», — паведаміў Р. Цымбалюк.

# Сквер Буніна

**На 145-годдзе з дня нараджэння Івана Буніна — першага расійскага лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры — у Маскве адбылася знакавая падзея: прынятае рашэнне аб назве сквера на Паварской вуліцы імем Буніна.**

У Інстытуце сусветнай літаратуры РАН ім. А. Горкага прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная гэтай падзеі. Буніназнаўца, старшы навуковы супрацоўнік ІМЛІ РАН С. Марозаў паведаміў журналістам цікавыя і малавядомыя факты з жыцця юбіляра, пасля чаго ўдзельнікамі прэс-канферэнцыі былі ўскладзеныя кветкі да помніка пісьменніку.

На Паварской вуліцы ў доме 26 І. Бунін жыў са снежня 1916 года па травень 1918-га. У гэтай кватэры была напісана першая частка знакамітых «Акаянных дзён». Адсюль Буніны з'ехалі ў Адэсу, а ў пачатку 1920-га эмігравалі за мяжу. Больш пісьменнік ніколі не быў у Расіі.

У гонар юбіляра ў зале Бібліятэкі імя І. Буніна прайшоў канцэрт. Гледачы ўбачылі ўнікальныя кадры хронікі ўзнагароджвання І. Буніна Нобелеўскай прэміяй у 1933 годзе і дзень яго 80-годдзя ў 1950-м.

# Кніга Івана Драча пра «Лугандонію»

**У Харкаўскім выдавецтве «Фоліо» выйшаў у свет зборнік «Сатырыкон», у які ўвайшлі вершы апошніх гадоў вядомага паэта, Героя Украіны Івана Драча.**




«Мяне не толькі палітыкі натхнялі. Ёсць вершы, прысвечаныя Пятру Парашэнку, Леаніду Кучме. Але і філосафу Ніцшэ, спявачцы Квітцы Цісык, рэжысёру Віталю Малахаву, танцоўшчыку Вадзіму Пісараву», — расказаў Іван Драч.

У вершы «Чачэнам» І. Драч выказаў перакананне, што ўкраінцы мусілі падтрымаць той народ у яго барацьбе з Масквой. Бо «кадыраўцы» ваююць супраць нас на Данбасе. Ёсць у кнізе і верш-зварот «Да мільёна маскоўскіх хахлоў», у якім паэт пытаецца ва ўкраінцаў, якія жывуць у расійскай сталіцы, кім яны сябе насамрэч адчуваюць...

На прэзентацыі ў кіеўскай кнігарні «Довженко» І. Драча папрасілі прачытаць верш «Лугандонія», які мае такія радкі: «Президенти — всі у схроні! Завжди — на кордоні я... А під серцем, як змія, клята Лугандонія!..»

Паэт прызнаўся, што чытаў гэты верш Леаніду Кучме: «Хацеў яму падарыць, але ён адмовіўся. Сказаў, што калі надрукую, дзесьці возьме. Цяпер ёсць магчымасць... А што з таго толку? Калі б нешта змянілася, я гатовы штодня пісаць па паэме або цэлым томе. Каб менш цякло там крыві. Хочам мы ці не, рознавектарнасць Кучмы ў час яго прэзідэнцтва адыграла сваю станоўчую ролю. Ён не ваяваў, нават калі трэба было б ваяваць. Маю на ўвазе спрэчку з Расіяй за востраў Тузла».

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў (інфармацыя і фотаздымкі) Comments.ua, Gazeta.ua, The Bookseller, The New York Times, Gazeta.ua, The Guardian, Associated Press і The Telegraph.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 4 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00** Меладрама «Шчаслівчык Пашка».
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**13.10** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладрама «Былая жонка».



**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы 6».
**17.35** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**18.10** Таямніцы следства.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Зона Х. Вынікі тыдня.
**20.00** Меладрама «Шчаслівчык Пашка».



**21.00** Панарама.
**21.45** Зроблена ў Беларусі.
**21.55** Камедыя «Цётка Клава фон Гетэн».
**23.45** Навіны.
**00.05** Дзень спорту.
**00.20** Прыгодніцкі баявік «Залаты капкан» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Мастацкі фільм «Аднагодкі».
**14.35** Час пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Камедыя «Дзве стралы. Дэтэктыў каменнага веку».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.05** Мой бізнэс.
**22.20** Што? Дзе? Калі?
**23.35** Легенды Live.
**00.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Сувязь».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** Дакументальны праект.
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.45** Дарагая перадача.
**14.55** Дакументальны спецпраект.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** М і Ж.
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Дакументальны праект».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** «Гульня».
**22.10** Глядзець усім!
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** На тым жа месцы ў той жа час.
**00.00** «Вялікая гульня». Покер.
**00.45** «Кашмар на вуліцы Вязаў - 4».

### Беларусь 2

**07.00** Раніца добрага дня.
**08.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка». Забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.10** Трылер «Закрытая школа».
**11.15** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**12.10** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**13.15** Меладрама «Васьмідзесятыя».
**14.25** Камедыя «Кухня».
**15.30** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**16.20** Трылер «Закрытая школа».
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.05** Баявік «Людзі Ікс».
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.40** «Пін_код». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**00.25** Рэпарцёр.
**01.10** Фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### Беларусь 3

**07.15** «Дабраранак».
**07.40** «Сусветная карцінная галерэя».
**07.55** «Калейдаскоп».
**08.10** «Размовы пра духоўнае».
**08.20** «Строгавы». Гістарычная драма. 5-я і 6-я серыі (СССР, 1976 г.).
**10.45** «Выпрабаванне». Фільм сёмы «Хрэсны ход». Дакументальны фільм.
**11.15** «Запіскі Піквікскага клуба». Драма. 4-я серыя (Вялікабрытанія, 1985 г.).
**11.45** «... І пра нешта іншае». Дакументальны фільм.
**12.25** «Сіла веры».
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.05** «Размовы пра духоўнае».
**13.20** «Вецер «Надзеі». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1977 г.).
**14.35** Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г.І.Цітовіча. Канцэрт.
**15.50** «Фронт». Драма (СССР).
**17.40** «Спіс Кісялёва. Выратаваныя з аду». Дакументальны фільм.
**18.35** «Калейдаскоп».
**18.50** «Размовы пра духоўнае».
**19.00** «Строгавы». Гістарычная драма. 7-я серыя (СССР, 1976 г.).
**20.10** «Камертон». Дырыжор, лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў і фестываляў Ала Ігумнава.
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Выпрабаванне». Фільм восьмы «План Ост». Дакументальны фільм.
**21.30** «Строгавы». Гістарычная драма. 8-я серыя, заключная (СССР, 1976 г.).
**22.40** «Камертон». Дырыжор, лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў і фестываляў Ала Ігумнава.
**23.05** «Бессмяротная каханая». Біяграфічная драма (Вялікабрытанія, ЗША, 1994 г.).
**01.05** «Калейдаскоп».
**01.20** «Размовы пра духоўнае».

### Беларусь 5

**07.35** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Баскетбол. НБА. «Мэмфіс» - «Сан-Антоніо».
**09.45** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Індывідуальная гонка. Жанчыны.
**11.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. БАТЭ (Беларусь) - «Баер» (Германія).
**13.40** Змешаныя адзінаборствы. Чэмпіянат свету.
**16.15** Баскетбол. НБА. «Мэмфіс» - «Сан-Антоніо».
**18.15** Свет Ангельскай прэм'ер-лігі.
**18.45** Піт-стоп.
**19.15** PRO спорт. Навіны.
**19.25** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Металург» (Новакузнецк). Прамая трансляцыя.
**21.40** PRO спорт. Навіны.
**21.55** Міжнародны турнір па муай-тай. К-1 і ММА.
**00.30** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Два на два (тэледыскусія).
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**11.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Княжанне Жыгімонта Старога.
**11.20** Пекін ад золку да змяркання, д/ф.
**12.05** 5 хвілін свабоды, д/ф.
**13.00** Студыя «Белсат».
**13.30** Два на два (тэледыскусія).
**14.00** Студыя «Белсат».
**16.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**16.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**17.10** 5 хвілін свабоды, дакументальны фільм.
**18.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**18.30** Студыя «Белсат».
**18.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Літоўскі Геркулес.
**19.30** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.20** Вайна валанцёраў, рэпартаж, 2015 г., Польшча.
**22.40** Акапулька – рай для турыстаў і гандляроў наркотыкамі, д/ф.
**23.40** Шэрая Сава, м/ф.
**01.35** Студыя «Белсат».

## 5 СНЕЖНЯ, СУБОТА

### Беларусь 1

**07.20** Існасць.
**07.45** Меладрама «Сіла веры».
**09.00** Навіны.
**09.10** Буйным планам.
**09.40** Трансфармацыя.
**10.15** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.20** Дача.
**12.00** Навіны.
**12.10** «Здароўе». Ток шоў.
**11.25** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**13.10** Меладрама «Дзеля цябе».
**14.45** Нашы.
**15.00** Навіны.
**15.15** Краіна.
**15.45** Меладрама «Дзеля цябе».
**17.34** Меладрама «Разарваныя ніткі».



**21.00** Панарама.
**21.40** Меладрама «Сіла веры».
**01.05** Дзень спорту.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смяшарыкі.
**09.25** Здароўе.
**10.30** Смак.
**11.05** Ідэальны рамонт.
**12.05** Разумніцы і разумнікі.
**12.50** Мастацкі фільм «Урок літаратуры».
**14.15** Ніна Русланава.
**15.15** Следства пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**17.20** Мастацкі фільм «Каралеўства поўнага Месяца».
**18.50** Вялікі святочны канцэрт у Крамлі.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння вечарам.
**22.35** Конкурс прыгажосці Miss Supranational-2015.
**00.35** Камедыя «Хлапечнік».

### СТВ

**06.05** «Гульня».
**08.25** «Таямніцы Чапман».
**10.05** Сакрэтныя тэрыторыі.
**11.00** «Мінск і мінчане».
**11.35** «Салдаты 6».
**12.30** «Падзенне Рымскай імперыі».
**15.55** Вялікі горад.
**16.40** Наша справа.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**17.40** «Каханне з паведамленнем».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** «Канстанцін: Уладар цемры».
**22.20** Дакументальны праект.
**00.10** «Падзенне Рымскай імперыі».

### Беларусь 2

**07.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**08.05** Навуковае шоў прафесара Адкрываш-кіна.
**08.35** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**10.10** Азбука густу.
**10.45** Серыял «Прыгоды Дзіна».
**11.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» (Італія).
**12.05** Серыял «Хто ў доме гаспадар?».
**14.00** Капейка ў капейку.
**14.40** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**15.40** Гаспадар.
**18.00** Бітва экстрасэнсаў.
**19.50** «Панаехалі». Рэаліці-шоў.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Меладрама «Чужаземка».
**22.00** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**23.20** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна).
**00.15** Фэнтэзі «Усемагутныя Джонсаны».

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Строгавы». Гістарычная драма. 7-я і 8-я, заключная серыі (СССР, 1976 г.).
**10.35** «Выпрабаванне». Фільм восьмы «План Ост». Дакументальны фільм.
**11.05** «Іванава дзяцінства». Ваенная кінааповесць (СССР, 1962 г.).
**12.35** «Партызаны». Арыядна Казей, Марат Казей.
**13.00** «Калейдаскоп».
**13.15** «Пра землі і людзей». Дакументальны фільм пра беражлівыя адносіны да зямель.
**13.40** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**14.10** «Насімі». Біяграфічны фільм (СССР).
**15.50** «Нелагічны Лагіч». Пра незвычайны высакагорны пасёлак у Азербайджане.
**16.05** «Камертон». Дырыжор, лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў і фестываляў Ала Ігумнава.
**16.30** «Калейдаскоп».
**16.45** «Анастас Мікаян. Крамлёўскі доўгажыхар». Дакументальны фільм.
**17.30** «Сабачае сэрца». Фантастычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1988 г.).
**19.45** Леанід Млечын прадстаўляе. «Жанчына ў мужчынскай гульні. Жыццё і смерць Кацярыны Фурцавай». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Дазвольце расказаць!». Народны мастак СССР Аляксандр Шылаў.
**21.15** «Сіньёр Рабінзон». Камедыйная меладрама (Італія, 1976 г.).
**23.00** «Бард-парад».
**23.40** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.25** PRO спорт. Навіны.
**07.35** Міжнародны турнір па муай-тай. К-1 і ММА.
**10.05** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Металург» (Новакузнецк).
**12.00** Піт-стоп.
**12.25** Баскетбол. НБА. «Нью-Арлеан» - «Клііленд».
**14.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» (Беларусь) - «Віта» (Грузія). Прамая трансляцыя.
**17.50** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Чэхаўскія мядзведзі» (Расія). Прамая трансляцыя.
**19.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**20.05** Свет Англійскай прэм'ер-лігі.
**20.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Борнмут». Прамая трансляцыя.
**22.30** PRO спорт. Навіны.
**22.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстар Юнайтэд» - «Вэст Хэм».
**00.40** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Літоўскі Геркулес.
**08.00** Студыя «Белсат».
**10.05** Ліс Леон, мультсерыял.
**10.15** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**10.20** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**10.35** Занатоўкі натураліста.
**10.45** Сонечная дзіда, серыял.
**11.15** Два на два (тэледыскусія).
**11.50** Асабісты капітал.
**12.10** Што ёсць што?, рэпартаж.
**12.30** Шэрая Сава, м/ф.
**14.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.05** Вайна валанцёраў, рэпартаж.
**15.25** Акапулька – рай для турыстаў і гандляроў наркотыкамі, д/ф.
**16.25** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**16.55** Беларусы ў Польшчы.
**17.10** Сенсацыі XX стагоддзя, серыял: Таямніца бункера Гітлера.
**18.00** Ратаўнікі, серыял.
**18.50** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніцы Глускага замку.
**19.05** Украіна. Усе ў агні, д/ф.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.35** Мова нанова: Ровары.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Форум: Балонска-беларускі працэс.
**21.55** Невядомая Беларусь: Слуцкі збройны чын, д/ф.
**22.30** Алі, м/ф.
**01.05** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**01.30** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**02.05** Студыя «Белсат».
**02.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**02.55** Вайна валанцёраў, рэпартаж.
**03.20** Акапулька – рай для турыстаў і гандляроў наркотыкамі, д/ф.

TV

## 6 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

**1 Беларусь**

**07.20** Меладрама Меладрама «Сіла веры».
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Гісторыя рамонту.
**10.20** 50 рэцэптаў першага.
**11.05** XXL WOMAN TV.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны.
**12.35** Каробка перадач.
**13.10** Зона Х.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Еўрабачанне. Вынікі тыдня.
**15.50** Камедыя «Цётка Клава фон Гетэн».
**17.35** Меладрама «Генеральская снаха».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** Меладрама «Кватарантка».

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.00** Нашы навіны.
**12.10** Барахолка.
**13.00** Госці па нядзелях.
**13.55** Бенефіс Генадзя Хазанава.
**15.10** Усе хіты.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Бенефіс Генадзя Хазанава. Без антракту.
**17.00** Цюцелька ў цюцельку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Дыханне планеты.
**21.35** Голас.
**23.35** Што? Дзе? Калі ?
**00.45** Трылер «Метад».

**СТВ**

**06.25** Камедыйны серыял «Афрамасквіч-2».
**07.15** Сардэчна паскардзіцца.
**07.35** Аўтапанарама.
**08.05** «Канстанцін: Уладар цемры».
**10.10** Чысты праца.
**11.00** Вялікі сняданак.
**11.40** «Салдаты 7».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Слон».
**15.15** Вадзіць па-руску.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Версія».
**19.30** Тыдзень.
**20.25** Ваенная таямніца.
**23.40** Дакументальны праект.
**01.20** «Слон».

**2 Беларусь**

**07.00** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» Італія.
**08.05** Серыял «Хто ў доме гаспадар?».
**10.05** «Арол і рэшка». Пазнавальнае стайлшоў (Украіна).
**11.05** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лата.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.00** Зразумець і абясшкодзіць.
**12.35** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**14.40** Баявік «Людзі Ікс».
**16.30** Царства нябеснае.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда 2» (Расія).
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.20** Хачу ў тэлевізар!
**23.25** Меладрама «Чужаземка».

**3 Беларусь**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**09.45** «Сабачае сэрца». Фантастычная драма. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1988 г.).
**12.00** «Подых струн». Музычная праграма. Госці: Анатоль Папейка, Ганна Кастыка, Дзмітрый Каваленка.
**12.40** «Калейдаскоп».
**12.55** «Наперад у мінулае».
**13.25** Хіт-парад «Сто песень для Беларусі».
**14.15** «Музеі Беларусі». Аршанская гарадская мастацкая галерэя імя Віктара Грамыкі. Музей драўлянай скульптуры рэзчыка Сямёна Шаўрова.
**14.45** «Таямніца душы».
**15.10** «Бессмяротная каханая». Біяграфічная драма (Вялікабрытанія, ЗША, 1994 г.).
**17.05** «Калейдаскоп».
**17.20** «Сола для трубы». Дакументальны фільм пра першы беларускі джазавы аркестр і яго заснавальніка Эдзі Рознера.
**18.10** «Гітара па крузе». Аўтар-выканаўца Вадзім Зубаў.
**19.05** «Манія Жызелі». Драма (Расія, 1995 г.).
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Іосіф Кабзон. «Я люблю Вас так безумно!». Канцэрт.
**22.30** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял (Францыя, 1993 г.).
**00.00** Леанід Млечын прадстаўляе. «Жанчына ў мужчынскай гульні. Жыццё і смерць Кацярыны Фурцавай». Дакументальны фільм цыклу «Сусветныя таямніцы».
**00.55** «Калейдаскоп».
**01.10** Перарыў в вешчании.

**5 Беларусь**

**07.30** PRO спорт. Навіны.
**07.40** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Спрынт. Мужчыны.
**09.05** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Спрынт. Жанчыны.
**10.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**10.55** Баскетбол. НБА. «Таронта» - «Голдэн Стэйт».
**12.50** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**13.40** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. «Цмокі-Мінск» (Беларусь) - «Віта» (Грузія).
**15.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**16.15** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Чэхаўскія мядзведзі» (Расія).
**17.45** Фактар сілы.
**18.20** Авертайм.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ньюкасл» - «Ліверпуль». Прамая трансляцыя.
**20.55** Футбол. На шляху да ЧС-2018. Відэачасопіс.
**21.30** PRO спорт. Навіны.
**21.40** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Гонка пераследу. Мужчыны.
**22.35** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Гонка пераследу. Жанчыны.
**23.30** Баскетбол. НБА. «Мэмфіс» - «Фінікс». Прамая трансляцыя.

**БЕЛСАТ TV**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Ліс Леон, мультсерыял.
**07.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**08.00** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**08.15** Занатоўкі натураліста.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**09.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Беларусы ў Польшчы.
**09.45** Два на два (тэледыскусія).
**10.15** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.45** Загадкі беларускай гісторыі: Паміж Менкай і Нямігай.
**11.00** Ліс Леон, мультсерыял.
**11.05** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**11.10** Польскія казкі і паданні, мультсерыял.
**11.25** Занатоўкі натураліста.
**11.35** Сонечная дзіда, серыял.
**12.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.45** Украіна. Усе ў агні, д/ф.
**13.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**14.45** Форум (ток-шоу): Балонска-беларускі працэс.
**15.30** Алі, м/ф.
**18.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.30** Токіа ад золку да змяркання, д/ф.
**19.10** Невядомая Беларусь: Слуцкі збройны чын.
**19.45** Сведкі: Культавы «Клеменс» у Віцебску.
**20.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Катынь: споведзь праведніка, д/ф, 2015 г., Польшча.
**21.15** Поза дзіцяці, м/ф.
**23.05** Сенсацыі XX стагоддзя, серыял: Таямніца бункера Гітлера.
**00.00** Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста, д/ф: ч. 3.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы Час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА [ ] НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ [ ]

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)
АДРЕС

Доставка [ ] уведомление [ ] простое [ ] заказное [ ] электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Увага! Змяніўся кошт падпіскі!

Паважаныя чытачы! На жаль, мы вымушаны павялічыць падпісны кошт. З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **32 000** руб. Падпісны кошт **I квартала** 2016 года — **90 000 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

# Гісторыя адной агоніі

Алег НОВІКАЎ

**У 40-ю гадавіну смерці Францiска Франка сталі вядомыя незвычайныя абставіны апошніх дзён іспанскага дыктатара.**

«Іспанцы, Франка памёр!» — такімі словамі агаломшыў аўдыторыю дыктар нацыянальнага бюро іспанскага радыё а 6-й гадзіне раніцы 20 лістапада 1975 года. Словы вядучага шакавалі нават тых іспанцаў, хто не сімпатызаваў рэжыму. За амаль 40 гадоў кіравання Франка пачалі ўспрымаць як своеасаблівую гарантыю большменш прадказальнай будучыні. Не дзіўна, што ў тыя дні шмат іспанцаў былі разгубленыя. Многія людзі проста адмаўляліся верыць у паведамленне пра тое, што 93-гадовы каўдыльё больш не жыве.

20 лістапада 2015 года ў 17 іспанскіх касцёлах па просьбах старых прыхаджан адбыліся набажэнствы ў памяць дыктатара.

Адначасова праз 40 гадоў пасля смерці Франка сталі вядомыя цікавыя дэталі ягонай смерці. Пра гэта ўпершыню распавёў прэсе Віталь Аза Фернандэс-Неспраль, самы малады ў камандзе кардыёлагаў, якія правялі з дыктатарам яго апошнія дні. Такім чынам, першы інфаркт у Франка адбыўся яшчэ 17 кастрычніка. Пасля гэтага да самай смерці ён заставаўся ў непрытомнасці. Стан пацыента быў такі цяжкі, што некаторыя з медыкаў адмовіліся падпісваць тэкст афіцыйнай заявы ад 17 кастрычніка пра тое, што Франка адчувае сябе добра. Яны баяліся, што пасля іх абвінавацяць у хлусні і асудзяць. Аднак пасля пачалося самае цікавае — яшчэ месяц агонію Франка любымі сродкамі працягвалі для таго, каб кланы ўнутры сістэмы маглі дамовіцца наконт формулы кіравання постфранкісцкай Іспаніяй.

Увесь гэты час абмяркоўвалася кандыдатура пераемніка. У прынцыпе, яго імя Франка агучыў яшчэ прыкладна ў сярэдзіне 1960-х гадоў. Наступным кіраўніком Іспаніі, якая паводле канстытуцыі была манархіяй, павінен быў стаць пасля караначыі прынц Хуан Карлас. Аспрэчваць кандыдатуру Хуана Карласа, якога абраў сам Франка, ніхто не адважыўся.



Фота www.alamy.com

**Паводле ўспамінаў Фернандэса-Неспраля, барацьба за жыццё Франка была доўгай і цяжкай. Дактары ўвесь час баяліся, што назіраюць апошнія хвіліны яго жыцця. Таму ў пакоі заўсёды прысутнічаў капелан**

**У 17 іспанскіх касцёлах па просьбах старых прыхаджан адбыліся набажэнствы ў памяць дыктатара Францiска Франка**

Аднак, як толькі Францiска перавялі ў рэанімацыю, у асяроддзі франкістаў узнікла іншая прапанова наконт будучага лідара. Баючыся (і, як сведчыць гісторыя, не беспадстаўна), што Хуан Карлас возьме курс на дэмакратызацыю, яны пачалі актыўна інтрыгаваць.

Некаторыя рэакцыйныя фракцыі франкістаў прапанавалі альтэрнатыву зацверджанаму раней пераемніку. На трон прапаноўвалася пасадзіць прынца Альфонса. Альфонса быў гарантам бяспекі для франкістаў, паколькі быў жанаты з унучкай каўдыльё.

Аднак для паспяховай рэалізацыі такога сцэнару патрэбны былі дзве ўмовы. Па-першае, час, дастатковы для таго, каб пераканаць грамадства і вертыкаль у тым, што Альфонса лепшы за Хуана Карласа. Па-другое, раскрутка Альфонса мела перспектыву толькі пры ўмове таго, што агонія Франка працягнецца. Факт смерці дыктатара адразу запускаў раней зацверджаны механізм перадачы ўлады ў рукі Хуана Карласа.

У выніку пачалася неверагодная гульня нерваў. Прыхільнікі Альфонса актыўна рэкламавалі ў кулуарах сваю крэатуру. Хуан Карлас у той жа час намагаўся ўсімі спосабамі данесці да іспанцаў пасланне, што менавіта ён стане новым лідарам. Усё гэта адбывалася на фоне сапраўднага шквалу плётак. Яшчэ за год да смерці з-за хваробы дыктатар пераехаў у шпіталь і фактычна знік з публічнага жыцця. Яго адсутнасць правакавала самыя неверагодныя спекуляцыі. Напрыклад, дакументальны фільм пра жыццё пінгвінаў быў інтэрпрэтаваны як пасланне інфармаваных людзей пра тое, што Франка вельмі хворы.

Відавочна, ключавым момантам у гэтай барацьбе за пераемніка Франка было пытанне, як доўга працягне пацыент Прада (так называўся шпіталь, дзе ляжаў дыктатар). Паводле ўспамінаў Фернандэса-Неспраля, барацьба за жыццё Франка была доўгай і цяжкай, паколькі ў хворага хутка пачалі адключацца жыццёвыя функцыя адна за адной. Так, праз нейкі час дактары ўжо не маглі спыніць крывацёк у страўніку. Пасля пачаліся ваніты крывёю. Дактары ўвесь час баяліся, што назіраюць апошнія хвіліны жыцця Франка. Таму ў пакоі заўсёды прысутнічаў капелан, які без перапынку маліўся за душу пацыента.

Дадавалі праблемаў медыкам і розныя апаратчыкі, якія час ад часу наведвалі шпіталь, каб праверыць, як ідзе барацьба за здароўе любімага лідара. Такія візіты часта пераходзілі ў скандалы. Госці вінавацілі дактароў у тым, што яны кепска лечаць Франка. Як узгадвае Фернандэс-Неспраль, аднойчы пацыент дапамог пазбавіцца ад аднаго з такіх нежаданых гасцей. У час маналога пра нядбайных дактароў Франка раптам расплюшчыў вочы і так перапужаў чыноўніка, што той збег з пакоя.

Да гонару іспанскай улады трэба прызнаць, што медыкаў пасля 20 лістапада, калі Франка памёр, не пакаралі. Наадварот, кіраўнік Каралеўскага савету (часовы тэхнічны кіраўнік дзяржавы) выказаў ім падзяку. З іншага боку, было зразумела, што Франка — гэта мінулае з яго акалічнасцямі, калі культ дыктатара робіць самога дыктатара і нават яго здароўе закладнікам палітычных камбінацый.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Эксперты мяркуюць, што на самай справе канфлікт паміж МВФ і Лукашэнкам нашмат глыбей, і ляжыць ён зусім не ў плоскасці эканомікі. Аналітыкі даўно кажуць пра тое, што любыя змены дзеючай сістэмы пагражаюць асабістай уладзе Лукашэнкі. Фінансава незалежныя ад дзяржавы і прыбытковыя кампаніі практычна немагчыма прымусіць галасаваць «правільна», то бок, за дзеючую ўладу. Менавіта таму беларускаму прэзідэнту не патрэбныя ніякая прыватызацыя і ніякі прыватны сектар. У гэтай сітуацыі Лукашэнка вядзе гандаль з любымі крэдыторамі толькі на адну тэму — ці гатовыя яны даць грошай на падтрыманне яго асабістай улады і, адпаведна, захаванне існуючай эканамічнай сістэмы.

**«Независимая газета» (Расія)**

Куды будзе рухацца Беларусь пасля выбараў, пакуль не зразумела. Незразумелая і логіка Еўрапейскага саюза, які з гэтага месяца назаўжды здымае некаторыя санкцыі супраць Беларусі, нягледзячы на тое, што апошнія выбары ў гэтай краіне прайшлі мірна, аднак, у адрозненне ад выбараў пяцігадовай даўніны, рэальнай альтэрнатывы асноўнаму кандыдату ў прэзідэнты не было. ЕС у такіх умовах змякчае санкцыі супраць яго і спадзяецца на змены ў адносінах. Як такое магчыма?

**«Thüringische Landeszeitung» (Германія)**

Ва Украіны не павінна быць ніякіх ілюзій наконт Лукашэнкі. Ён вельмі прагматычны палітык, які спрабуе выгандлеваць на ўкраінскіх праблемах максімум прэферэнцый для сябе і ў Масквы, і ў Вашынгтона з Брусэлем, Берлінам і іншымі сталіцамі Еўропы. У дадзеным кантэксце, украінская палітыка ў адносінах да Мінска таксама павінна быць максімальна прагматычнай. Кожны ўдар па ўкраінскіх інтарэсах з боку Лукашэнкі (якія адбываюцца не так ужо і рэдка) павінен сіметрычна быць выкарыстаны ў адносінах да беларускіх інтарэсаў ва Украіне (у першую чаргу, у сферы двухбаковага гандлю). Лукашэнка шануе і паважае, як і любы аўтарытарны лідар, толькі сілу, таму прагматычная, але месяцамі жорсткая ўкраінская пазіцыя па Беларусі будзе цалкам адэкватна ўспрынятая ў Мінску.

**УНІАН (Украіна)**

Размяшчаць уклад без права адкликання на 2 гады, каб пазбегнуць падатку, — эксперымент не для слабанервовых. Улічваючы, як лёгка ўлада мяняе істотныя ўмовы па ўкладах, няцяжка ўявіць яе новыя крокі па аптымізацыі сістэмы збярэжэнняў. Напрыклад, дэнансацыі дзяржаўнай гарантыі вяртання ўкладаў. Таму эксперты хорам прагназуюць адток укладаў з беларускіх банкаў. Самым надзейным банкам у Беларусі зноў становіцца панчоха. І паколькі захоўваць грошы ў ёй будуць, напэўна, не ў беларускіх рублях, аналітыкі прадракаюць таксама павышэнне попыту на замежную валюту і, як следства, новае паслабленне беларускага рубля.

**«Капиталл» (Казахстан)**

З аднаго боку, супрацьдзеянне «русскому миру» з боку Лукашэнкі выглядае залішняй засцярогай. Беларусь — амаль монаэтнічная. Рускімі сябе лічаць толькі 8% насельніцтва Беларусі. Яны нідзе не складаюць ні абсалютнай, ні адноснай большасці — у горадзе Полацк, дзе рускіх адносна больш за ўсіх па краіне, яны складаюць ледзь 15%. Але «моўны момант» тут псуе ўсё. Таму што рускую мову роднай называюць 40%, а «асноўнай» — 70% насельніцтва. Такім чынам, беларуская монаэтнічнасць слаба звязаная з нацыянальнай самаідэнтыфікацыяй — як, урэшце, было і ў нас. І «русский мир» у такой справе (разам з дэкларацыямі расійскіх чыноўнікаў, гатовых «абараняць» менавіта рускамоўных, а не толькі рускіх, напляваўшы на нацыянальныя межы і суверэнітэт) — досыць перспектыўны расійскі інструмент.

**«Депо» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Хваля суіцыдаў

24 кастрычніка ў горадзе Тараз каля офісу прэзідэнцкай партыі «Нур Атан» 20-гадовы Ерлан Бектыбаеў здзейсніў самаспаленне. Перад гэтым Ерлан патлумачыў на відэа свой учынак тым, што на яго ціснуць паліцэйскія, падкінуўшы наркотыкі. Выкладзеныя ў інтэрнэце кадры самагубства выклікалі ў Казахстане не толькі шок, але і хвалю падобных актаў суіцыду. Праз тры дні ў тым жа Таразе жанчына паспрабавала гэтак жа спаліць сябе, але ёй перашкодзілі паліцэйскія. 1 лістапада ў Какшэтаў яшчэ адзін хлопец спаліў сябе на вуліцы. 3 лістапада ў мэрыі горада Жанаазена жанчына паспрабавала здзейсніць суіцыд на вачах у чыноўнікаў, зрабіўшы сабе глыбокія парэзы жывата. 12 лістапада мела месца яшчэ адно смяротнае самаспаленне — у Сяміпалацінску хлопец падпаліў сябе пасля сваркі з дзяўчынай. Не толькі эксперты, але і ў цэлым грамадства бачаць, што суіцыд стаў своеасаблівым адказам на эканамічныя праблемы і немагчымасць дамагчыся справядлівасці. Пакуль улада не ведае, што рабіць з такім незвычайным пратэстам. Адзінай рэакцыяй стаў загад для кіраўнікоў усіх секцый партыі «Нур Атана» набыць вогнетушыльнікі. Тым часам некаторыя апазіцыянеры лічаць, што Казахстан нейкім чынам паўтарае вопыт Тунісу, дзе рэвалюцыя 2011 года выклікала акт публічнага самаспалення, які зрабіў шараговы гандляр гароднінай перад мэрыяй горада ў знак пратэсту супраць галечы і свавольства паліцыі.

**Паводле казахскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Як распавядаць дзецям пра тэрарыстаў

Уся краіна жыве тэмай барацьбы з тэрарызмам, што, натуральна, нейкім чынам заўважылі і маленькія французы. Усё часцей яны ставяць пытанні бацькам пра тое, што адбываецца. Гэта прымусіла французскіх педагогаў задумацца, як трэба распавядаць дзецям пра падзеі 13 лістапада. У выніку нарадзілася інструкцыя, якую апублікаваў часопіс «Le Petit Quotidien». Перш за ўсё яе аўтары высветлілі, якія тэмы найбольш цікавяць малых. Як правіла, дзеці ставяць як сур'ёзныя пытанні, напрыклад, «чаму тэрарысты забіваюць людзей?», так і дзіўныя з дарослага пункту гледжання: «ці гуляюць тэрарысты ў футбол?». У любым выпадку, перш за ўсё спецыялісты раяць французскім бацькам не дэманстраваць дзецям выяваў ахвяр. Аднак пры гэтым бацькі павінны казаць пра тое, што адбылося гвалт і такое магчыма зноў. «Горш, калі дзіця адчувае, што нешта не так, а бацькі маўчаць», — кажа выданне. На думку спецыялістаў, можна сказаць прыкладна так: «Паліцыя будзе рабіць усё, каб абараніць вас, але я не ў стане сказаць, ці будзе яшчэ адзін напад». На думку выдання, дзеці таксама павінны ведаць, што не ўсе мусульмане з'яўляюцца злачынцамі, паколькі абагульненні прыкладаюць шлях да стварэння забабонаў. Галоўным вынікам размовы пра тэрарыстаў павінна стаць фармаванне ў дзяцей аптымістычнага погляду на будучыню.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. Іншапланетнікі думаць пра нас

Прэс-сакратар трэцяга прэзідэнта Украіны Віктара Юшчанкі Ірына Ваннікава распавяла ў сацыяльных сетках аб прыгодах адной «незвычайнай жанчыны». Нейкая Лідзія, якая жыве ў Заходняй Украіне, нядаўна пабачыла анёла. Анёл аказаўся вельмі кантактным і распавёў Лідзіі пра тое, што прыляцеў з планеты Празерпіна. Акрамя таго, ён папрасіў, каб чалавецтва вярнула ў склад украінскага ўраду Віктара Юшанку і Анатоля Грыцэнку (былы міністр абароны). Пры ўсёй экстравагантнасці заяваў Ваннікавай у гэтай гісторыі з'явілася шмат прыхільнікаў. А нейкі фанат нават зрабіў анімацыю пра візіт анёла з Празерпіны. Сацыёлагі лічаць такую рэакцыю на гісторыю пра анёла цалкам лагічнай: інтарэс да паранармальных з'яваў характэрны для крызіснага грамадства.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. У краіну вяртаюцца дысідэнты

У Польшчы адраджаецца легендарны Камітэт абароны рабочых (KOR) — дысідэнцкая групоўка, якая дзейнічала ў 1970-я гады, фактычна стварыўшы падмурак прафсаюзу «Салідарнасць». На днях шэраг сябраў KOR заявілі пра вяртанне ў палітыку. Толькі цяпер арганізацыя будзе называцца Камітэт абароны дэмакратыі (KOD). Стварыць KOD былыя актывісты вырашылі пад уплывам таго, што нарабіў за першы тыдзень сваёй кадэнцыі новы польскі ўрад, сфармаваны PiS. Учынкі кансерватараў, сапраўды, былі вельмі арыгінальныя. Яны пазбавілі парламенцкую апазіцыю магчымасці кантраляваць спецслужбы, пачалі ратацыю сяброў Канстытуцыйнага суда, раскрытыкавалі адну тэатральную імпрэзу за амаральны змест… На думку аўтараў KOD, усё гэта — замах на дэмакратычную мадэль грамадства. Хаця ў KOD ужо запісалася каля сямі тысяч чалавек, перспектывы гэтага праекту пад сумневам. У тым ліку таму, што KOD будуецца на міфе пра KOR, сябрамі якога ў свой час таксама былі шматлікія цяперашнія лідары «Права і Справядлівасці».

**Паводле польскай прэсы**

# Знаёмцеся: «Радыё Марыя»

*Алег НОВІКАЎ*

**З красавіка наступнага года ў Беларусі пачне працаваць «Радыё Марыя» — адно з вядучых рэлігійных СМІ ў свеце.**



Фота www.fine.com.ua

Пакуль што пра дэталі праекту можна казаць выключна сыходзячы з невялікага паведамлення на «Радыё Ватыкан»: «Праграмы радыёстанцыі, якая будзе ісці на беларускай мове, дазволяць слухачам пазнаёміцца з хрысціянскай навукай. Слухачоў чакаюць трансляцыі службаў з розных каталіцкіх храмаў па ўсёй Беларусі, перадачы культурнай, хрысціянскай і сацыяльнай тэматыкі, музыка, рэпартажы пра важныя падзеі з жыцця Каталіцкага Касцёла ў розных краінах свету».

Паводле «Радыё Ватыкан», «каб зрабіць «Радыё Марыя» даступным для ўсіх слухачоў, будзе распрацоўвацца радыё-бокс з магчымасцю далучэння да яго 3G-мадэма, — такое рашэнне будзе зручным для людзей, якія мала карыстаюцца інтэрнэтам і не маюць смартфонаў».

Але можна казаць ужо зараз, што прыход «Радыё Марыя» ў Беларусь па сутнасці адкрые новую старонку ў гісторыі беларускіх СМІ. Упершыню слухачы пазнаёміцца з жанрам сапраўднага рэлігійнага радыё.

Радыёстанцыі, чые праграмы прысвечаныя рэлігійнай тэматыцы, узніклі за мяжой яшчэ напачатку мінулага стагоддзя. У некаторых краінах (напрыклад, ЗША), такія станцыі маюць каласальны ўплыў на грамадска-палітычныя працэсы аж да таго, што іх дыджэі выстаўляюць свае кандыдатуры на пасады губернатараў штатаў і прэзідэнта. Радыёстанцыі фармуюць цэлыя палітычныя лагеры. Так, у 2008 годзе пратэстанцкая кансерватыўная радыёстанцыя «Focus on the Family» з'явілася галоўным бастыёнам праціўнікаў абрання Барака Абамы на пасаду прэзідэнта.

Працуюць праваслаўныя радыё ў суседняй Расіі, якія, напэўна маюць сваю аўдыторыю і ў нас. Аднак паўнафарматна ў Беларусі рэлігійныя станцыі ніколі не працавалі.

Перш чым распавядаць пра праект «Радыё Марыя», трэба адразу адзначыць, што ён не мае нічога агульнага з польскім «Радыё Марыя» (Radio Maryja), што, можа, выглядае вельмі дзіўна. Сапраўды, «Радыё Марыя» — пятая па папулярнасці станцыя ў Польшчы, якую слухаюць каля двух працэнтаў палякаў. Тым не менш, у сусветную сетку «Радыё Марыя» польскае СМІ не ўваходзіць. Магчыма, таму, што гэта прыватная станцыя: яе заснаваў у 1991 годзе ксёндз Тадэвуш Рыдчык (Tadeusz Rydzyk). Магчыма, сусветнае «Радыё Марыя» трымае дыстанцыю ад праекту Рыдчыка ў сувязі са шматлікімі скандаламі. За гады існавання праекту на «польскую Марыю» больш за 40 разоў падавалі скаргі. Радыё штрафавалі за антысемітызм, адмаўленне Халакосту, асабістыя знявагі, замаскіраваную рэкламу.

Што тычыцца непасрэдна гісторыі «Радыё Марыя», то яно было заснаванае ў 1983 годзе як прыходская радыёстанцыя італьянскага горада Аркеласка д'Эрба (Arcellasco d'Erba) правінцыі Кама, непадалёк ад Мілана. Радыё павінна было інфармаваць парафіян, дапамагаць ім маліца праз трансляцыю імшы. Ад самага пачатку стваральнікі радыё трымаліся прынцыпу — не размяшчаць камерцыйную рэкламу і арыентавацца на ўнёскі прыхаджан. Фактычна, гэта быў грамадзянскі праект.

І ён аказаўся вельмі паспяховым. Чуткі пра прыходскую станцыю перакрочылі межы Ламбардыі, і хутка падобныя студыі пачалі ўзнікаць у розных кутках Апенінаў. У 1987 годзе лакальныя студыі аб'ядналіся ў асацыяцыю. Адначасова была выпрацавана формула працы і этычны кодэкс.

«Радыё Марыя» вядзе выключна хрысціянскае вяшчанне. Усе праграмы можна падзяліць на тры вялікія фарматы. Амаль траціну эфіру складаюць малітвы, літургіі і г.д. Яшчэ траціну займае выкладанне вучэнняў Касцёла. Для гэтага штодня на наўпраставыя эфіры запрашаюцца святары, якія распавядаюць пра каноны веры і адказваюць на пытанні слухачоў. Трэці блок — праграмы сацыяльнай накіраванасці, якія закліканыя даваць адказы на штодзённыя жыццёвыя пытанні слухачоў. Тэматыка праграм розная — ад псіхалогіі і педагогікі да экалагічных праблем.

Паступова вакол станцыі згуртаваліся валанцёры. Яны вядуць штодзённыя праграмы, дапамагаюць у тэхнічнай працы і рэкламуюць радыё. У апошні час у розных парафіях пачалі з'яўляцца суполкі падтрымкі радыё.

Выхад на італьянскі нацыянальны ўзровень «Радыё Марыя» стаў толькі першым крокам. Пачынаючы з 1990 года філіі радыё імкліва ствараюцца за межамі Італіі. На цяперашні момант радыёстанцыі, якія ўваходзяць у сетку, працуюць у 58 краінах. З 2000 года перыядычна праходзяць сусветныя кангрэсы ўдзельнікаў і слухачоў праекту.

«Радыё Марыя» вядзе трансляцыі ў Літве і ва Украіне. Праўда, ва Украіне гэтае радыё можна слухаць толькі ў пяці абласцях Захаду і цэнтру краіны, уключаючы сталіцу.

Вышэй узгадвалася, што «Радыё Марыя» не мае нічога агульнага з аднайменным праектам у Польшчы. Аднак гэта не значыць, што сусветнаму «Радыё Марыя» ўдалося цалкам пазбегнуць крытыкі. Галоўным чынам радыёстанцыі дастаецца ад левых і ліберальных СМІ, якія лічаць, што «Радыё Марыя» з'яўляецца рупарам кансерватыўнай фракцыі Касцёла. Гэта, па іх словах, праяўляецца ў тым, што радыёстанцыя не дае эфіру тым, хто падтрымлівае правы на эмансіпацыю жанчын, крытыкуе розныя рэакцыйныя групы ўнутры царквы, накшталт ордэна «Opus Dei», выступае супраць неэтычных паводзінаў кліру. Адзін з левых дэпутатаў італьянскага парламента публічна абураўся тым, што «Радыё Марыя» хоча займець манаполію на каталіцызм.

З іншага боку, скандалы вакол «Радыё Марыя» маюць месца ў асноўным у Італіі, дзе гістарычна дзяржава і грамадства доўгі час змагаліся за аўтаномію ад Касцёлу. У іншых краінах «Радыё Марыя» проста працуе ў сваёй нішы. Думаецца, у Беларусі яно таксама ўпішацца ў радыёэфір.

# Гульня Эрдагана. Погляд турэцкага апазіцыянера

Алег НОВІКАЎ

**Адносіны Турцыі і Расіі максімальна абвастрыліся: з-за таго, што ВПС Турцыі збілі ў сваёй паветранай прасторы расійскі «Су-24». Аднак рэакцыя на гэтую падзею самой турэцкай грамадскасці даволі супярэчлівая. Пра гэта распавядае Булен Муфтуагу, прадстаўнік апазіцыйнай Народнай дэмакратычнай партыі Турцыі (HDP).**



Фота www.nur.kz

Эрдаган і Пуцін — яшчэ сябры

***— Расія і Турцыя чымсьці падобныя, бо і там і там пры ўладзе доўгі час знаходзяцца аўтарытарныя лідары. І вось цяпер яны вырашылі пасварыць свае народы. Фактычна тытульны апазіцыянер Аляксей Навальны падтрымаў антытурэцкую істэрыю Пуціна. А як паводзіць сябе турэцкая апазіцыя?***

— Турэцкая апазіцыя не адзіная. Ёсць ісламская, левая, рэспубліканская, нацыяналістычная, свецкая, курдская… Таму і рэакцыя розная. Напрыклад, учынак Эрдагана знайшоў падтрымку сярод часткі нацыяналістаў, якія раней знаходзіліся да яго ў апазіцыі як палітыка-ісламіста. Яны нават абвясцілі мабілізацыю.

Найбольш буйная фракцыя апазіцыі — рэспубліканцы — крытыкуюць афіцыйную версію збіцця самалёта. Найперш, ніхто не веддае дакладна пра падставы вядзення агню ў адказ на парушэнне турэцкай мяжы. Напрыклад, пасля іміграцыйнага крызісу турэцкі вайсковы флот пачаў патруляваць Эгейскае мора. Пры гэтым некалькі разоў змяняліся правілы таго, у якіх выпадках трэба весці агонь па парушальніках мяжы. Рэжым адкрыцця агню, што існуе на мяжы з Сірыяй, у апошні час таксама некалькі разоў мяняўся. Адзіная інстанцыя, якая зацвярджае гэтыя правілы, — прэзідэнт Турцыі Рэджэп Таіп Эрдаган, які, хутчэй за ўсё, і прыняў рашэнне збіваць самалёт. Таму галоўнае патрабаванне парламенцкай апазіцыі ў адказ на інцыдэнт з самалётам — закрыць сірыйскую мяжу, паставіць яе пад кантроль парламента. Таксама апазіцыя патрабуе стварэння парламенцкай камісіі па вывучэнні абставін канфлікту.

***— Ці назіраецца нацыяналістычны ўздым у турэцкім грамадстве?***

— Большасць туркаў баіцца эканамічных наступстваў канфлікту: Турцыя — сёмы па значнасці эканамічны партнёр Расіі. Турэцкі фондавы рынак і курс нацыянальнай грашовай адзінкі ўжо ўпалі. Тут сапраўды хапае тых, хто лічаць, што самалёт быў збіты з-за бамбёжкі нафтавых канвояў, якія перавозілі кантрабандную нафту з тэрыторыі «Ісламскай дзяржавы». Ходзяць чуткі, што канвоі належалі «Calık» — фірме, цесна звязанай з кіруючай у Турцыі партыяй Эрдагана. Таксама згадваецца фігура сына прэзідэнта, які, быццам, датычны да нафтавай аферы. Аднак наўрад ці нелегальны бізнес, калі і меў месца, згуляў тут вырашальную ролю. Выпадак з самалётам — гэта рэакцыя Анкары на наступствы расійскага ўмяшання ў сірыйскі канфлікт. Эрдаган палічыў, што яму трэба больш актыўна дзейнічаць у Сірыі.

***— Адзін з матываў умяшання Турцыі ў сірыйскія справы — падтрымка мясцовых туркменаў. Наколькі гэтаму этнасу сапраўды патрэбна дапамога турэцкага боку?***

— Гэта цудоўная ілюстрацыя падабенства расійскага і турэцкага рэжымаў з той розніцай, што Эрданан змагаецца не за рускі, а за цюркскі свет. Сапраўды, свае дзеянні ў Сірыі турэцкае войска і дыпламатыя часта апраўдваюць праблемамі сірыйскіх туркменаў — этнічных цюркаў, якія жывуць на поўначы краіны яшчэ з часоў узнікнення Асманскай імперыі. У канцы 2012 года пры дапамозе турэцкіх інструктараў туркмены стварылі Сірыйскую туркменскую асамблею і сфармавалі свае ўзброеныя сілы, у якіх ваююць каля 10 тысяч чалавек. Сірыйскія туркмены ваююць як з войскамі Башара Асада, так і з баевікамі «Ісламскай дзяржавы», плюс настроены рэзка супраць Расіі. У апошні час Эрдаган спрабаваў разыграць карту туркменаў на міжнароднай арэне, але не атрымаў той падтрымкі, на якую спадзяваўся.

***— Першае, што зрабіла Анкара, калі збіла самалёт, — заклікала да правядзення пасяджэння савета NATO. Відавочна, што гэта структура — вельмі важны элемент у гульні, якую вядзе Эрдаган.***

— Тое, што Эрдаган усё ж вырашыў пайсці на абвастрэнне першым, звязана са спробай выкарыстаць статус Турцыі ў NATO для таго, каб паўплываць на магчымае стварэнне «вялікай кааліцыі» з удзелам Францыі і Расіі. Магчыма, ён спадзяецца ўзмацніць ролю Турцыі ў сірыйскім крызісе ў тым выпадку, калі NATO стане на яго бок. Аднак у Альянсу, гледзячы па выніках пасяджэння савета, хапае сваіх праблем. Фармальна падтрымаўшы Эрдагага, чальцы Альянсу нічога канкрэтна турэцкаму прэзідэнту не паабяцалі. Акрамя таго, на Захадзе хапае аматараў збалансаваць рэгіянальныя амбіцыі Турцыі і нафтавых манархій Персідскага заліва.

***— У Расіі заклікаюць да паставак зброі курдскім сепаратыстам у Турцыі, каб іхнімі рукамі адпомсціць Эрдагану.***

— СССР меў досыць вялікі досвед працы з курдскімі арганізацыямі (у тым ліку і вопыт падтрымкі курдскіх баявых арганізацый). Прычым курды таксама разглядаліся як натуральны саюзнік СССР у магчымым канфлікце з Турцыяй. Апроч таго, для курдаў важна сарваць спробы Турцыі стварыць 50-кіламетровую «зону бяспекі» ў памежных раёнах Сірыі. Аднак сёння іракскія курды, якія заўсёды былі звязаныя з суайчыннікамі ў Турцыі, і так атрымліваюць шмат зброі ад ЗША, якія бачаць у іх важнага партнёра ў барацьбе з «Ісламскай дзяржавай». Пра магчымыя пастаўкі зброі курдам піша французская прэса. З улікам росту курдскага фактара, наўпрост станавіцца пешкамі Масквы курды не будуць. Будуць улічвацца шмат чыннікаў.

***— Чым скончыцца канфлікт, на вашу думку?***

— Эрдаган і Пуцін могуць паспрабаваць «адыграць назад». Аднак антаганізм інтарэсаў у рэгіёне двух вялікіх гульцоў, які прасочваўся з самага пачатку расійскай ваеннай аперацыі, ужо стаў занадта відавочным і публічным.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сяргей Садовы



Мэр Львова, лідар партыі «Самапомач», як высветлілася, інвестуе не толькі ў сваю партструктуру. З'явілася інфармацыя, што на апошніх выбарах ён таксама надаваў падтрымку кандыдатам ад Украінскай Галіцкай партыі (УГП). Пра тое, што «галічане» выкарыстоўвалі адміністратыўны рэсурс, сведчыць той факт, што яны могуць агітаваць у гарадскіх парках, што патрабуе спецыяльнага дазволу львоўскай гарадской адміністрацыі. У выніку, у тым ліку дзякуючы адміністратыўнаму рэсурсу, «галічане» прайшлі ў гарсавет.

УГП, якая была заснавана ў 2012 годзе, фармальна не выступае за аўтаномію для краю, аднак умовай поспеху Украіны называе стварэнне моцнай Галіцыі. Тым не менш, у масавай свядомасці УГП усё роўна ўспрымаюць як партыю аўтанамістаў.

Тое, што Садовы падтрымлівае рэгіяналістаў, тлумачаць па-рознаму. Адны думаюць, што падтрымка УГП звязаная з яго асабістай сімпатыяй да канцэпцыі аб тым, што Галіцыя павінна стаць драйверам рэформаў для ўсёй Украіны. Другія мяркуюць, што ўчынкі львоўскага мэра — люстэрка агульнаўкраінскага трэнду, калі папулярнасць набіраюць рэгіянальныя партпраекты. Больш за палову дэпутацкіх месцаў у мясцовых саветах у кастрычніку дасталася партыям, якія не маюць прадстаўніцтва ў нацыянальным парламенце.

### Берні Сандэрс



Прэтэндэнт у кандыдаты на пасаду прэзідэнта ЗША ад Дэмакратычнай партыі на выбарах 2016 года адназначна ўвайшоў у гісторыю, незалежна ад таго, чым скончацца выбары. Сандэрс — першы за апошняе стагоддзе ўплывовы палітык, які ідзе на выбары, абяцаючы амерыканцам у выпадку перамогі пабудаваць сацыялізм. Апошні раз з такой праграмай кандыдаты ішлі на выбары ў 1908 годзе.

Праўда, сам Сандэрс называе сацыялізмам не досвед СССР, а цяперашнюю Данію і тую мадэль, якую прэзідэнт Рузвельт будаваў у 1930-я гады. Галоўнай адзнакай сацыялізму, на яго думку, ёсць шырокая праграма па барацьбе з беспрацоўем, моцная роля прафсаюзаў і падтрымка сярэдняга класа.

Цяжка сказаць, нашто Берні выступіў з такой радыкальнай заявай — з улікам таго, што яго галоўны канкурэнт Хілары Клінтан, паводле апытанняў, за апошні час ужо на 25 пунктаў адарвалася ад канкурэнта (у пачатку жніўня разрыў паміж імі быў толькі 10%). З іншага боку, каля 45% прыхільнікаў дэмакратаў яшчэ не вызначыліся, за каго галасаваць. У любым выпадку, тое, што трэціна электарату дэмакратаў сімпатызуюць ідэям сацыялізму, пра які адкрыта кажа Берні, сведчыць пра радыкалізацыю настрояў у Штатах.

### Мануэль Вальс



Кіраўнік французскага ўрада 24 лістапада ў інтэрв'ю нямецкаму выданню «Süddeutsche Zeitung» прызнаўся, што Еўропа больш не здольная прымаць мігрантаў з Блізкага Усходу. Па ягоных словах, працяг такой палітыкі будзе значыць заканчэнне праекту Еўрапейскай інтэграцыі. У якасці альтэрнатывы палітык прапануе тэрмінова пачаць перамовы з Турцыяй, Ліванам і Іарданіяй для стварэння там цэнтраў для бежанцаў.

Смелую заяву Вальса прэса інтэрпрэтуе як старт змены накірунку дыскусіі ўнутры еўрапейскіх эліт, якія раней выступалі за прыём бежанцаў. Праўда, у прынцыпе ўсё да гэтага ішло. Апошнім часам супраць Ангелы Меркель, галоўнага еўрапейскага лабіста ідэі прыёму бежанцаў, унутры яе роднай партыі ўзняўся сапраўдны бунт. Хорст Сеехофер, старшыня CSU — Хрысціянска-сацыяльнага саюза, баварскай партыі, партнёра меркелеўскай партыі Саюз хрысціянскіх дэмакратаў (CDU), запатрабаваў ад канцлера змяніць міграцыйную палітыку. Да баварцаў хутка далучыліся партыйныя бароны CDU ў трох землях ФРГ, дзе ў сакавіку 2016-га пройдуць рэгіянальныя выбары, якія яны могуць прайграць з-за лініі Меркель. Аднак вырашальнае слова, безумоўна, сказалі французы, у якіх пасля тэрактаў 13 лістапада ёсць маральнае права патрабаваць рэвізіі старога курсу.

Чакаецца, што Берлін пачне мяняць сваю пазіцыю, аднак якой можа быць канкрэтная і, галоўнае, аператыўная альтэрнатыва прыёму мігрантаў — ніхто не ведае.

# З гісторыі адной вандроўкі па гарадах Заходняй Беларусі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Прафесар Політэхнічнага ўніверсітэта Львова Ігнацій Масціцкі стаў прэзідэнтам Польшчы пасля майскага перавароту 1926 года. Аднак фактычная ўлада ў краіне да 1935 года была ў руках Юзафа Пілсудскага. А Масціцкі канцэнтраваў увагу на стымуляванні развіцця прамысловасці і гандлю, а таксама на паездках па краіне.**

У адну з такіх паездак Ігнацій Масціцкі накіраваўся восенню 1929 года. «19 верасня на тэрыторыю Навагрудскага ваяводства прыязджае спадар прэзідэнт Рэчы Паспалітай Ігнацій Масціцкі. На мяжы ваяводства яго павітае ваявода Бэчковіч, а таксама прадстаўнікі ваяводскага камітэту і Слонімскага павятовага камітэту», — пісала адна з тагачасных газет. Паводле плану прэзідэнцкай канцылярыі, палітык павінен быў наведаць Слонім, Жыровічы, Навагрудак, Пружаны, Свіцязь, Мір, Нясвіж, Стоўбцы, Рубяжэвічы, Івянец, Ліду і іншыя гарады і мястэчкі, а таксама прыватныя гаспадаркі.

Першым горадам быў Слонім. «Перад трыумфальнай брамай, пастаўленай на вуліцы Ражанскай, спадара прэзідэнта чакала дэлегацыя мясцовага савета на чале з бургамістрам Плябанскім, духавенства ўсіх веравызнанняў, дэлегацыя таварыстваў, прафесійных саюзаў, школьнай моладзі. Спадар Плябанскі павітаў прэзідэнта хлебам і соллю. Пасля павітання спадар прэзідэнт прайшоў перад ротай ганаровай варты 79-га пяхотнага палка. Уздоўж вуліц стаялі натоўпы жыхароў, якія віталі госця. Горад упрыгожаны сцягамі, зелянінай і святочнай ілюмінацыяй», — адзначалася ў адной з польскіх газет.

## Вырашыць нацыянальнае пытанне

Для польскай адміністрацыі гэты візіт быў сапраўды значнай падзеяй. Эканоміка ўсходніх рэгіёнаў Другой Рэчы Паспалітай знаходзілася ў цяжкім стане, і чыноўнікі «на месцах» чакалі карэнных змяненняў. Па-свойму чакалі прыезду Ігнацыя Масціцкага і мясцовыя жыхары няпольскага паходжання. Нацыянальная праблема была адной з ключавых для міжваеннай Польшчы, таму звычайныя людзі чакалі паляпшэння сітуацыі.

Падчас знаходжання ў Навагрудку адным з першых месцаў, куды адправіўся Ігнацій Масціцкі, была будаўнічая пляцоўка беларускай школы. Гэта падзея мела, перш за ўсё, прапагандысцкі падтэкст, але факт застаецца фактам: здымак прэзідэнта Другой Рэчы Паспалітай з кельмай ля цаглянай кладкі абляцеў большасць тагачасных польскіх выданняў. Акрамя гэтага, кіраўнік Другой Рэчы Паспалітай ахвяраваў на будаўніцтва вялікую на той час суму грошай — 2 тысячы злотых.

Дарэчы, на мерапрыемстве прысутнічалі сябры беларускіх палітычных і культурных арганізацый з Вільні. Падчас урачыстасці выступіў дырэктар Навагрудскай беларускай гімназіі Ян Цеханоўскі, які два гады да гэтага вярнуўся з Францыі, дзе знаходзіўся ў вымушанай эміграцыі. Справа ў тым, што ў 1921 годзе за свае прабеларускія палітычныя погляды Цеханоўскі быў арыштаваны ўладамі Другой Рэчы Паспалітай. Пазней яго выпусцілі, але перарслед працягваўся, і беларус вырашыў з'ехаць з Польшчы. У 1927 годзе Ян Цеханоўскі вярнуўся дадому і працягваў працу ў сферы беларускага школьніцтва. У 1934 годзе Навагрудская беларуская гімназія была зачынена. А праз чатыры гады пасля гэтага Ян Цеханоўскі памёр ад інфаркту.

**У Навагрудку адным з першых месцаў, куды адправіўся Ігнацій Масціцкі, была будаўнічая пляцоўка беларускай школы**

Як пазней узгадваў беларускі грамадскі дзеяч Барыс Кіт, у канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў Навагрудскі ваявода Зыгмунт Бэчковіч быў «адным з першых польскіх лібералаў, які зацікавіўся беларускай справай, і нават хацеў дапамагчы беларусам, каб вырваць іх з-пад камуністычнага ўплыву». «Ён нават прыходзіў да нас у гімназію інспектаваць нашу дзейнасць. Пазней ваявода дапамог атрымаць ёй дзяржаўныя правы», — пісаў ва ўспамінах спадар Кіт.



Прэзідэнт Масціцкі падчас будаўніцтва беларускай сярэдняй школы ў Навагрудку, 1929 год

На мерапрыемстве з удзелам прэзідэнта Масціцкага быў агучаны Акт аб будаўніцтве беларускай школы. Пры гэтым зроблена гэта было на польскай і беларускай мове. Будаўнічую пляцоўку асвяціў праваслаўны біскуп Аляксей. Мерапрыемства скончылася сустрэчай Ігнацыя Масціцкага з мясцовымі жыхарамі, якія, як адзначала газета «Навагрудкае жыццё», віталі высокапастаўленага палітыка па-польску і па-беларуску. Больш таго, на Замкавай гары адбыліся танцы, дзе дзяўчыны з Аграрнай школы з Шчучынскага павету станчылі для Масціцкага нацыянальны беларускі танец «Лявоніху».

## Замак Радзівілаў і «рыжская мяжа»

Пасля Навагрудку прэзідэнцкі картэж накіраваўся ў Навагельню, дзе Масціцкі адкрыў помнік у гонар дзесяцігоддзя польскай незалежнасці. У Карэлічах прэзідэнт сустрэўся з асобамі, чые дамы былі знішчаны ў выніку пажару, а ў Турцы паціснуў руку ветэрану паўстання 1863 года спадару Ціхаму.

А яшчэ ў Міры Масціцкі адчыніў сельскагаспадарчую выставу. У цэнтры мястэчка была пастаўлена вітальная брама, а кіраўніка краіны чакалі ўсе мясцовыя чыноўнікі (сярод якіх быў і сенатар Канстанцін Рдултоўскі, які ў верасні 1939 года быў арыштаваны НКУС і знаходзіўся ў Мінскай турме на Валадарскага) і жыхары. Падчас сустрэчы прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі абмяркавалі з прэзідэнтам праблемы сельскай гаспадаркі на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў.

Затым Ігнацій Масціцкі выехаў у Нясвіж, дзе яго сустракала ганаровая варта 27-га ўланскага палку. Пасля сустрэч з прадстаўнікамі мясцовага дзяржапарату прэзідэнт завітаў у рэзідэнцыю князёў Радзівілаў, дзе паабедаў у кампаніі перадапошняга Нясвіжскага ардыната князя Альбрэхта.

Далей быў Клецк, дзе Ігнацій Масціцкі наведаў 9-ты батальён Корпуса аховы памежжа, а пасля гэтага заехаў да памежнікаў у Стоўбцы. Тут прэзідэнт наведаў стражніцу «Баркоўшчына». На самім кардоне ён спыніўся ля памежнага слупа №762 і хвілін 15 задумена глядзеў на Усход.

Праз дзесяць гадоў у такія ж восеньскія дні праз «рыжскую мяжу» будуць прарывацца часткі Чырвонай Арміі. Раніцай 17 верасня 1939 года ў гэтым раёне польска-савецкую мяжу перайшлі падраздзяленні 6-га кавалерыйскага корпуса РСЧА камкора Андрэя Яроменкі. Гарнізон стражніцы «Баркоўшчына» спрабаваў арганізаваць супраціў, аднак сілы былі няроўнымі. Савецкія кавалерысты пад камандаваннем лейтэнанта Вайнова хутка атачылі будынак КАП і закідалі яго гранатамі…

## «Нёман» і Гедымін

25 верасня Ігнацій Масціцкі наведаў Фабрыку па вырабу шкла «Нёман» у Бярозаўцы. Прэзідэнта сустракаў гаспадар прадпрыемства Юліюш Столе. У міжваеннае дваццацігоддзе «Нёман» быў галоўным экспарцёрам шкла ў еўрапейскія краіны, а таксама ў Амерыку, Афрыку і на Бліжні Усход. На вытворчасці працавала каля 750 працоўных. У 1935 годзе менавіта тут зрабілі шкляную ўрну для сэрца Юзафа Пілсудскага, якое пахавалі на віленскіх могілках Роса.

У Лідзе Ігнацій Масціцкі наведаў замак Гедыміна, а адтуль заехаў у Беняконі, дзе прыняў удзел у пасяджэнні ваяводскай камісіі Таварыства сельскагаспадарчых гурткоў і далей выехаў у Вільню. У старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага прэзідэнт Другой Рэчы Паспалітай прабыў нядоўга і хутка вярнуўся на Навагрудчыну. У Жалудку палітык наведаў князя Людвіга Чатверцінскага.

Скончылася падарожжа Ігнацыя Масціцкага 28 верасня 1929 года. На развітанне ён атрымаў — альбом са здымкамі Навагрудчыны, зробленымі фатографам Янам Булгакам.

Ужо праз дзесяць гадоў пасля гэтага вяжу пачнецца Другая сусветная вайна. У 1930-я гады большасць беларускіх школ і гімназій польскія ўлады зачынілі. Варшава ўзяла накірунак на паланізацыю і асіміляцыю беларусаў і ўкраінцаў. Гэтая палітыка прывяла да трагедыі верасня 1939 года, калі жыхары Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны крывава помсцілі прадстаўнікам польскага дзяржапарату, паліцыянтам і вайскоўцам.

Што ж тычыцца Ігнацыя Масціцкага, то ўжо 8 верасня 1939 года ён пакінуў Варшаву і выехаў у палац Радзівілаў у Алыку на Валыні. 17 верасня 1939 года прэзідэнт пераехаў польска-румынскую мяжу і быў інтэрнаваны ўладамі Каралеўства Румыніі. 30 верасня палітык адмовіўся ад сваёй пасады. Усю вайну ён правёў у Швейцарыі, дзе і памёр у кастрычніку 1946 года. У 1993 годзе парэшткі былога прэзідэнта Другой Рэчы Паспалітай перапахавалі на радзіме.

**Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава**



Ігнацій Масціцкі падчас адкрыцця выставы ў Міры



Машына прэзідэнта Масціцкага ля стражніцы «Баркоўшчына»



Масціцкі на польска-савецкай мяжы ля стражніцы «Баркоўшчына»

# Успаміны: Мінск. Гады студэнцкія



**Арсень Ліс — выпускнік філалагічнага факультэта БДУ. 1956 г.**

*У нас з калыскі мовы*
*матчынай не ўкралі.*
*Душу ў палон хоць бралі,*
*не ўзялі.*
*Арсень Ліс*

Выпраўляючыся ў Мінск здабыць вышэйшую адукацыю, я мала што ведаў пра гісторыю Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Але марыў паступіць толькі ў яго. А вучыцца ў БДУ хацелася перадусім таму (ведаў тое з падручнікаў па літаратуры), што ў ім на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні навучаліся паэты, чыё слова штосьць казала маёй душы, было для мяне крэўным.

На час прыёмных экзаменаў нас, абітурыентаў, размясцілі ў цэнтральным універсітэцкім корпусе. Вечарам, помню, угледаючыся праз шырокія вокны ладнага пакоя, дзе мы да часу былі прытулены, думаў: «Вось тут некалі жылі-былі, хадзілі Паўлюк Трус, Кузьма Чорны, Пятро Глебка...» І простая думка-ўява прынесла душэўнае цяпло.

З уступных экзаменаў запомніліся іспыт па гісторыі і сам экзаменатар, статны самавіты прафесар Абецэдарскі.

Не помніцца, што за пытанні былі ў выцягнутым білеце, але добра запомніліся дадатковыя, зададзеныя пасля адказу.

— Каму ў СССР належыць улада?

— Працоўным, у асобе Саветаў дэпутатаў.

Праз гады, праўда, я ўразумеў, што гэта не зусім так, а, пэўна, зусім не так. Але для таго трэба было яшчэ пажыць, каб разабрацца, калі на белае кажуць чорнае і наадварот, не браць адразу тое на веру, а асэнсаваць чаму, дзеля чаго так кажуць.

— Прага чыя сталіца? — гучала наступнае пытанне.

— Чэхаславацкай Народнай Рэспублікі.

— А дзе яшчэ ёсць Прага?

— У Варшаве. Яе прадмесце так завецца.

І апошняе, нечаканае:

— Хто бацькі?

Бацька мой на той час быў «смотрителем зданий» 9-й Маладзечанскай дыстанцыі чыгункі. На момант задумаўшыся, як перакласці тое «смотритель зданий», я патлумачыў, маўляў, бацька, адказны за тэхнічны стан, спраўнасць чыгуначных будак на пераездах. Працуе ў Маладзечне ў майстэрні, мае пад сваёй рукой некалькі сталяроў і слесараў для направы пры патрэбе тых будынкаў.

Пабачыў на твары прафесара паблажлівую ўсмешку, спыніўся.

У 1951 годзе паступіць на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ было няцяжка. Набіралі пяцьдзясят чалавек, і конкурс быў зусім не высокі, нешта 1,7 чалавек на месца. На рускае ж аддзяленне — значна вышэйшы. Праўда, бралі на яго ўсяго дваццаць пяць чалавек.

Як цяпер разумею, на самым пачатку 50-х палітыка русіфікацыі яшчэ, мабыць, не атрымала сваёй раскруткі, яна ішла спантанна. Пасля вайны мелася шмат школ з беларускай мовай навучання. Пра хуткую пабудову камунізму і, адпаведна, ідэалагізму «адзіны савецкі народ» яшчэ не было гаворкі. Тое будзе сканструявана і аб'яўлена значна пазней.

Успамінаючы пражытае, праз гады шмат што з яго бачыцца ў прычынна-выніковых сувязях, у кантэксце часу.

А тады, у свае сямнаццаць, усё глядзелася, успрымалася непасрэдна, проста.

Першыя ўражанні ад лекцыяў, пачутых у студэнцкай аўдыторыі, знаёмства, збліжэнне з аднакурснікамі, — асабісты пачатак у БДУ.

Наша беларускае аддзяленне філфака напалову складалася з хлопцаў. На рускім аддзяленні на ўсю дзявочую кампанію — толькі тры. Нехта са старэйшых пажартаваў: на развод.

Сярод нашых кінулася ў вочы некалькі хлопцаў, што трымаліся сваёй грамадкай, па-зямляцку. Аж пяць з іх было з Навагрудчыны. Нейк у размове пачулася імя іхняга настаўніка беларускай мовы і літаратуры Сцяпана Александровіча. Прозвішча гэта было мне знаёма. Падпісаныя ім нарысы, нататкі я сустракаў у часопісе «Беларусь». Вучні С.Х. Александровіча, мае аднакурснікі Мікола Міхей, Уладзімір Лазоўскі з часам сталі мовазнаўцамі-педагогамі БДУ, Мікола Базарэвіч — тэлежурналістам, а Косця Каратай за гады настаўнічання ды дырэктарства свайго ў Нарачанскім краі здолеў пабудаваць некалькі школаў.



**На дэманстрацыі з нагоды чарговай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Злева направа: Уладзімір Сарока, невядомы хлопец, Жэня Рапановіч, Арсень Ліс, Іван Цішчанка, Лёня Курбека, Мечык Александровіч, 1955 г.**



**Хлопцы беларускага аддзялення філфака БДУ ў 1954 годзе ў летнім лагеры падчас праходжання вайсковай службы (Калодзішчы). Арсень Ліс у другім шэрагу трэці злева.**

Адбыліся, няблага рэалізавалі сябе ў жыцці мае аднакурснікі, выпускнікі філфака БДУ 1956 года. Не толькі тут згаданыя. Пра іншых, калі паспею, скажу, напішу пазней.

Першым аднакурснікам, з якім я пазнаёміўся, а затым і пасябраваў на ўсё жыццё, быў хлопец з Лідчыны Валодзя Сарока. На філалагічны факультэт ён трапіў праз няўдачу паступіць у тэхнічную ВНУ. Закончыўшы з залатым медалём школу, па разнарадцы ваенкамата (быў ужо дапрызыўнага ўзросту) спачатку адправіўся ў Ленінград з намерам паступіць у ваенна-транспартную акадэмію. Аднак не быў прыняты. Лічыў, што не прайшоў мандатную камісію. Стары генерал, што ўзначальваў тую камісію, спытаўся, чаму два старэйшыя браты і яшчэ не стары бацька не ўдзельнічалі ў вайне — не пайшлі ў партызаны. Валодзя адказаў, што працавалі, як і ўсе сяляне, на зямлі, вырошчалі хлеб... для партызанаў. Прычыну незалічанасці даведаўся пазней. У вышэйшыя вайсковыя вучэльні выхадцаў з падакупацыйных тэрыторый не прымалі. Была на тое засцярога. Калі Валодзя вярнуўся дахаты, старэйшы брат Іван параіў паспытаць лёс у БДУ. А тут ужо другая хваля паступоўцаў заканчвала здаваць уступныя экзамены. У прыёмнай камісіі сказалі, што пры спазненні з падачай заяўкі вырашыць пытанне можа толькі сам рэктар. Падаўся ў высокія дзверы. Тады БДУ ўзначальваў М. Чымбург. Рэктар прапанаваў на выбар толькі два факультэты: філфак або хімфак. Выбіраў тое, што было бліжэй душы.

**На самым пачатку 50-х палітыка русіфікацыі яшчэ, мабыць, не атрымала сваёй раскруткі, яна ішла спантанна. Пасля вайны мелася шмат школ з беларускай мовай навучання**

***

Студэнцтва наша рэальна пачыналася з лекцыяў, уражанняў, вынесеных з аўдыторый.

Самую першую з іх, «Уводзіны ў мовазнаўства», слухалі ў самай большай, асноўнай аўдыторыі на другім паверсе галоўнага ўніверсітэцкага корпуса. Называўся ён біялагічным, пэўна, ад таго, што тут месціўся біялагічны факультэт з усімі яго аддзяленнямі ды яшчэ быў музей прыроды Беларусі, у якім я з цікавасцю адразу пабываў.

Сама аўдыторыя была такая прасторная, што абодва аддзяленні філфака ды яшчэ студэнты-журналісты, якія прыйшлі на лекцыю, займалі толькі палавіну яе.

За кафедрай стаяў невысокі паўнаваты мужчына, яшчэ не стары. Запомнілася, што ён шматкроць успамінаў прозвішча французскага вучонага дэ Сасюра, спасылаўся на яго. Між іншым растлумачыў паходжанне слова «зонтик» ад галандскага «sonedache», даслоўна як дах ад сонца. Такое пры ўзнікненні меў першаснае прызначэнне наш парасон.

Дацэнт Касоўскі (не памятаю, ці выкладчык сам прадставіўся нам, ці проста потым мы даведаліся яго імя і званне) гаварыў павольна, расцягваючы казанае, нібы кампенсуючы тым сваю спецыфічную артыкуляцыю. Зрэшты, павольны тон выкладу прадмета быў цалкам апраўданы: інакш як было б лектару ўцямна данесці да зялёнай аўдыторыі агульнамовазнаўчыя паняцці і заканамернасці мовы. Мне было сумнавата. Наступная, бліжэйшая лекцыя, як і папярэдняя, была для нас новай дысцыплінай-прадметам і праходзіла ў зусім іншай танальнасці.

На подыум, за кафедру, энергічна падняўся круглалікі, трывалы постаццю мужчына. Зычліва-ўсмешліва акінуў аўдыторыю. Прадставіўся, назваўшы сваё прозвішча: «Прафесар Гутараў». Сказаў, што будзем разам спазнаваць адну з найцікавейшых навуковых дысцыплін — літаратуразнаўства. Нечакана заявіў, што бачыць перад сабой, значыць, між нас дзясяткаў будучых навукоўцаў, пісьменнікаў ды вострых пяром журналістаў. Распавёў, як сам ішоў у навуку. Між іншым, запомнілася, што спачатку для напісання дысертацыі ён абраў за тэму грамадзянскую лірыку Янкі Купалы, але стаў пісаць пра творчасць Маякоўскага. Ішла другая палавіна 30-х гадоў, і час падказваў актуаліі самой літаратуры савецкай і яе даследчыкам. Нам, натуральна, не магла не заімпанаваць такая жывасць, непасрэднасць прафесарскага звароту да аўдыторыі. Лектар пакідаў надзею пачуць ад яго шмат цікавага, жаданага, нязнанага. Сыпаў на памяць цытатамі.

Ад першага знаёмства з горадам мы паволі пераходзілі да яго пазнання. А пачыналі тое з ускраіны, дзе давялося жыць першы год. У студэнцкі інтэрнат мне трапіць не ўдалося: сям'я чыгуначніка, відаць, лічылася матэрыяльна забяспечанай, здольнай наняць сыну-студэнту прыватную кватэру.

Шукаць кватэры мы пачыналі з завакзалля, у драўляным Мінску. Напачатку з Адамам Мальдзісам, ужо знаёмым мне з семінару літпачаткоўцаў у Маладзечне, закватэравалі ў Каменным завулку. У першы ж выхадны Адась, студэнт журфака, павёў мяне да сваіх аднакурсніц, што жылі непадалёк, на вуліцы Тыфліскай. Пасляваенны Мінск, здаецца, яшчэ доўга захоўваў тую, часоў царскай Расіі, назву грузінскай сталіцы Тбілісі.

Жылі Адасёвы сакурсніцы ў акуратнага выгляду ашаляваным дамку, з невялікім гародчыкам ды невысокай вішнёвай абсадай. Адразу кінулася ў вочы дзяўчо пад вішняй, проста на траве, з вялікім акардэонам у руках, перабіраннем клавішаў, выдабыцём нейкай знаёмай мелодыі.

Пасля Адасёвага прадстаўлення мяне, дзяўчына ўвішна ўстала і, асвяціўшы твар шырокай усмешкай, падала руку: «Зіна!» Праз два гады яна пераасэнсавала першапачатковы свой выбар, збегла з журфака, ад журналістыкі ў кансерваторыю. Пройдзе нейкі час, і Зіна Мажэйка стане знаным даследчыкам беларускай народнай музыкі, разам з Віктарам Ялатавым — стваральнікамі школы беларускай этнамузыкалогіі.

**Фота з уласнага архіву Арсеня Ліса**

**Працяг будзе**

# Музычны мост паміж Мінскам і Гродна

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Логіка развіцця айчыннага рок-руху патрабуе, каб арганізатары канцэртаў, крытыкі і самі музыканты імкнуліся прадставіць айчыннаму слухачу цікавыя калектывы з розных рэгіёнаў краіны. Адным з прыкладаў супрацоўніцтва на карысць гарманічнасці стаў нядаўні сяброўскі канцэрт мінскіх і гродзенскіх рок-гуртоў, які адбыўся ў сталічным клубе «Il Bisonte».**



«СпіноюДаСонца: Вышэй за зоры!»



«Тлушч» і яго лідар П.Белы

Гродзенскую рок-сцэну, якая ўжо мае сваю гісторыю і трывалую традыцыю, прадставілі тамтэйшыя каманды — пераможцы фэсту «Басовішча–2008» панк-гурт «Тлуста Луста» і гурт «СпіноюДаСонца: Вышэй за зоры!», музыканты якога арыентуюцца на рэп-кор і сучасныя накірункі metal-rock. За гонар сталіцы трымалі адказ маладыя і перспектыўныя каманды «Monkey Bite» і «Тлушч».

Паколькі гродзенскія рок-гурты — госці ў Мінску даволі рэдкія, то я не ўтрымаўся, каб не паразмаўляць з гродзенцамі і высветліць, чым жывуць рок-гурты ў Гродна. Першым маім суразмоўцам стаў харызматычны і артыстычны (у сваім панкаўскім амплуа) лідар гурта «Тлуста Луста» Кірыла Богуш:

— У Мінск на гэты канцэрт мы прывезлі новую праграму «Donar-Frik-Tour-2015», якая складзена з выключна новых, яшчэ не вядомых слухачам кампазіцый. Таксама мы змянілі стылістыку гурта, якую цяпер можна назваць олд-скульным панк-рокам з вясёлымі сатырычна-гумарыстычнымі тэкстамі. Гэтыя змены мы падмацавалі і новым сцэнічным іміджам. А таксама новым складам гурта.

Пасля выхаду нашых двух альбомаў праграму «Блін першы» і «Пераначуеш — больш пачуеш» у гурце адбыўся працяглы творчы адпачынак. І вось цяпер гурт сабраўся, хоць і новым складам, і мы пачынаем новы этап у гісторыі «Тлуста Луста».

Да адраджэння нашай музычнай творчасці, большай творчай актыўнасці нас натхніла нядаўняе сумеснае выступленне з легендай польскага року гуртом «Lombard» у Беластоку на фэсце, які быў прысвечаны салідарнасці з беларусамі ў Польшчы і з палякамі ў Беларусі. Асабліва запомнілася сумеснае з «Lombard» і яго лідарам Г. Стружняком выкананне кампазіцыі «Шлях да свабоды». Без перабольшвання зазначу, што хіты гурта «Lombard» выклікалі ў нас настальгію, бо гэтыя песні былі знаёмыя слухачам па абодва бакі мяжы.



Гурт «Monkey Bite»

Таксама я папрасіў гітарыста і вакаліста гурта «СпіноюДаСонца: Вышэй за зоры!» Мікалая Скрабца прадставіць мінскай публіцы сваю каманду, якая ўжо мае адзін жартаўлівы тытул: «уладальнік самай доўгай назвы ў беларускай рок-музыцы»:

— Мы працуем ужо два з паловай гады. Нам яшчэ шмат трэба будзе зрабіць для росту нашай вядомасці. Трэба таксама пашырыць нашу канцэртную геаграфію, чым мы зараз і займаемся. У нас не так даўно былі канцэрты не толькі ў Гродна, але і Віцебску, вось цяпер у Мінску. У планах — выданне дэбютнага альбома, хоць у нашай фанатэцы ўжо ёсць два максі-сінгла з нашымі песнямі.

У адносінах да маладых гуртоў, бывае, кажуць: яны ў пошуку. Але ў нашым гурце склалася асноўная прынцыповая пазіцыя: мы граем і спяваем стоадсоткава на роднай мове. Гэта не абмяркоўваецца, бо ўся наша творчасць па-беларуску. А што датычыцца стылю музыкі, то мы выконваем альтэрнатыўны metal з дамешкам рэп-кору. Вось гэтую стылістычную аснову мы імкнёмся разнастаіць элементамі панк-року і рок-н-рола. Тэксты і мелодыі да нашых кампазіцый стваращю я. Хоць у нас ёсць і іншыя прыклады: у нашым рэпертуары ёсць, напрыклад, кавер на Джорджа Майкла «Carelles Whisper», да якога я з арыгіналу напісаў беларускі тэкст.

Пакуль вялася наша размова з гасцямі, па законах гасціннасці канцэрт распачалі сталічныя каманды. І гэта быў гурт «Monkey Bite», які выйшаў на сцэну з вакалістам «Тлушча» Паўлам Белым. Той замяніў асноўнага спевака, які ў гэты час не змог трапіць на канцэрт. Можа, з-за англамоўнай назвы, можа па іншых прычынах, але мне асабіста «Monkey Bite» знаёмы быў мала. Аднак першыя ўражанні ад прафесійнага выканання, ладных мелодый і рытмікі песень былі вельмі прыязнымі. Асабліва, калі музыканты «Monkey Bite» «ужывую» прадставілі свой хіт, вядомы па ратацыі ў інтэрнэце — «Ніколі». Мае асабістыя станоўчыя ўражанні былі падмацаваны апладысментамі слухачоў. Гэтыя эмоцыі былі ўзмоцнены і іншымі спевамі гурта «Monkey Bite», якія пры належнай ратацыі маглі б прэтэндаваць на добрыя водгукі крытыкаў і ўвагу слухачоў: «Каралева», «Камяні», «Зорка»...

Пасля гарачага сэта «Monkey Bite» Павел Белы ўзяў гітару і заняў месца фронтмэна ў сваім «родным» гурце «Тлушч», які працягнуў меладычна-рок-н-рольную хвалю ў клубе «Il Bisonte». Хочацца адзначыць такія іх песні, як «Паміраць сабраўся, а жыта сей», «Барселона», «Lida Sneakers» і іншыя рок-кампазіцыі, даказвалі, што гурт «Тлушч» дасягнуў добрага выканаўчага ўзроўню, а іх песні вартыя гучаць на буйных радыёстанцыях і фэстах. Адным словам, мінскія музыканты сваёй энергетыкай стварылі для гасцей з Гродна добрыя ўмовы для працягу канцэрта.

Таму з цікаўнасцю і ўхвалой публіка чакала заслужаных панк-рокераў з гурта «Тлуста Луста». Пакуль музыканты рыхтавалі інструменты і апаратуру, удалося разглядзець новы імідж Кірылы і яго калегаў — гатычна-панкавы, у старых традыцыях — з чорным майкапам і павязкамі, з неверагоднай даўжыні чубамі...

Першыя візуальныя ўражанні змяшаліся з гукавой хваляй старога панк-року. Кірыла Богуш па традыцыі суправаджаў новыя песні ад гурта «Тлуста Луста» працяглымі і дасціпнымі каментарамі, якія толькі дадавалі добрага настрою слухачам. Што тычыцца новай праграмы — «Donar-Frik-Tour-2015», то гэты музычны матэрыял можна назваць крокам да каранёў панк-року, хоць і з беларускім ухілам. Гэтыя рытміка-меладычныя акцэнты добра адчуваліся ў першай кампазіцыі сэта гурта — каверы на хіт N.R.M. «Трактар», у якім зліліся магутная энергетыка, цягучае гітарнае гучанне і рытмічнае буйства ўдарных інструментаў. І, безумоўна, не абышлося без спецыфічнай сатыры і гумару, у якіх гурт «Тлуста Луста», як кажуць гродзенцы, «велькі» спецыяліст. Музыканты пераканаўча прадэманстравалі яго ў такіх панк-скэтчых, як «Саладуха», «Беражыце мужчын» і «Хачу мужа»... Затое слухачы былі задаволеныя!

Сваіх землякоў-панкаў актыўна і гучна падтрымалі музычныя экстрэмалы з гурта «СпіноюДаСонца: Вышэй за зоры!». Музыканты набылі вядомасць пасля выпуску двух максі-сінгаў «Спроба першая» і «Сэрца разбітае». Кампазіцыі з гэтых рэлізаў і былі выкананыя на гэтым сумесным канцэрце. Тыя, хто знаёмы з творчасцю каманды, пазнаў такія спевы, як «Мой лёс», «Хлусня», «Попел» — сур'ёзных, філасофскіх па зместу і, меладычных па кампазіцыі. Хоць, канешне, рэп-кор — гэта больш рытмічная чытка тэксту, чым меладычныя хады. Але гурту ўдавалася знаходзіць баланс паміж энергічным выкананнем і сэнсавым напаўненнем твораў. Што вялікая рэдкасць для адэптаў гэтага экстрэмальнага музычнага напрамку.

Урэшце, пасля заканчэння гродзенска-мінскага канцэрта-сплітa склалася ўражанне, што нашы госці — гурты «Тлуста Луста» і «СпіноюДаСонца: Вышэй за зоры!» — вартыя прадстаўнікі і пасланцы рэгіянальнага рок-руху Гродзеншчыны. Радасна, што гэтыя музыканты, як і шмат іншых па ўсёй краіне, крыніцу сваёй творчасці і натхненне знаходзяць у нацыянальных традыцыях, у мелодыцы роднай беларускай мовы.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар
**Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 625 57 51; +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81; novychas@gmail.com

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1507

Падпісана да друку 27. 11.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.